ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 22 (4566) 4 чэрвеня 2010 г.

# У нумары:







*Калаж Віктара Калініна*

# Служыць памяці

## Да 50-годдзя Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

Культура памяці народа вызначаецца яго імкненнем да стварэння архіваў, музеяў, бібліятэк. Дзяржаўная апека над гэтымі ўстановамі гарантуе іх скарбам захаванасць і годнае служэнне навуцы і чалавеку. Калі ў другой палове 1950-х гадоў была прапанавана ідэя стварэння ў Беларусі літаратурнага архіва, у шэрагі яе прыхільнікаў сталі многія пісьменнікі і вучоныя. Для газеты "Літаратура і мастацтва" быў падрыхтаваны артыкул Дзмітрыя Бародзіча "Даўно наспеўшае пытанне". У ім, паміж іншым, было адзначана, што "неабходнасць стварэння Беларускага дзяржаўнага літаратурнага архіва даўно наспела. Час, нарэшце, Саюзу пісьменнікаў БССР і Дзяржаўнаму архіўнаму ўпраўленню БССР усур'ёз заняцца гэтай справай".

9 чэрвеня 1960 года доўгачаканая пастанова Савета Міністраў БССР аб стварэнні ў Беларусі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва была падпісана, а ў хуткім часе і прыняты першыя фонды: паэтаў М. Машары і М. Васілька.

Вялікі шлях пераадольваецца мноствам маленькіх крокаў. І ў кожным з іх ёсць свой сэнс і свой пафас. Для Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва найвышэйшым сэнсам ёсць збор і захаванне літаратурнай і мастацкай спадчыны. З часу напісання артыкула Д. Бародзіча адносіны да літаратурных архіваў змяніліся кардынальна, а справа іх камплектавання стала дзяржаўнай задачай. Сёння ў сховішчах БДАМЛМ захоўваецца 475 архіўных фондаў, калекцыя мемарыяльных рэчаў, трыццацітысячная бібліятэка, у якой сярод многіх унікальных кніг і выданняў — газеты "Наша доля", "Наша Ніва", "Вольная Беларусь", "Звон"; часопісы "Маладняк", "Узвышша"; восем выданняў (пачынаючы з 1898 года) паэмы "Тарас на Парнасе", першыя выданні твораў М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, кнігі В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, асабістыя бібліятэкі пісьменнікаў і вучоных і інш. І кожнае паступленне — падзея, і кожны дакумент, рукапіс, фотаздымак — вялікая вартасць нашага Нацыянальнага архіўнага фонду.

Большую частку фондаў БДАМЛМ складаюць пісьменніцкія фонды, больш як дзвесці. Гэта палова ад усёй колькасці архіваў асабістага паходжання, якія паступілі ў архіў-музей за ўсю яго гісторыю. Сярод іх зборы і калекцыі Янкі Купалы, Якуба Коласа, сям'і М. Багдановіча, Ц. Гартнага, І. Грыгаровіча, асабістыя архіўныя фонды А. Адамовіча, А. Александровіча, З. Астапенкі, А. Астрэйкі, З. Бандарынай, Я. Барычэўскага, Я. Брыля, К. Буйло, В. Быкава, С. Грахоўскага, А. Гурыновіча, У. Дамашэвіча, У. Дубоўкі, Я. Журбы, К. Каганца, У. Караткевіча, У. Калесніка, А. Кулакоўскага, Я. Маўра, І. Мележа, А. Пальчэўскага, П. Панчанкі, П. Пестрака, І. Пташнікава, Я. Пушчы, Я. Семяжона, М. Танка, П. Труса, М. Хведаровіча, І. Шамякіна, С. Шушкевіча, У. Юрэвіча і многіх іншых. Немагчыма ўявіць таксама гістарычную прастору мастацтва і культуры Беларусі без асабістых фондаў легендарных акцёраў і рэжысёраў Г. Абуховіч, А. Кістава, А. Клімавай, Г. Макаравай, П. Малчанава, Б. Платонава, К. Саннікава, С. Станюты, У. Уладамірскага, Р. Янкоўскага, спевакоў Л. Александроўскай, І. Балоціна, С. Друкер, М. Забэйды-Суміцкага, Р. Млодак, кампазітараў Я. Цікоцкага, А. Багатырова, М. Аладава, Г. Вагнера, мастакоў і скульптараў І. Ахрэмчыка, В. Волкава, А. Глебава, А. Грубэ, А. Кашкурэвіча, А. Марыкса, С. Селіханава, А. Тычыны і многіх іншых. Толькі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва можна ўбачыць Рукапісны малітоўнік Блажэя Пальма другой паловы XVIII ст., рукапіс неапублікаванага зборніка І. Грыгаровіча "Беларускі архіў", мастацкія працы К. Каганца, развітальныя аўтографы паўстанцаў 1863 года, рукапісную "Беларускую хрэстаматыю" Б. Эпімах-Шыпілы, сямейныя альбомы Неслухоўскіх і Багдановічаў, дзівоснай прыгажосці здымкі Цёткі, залаты пярсцёнак Б. Тарашкевіча, асабістыя рэчы М. Гарэцкага і А. Бабарэкі і яшчэ многае і многае, што нязменна выкліча ў кожнага вялікае захапленне.

У чытальнай зале архіва-музея прайшоў не адзін дзень карпатлівай працы нашых выдатных вучоных С. Александровіча, Р. Семашкевіча, Г. Кісялёва, У. Калесніка, Г. Каханоўскага, Д. Жураўлёва, А. Каўкі, А. Мальдзіса, У. Мархеля, Я. Янушкевіча і многіх іншых.

На сучасным этапе Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва арганізуе вечарыны, прэзентацыі, ставарае тэматычныя і персанальныя выставы, выдае дакументальныя зборнікі, рыхтуе археаграфічныя публікацыі, удзельнічае ў міжнародных і рэспубліканскіх канферэнцыях. З 2001 года ў архіве-музеі арганізуюцца і ўжо набылі вялікую папулярнасць Узвышаўскія чытанні, прысвечаныя гісторыі беларускай літаратуры 1920 — 1930-х гадоў, з 2003 года — Архіўныя чытанні, на якіх абмяркоўваюцца тэарэтычныя і практычныя праблемы архіўнай справы.

Пры нагодзе ўспамінаюцца радкі з верша Л. Рублеўскай, напісаныя да аднаго з юбілеяў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва:

…І нас забудуць
непапраўна рана.
Як мы забылі —
так забудуць нас.
Наш след зямны
загаснецца, як рана,
Як гасне слуцкі залаты паяс.
Не затрымацца
ні радком, ні вершам.
Парсуна страціць
колер і імя.
Хто быў апошнім —
той не стане першым,
А першага таксама
з'есць зямля.
І я таму над пыльнай
кнігай слепну,
І падымаю камні на кладах,
І разбіраю тонкі почырк неба
Па лісцем зацярушаных слядах.
Я памяці служу,
як служаць Храму,
Між мною і мінуўшчынай
— не шкло,
А лёгкі дождж,
і агароджа брамы —
Архангела празрыстае крыло.
І можа, я таксама —
толькі кніга
З лістамі,
недаступнымі дажджу.
Няхай маё імя
забудуць звыкла —
Я буду жыць у тым,
што запішу.

Сёння ў архіве-музеі "служыць памяці" калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў, "служаць памяці" і яго нястомныя даследчыкі, усе, хто збірае, захоўвае і вывучае нашу літаратурна-мастацкую спадчыну.

Ганна ЗАПАРТЫКА,
дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

Фота Кастуся Дробава і з архіва-музея

**(Працяг тэмы на стар. 4-5)**

## Пункцірам

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, выдатнага паэта Андрэя Вазнясенскага выказаў спачуванні яго родным і блізкім, паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка дзяржавы. "Ён заняў асаблівае месца ў гісторыі літаратуры, стаў для некалькіх пакаленняў нашых сучаснікаў не проста паэтам, а прарокам, першаадкрывальнікам новых творчых форм", — адзначаецца ў спачуванні.

•Саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Юрый Гарадзецкі ўганараваны першай прэміяй VII Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Станіслава Манюшкі ў Варшаве. Апроч узнагароды ў 10 тысяч еўра, артыст атрымаў шраг спецыяльных прызоў — лепшаму тэнару, лепшаму выканаўцу польскага рэпертуару, а таксама прызы ад двух польскіх тэатраў, якія даюць магчымасць удзельнічаць у іх пастаноўках.

•У музеі гісторыі Гомеля пачала дзейнічаць выстава французскага фотамастака Мішэля Рабіне пад назвай "Адлюстраванні". На здымках аўтара — вуліцы, храмы і дамы, адлюстраваныя ў вітрынах і шыбах.

•Інтэрнэт-часопіс "Прайдзі-Свет", які нядаўна адзначыў гадавіну сваёй дзейнасці, уручыў адмысловыя прэміі перакладчыкам мастацкай літаратуры. За паэтычны пераклад паэмы "Беавульф" узнагароду атрымаў Антон Францішак Брыль, за перастварэнне прозы — Льюіса Кэрала "Скрозь Люстэрка, і Што ўбачыла там Аліса" — Вера Бурлак. А найлепшай публікацыяй у часопісе журы абрала пераклады Ганны Янкуты.

•Найпрыгажэйшай дзяўчынай галоўнай ВНУ краіны, па меркаванні журы конкурсу "Міс БДУ-2010", стала студэнтка другога курса Інстытута журналістыкі Таццяна Нікіціна.

•Пераезд у новы будынак на вуліцы Веры Харужай адсвяткаваў Інстытут імя Гётэ ў Мінску. Пашырэнне плошчаў дазволіць праводзіць тут яшчэ больш культурных мерапрыемстваў, а таксама арганізаваць заняткі ў Інстытуце.

•Часопіс "Монолог" адсвяткаваў 14-годдзе прэзентацыяй свайго чарговага выпуску ў Доме дружбы. Выданне прадстаўляе зрэз сучаснай культуры, дае слова розным аўтарам, якія на яго старонках могуць прадэманстраваць свой адметны голас праз паэзію, драматургію, фатаграфію ці жывапіс.

•Фестываль сярэднявечнай культуры "Меч Брачыслава", прымеркаваны да святкавання 945-годдзя горада, прайшоў у Браславе. Гэта першы фестываль, які паяднаў рыцарскія турніры, старажытныя рамёствы, музычныя выступленні, тэатральныя інсцэніроўкі і распове-ды археолагаў.

•Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі выступіў у старажытным Міры. Тут адбылася ўжо восьмая імпрэза "Мірскі замак-2010", якая традыцыйна знаёміць мясцовых жыхароў з выдатнымі ўзорамі нацыянальнай музычнай спадчыны.

•У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі, што знаходзіцца ў гарадской ратушы, праходзіць выстава інтэр'ерных аўтарскіх лялек. Скульптурныя тэкстыльныя лялькі з лёну, баваўны, дрэва, а таксама пластыка выкананыя віцебскімі майстрамі Аленай і Любоўю Канюшкамі.

•Мінскі моладзевы хор "Салютарыс" пад кіраўніцтвам дырыжора Вольгі Янум перамог у катэгорыі "аматарскія свецкія хоры" на XXIX Міжнародным фестывалі-конкурсе духоўнай музыкі "Гайнаўка-2010" у Беластоку.

Саша ДОРСКАЯ

## Фестывалі

# Беларусь шматнацыянальная

З 4 па 6 чэрвеня ў Гродне пройдзе заключны этап VIII Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Гэта адзін з найбольш адметных і яркіх фестываляў, якія праводзяцца ў Беларусі, і унікальных у Еўропе.

У такім, як у нас, фармаце фестываляў у іншых краінах няма. Хаця агляды нацыянальных культур праводзяцца ў Польшчы, Расіі, Малдове... Цяпер у Беларусі пражываюць прадстаўнікі больш як 140 нацыянальнасцей, функцыянуе 124 грамадскія арганізацыі, якія маюць магчымасць данесці да беларускага гледача самабытную культуру свайго народа. Да падрыхтоўкі і правядзення фестывалю спрычыніліся Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, Гродзенскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, а таксама мясцовыя органы ўлады. Прайшлі ўжо адборачныя абласныя і мінскі гарадскі туры фестываляў. А на заключны этап у Гродне Рэспубліканскае журы адабрала 792 прадстаўніка розных нацыянальнасцей.

Ідэя правядзення падобнага фестывалю ўзнікла на пачатку 1990-х гадоў. Планавалася, што свята будзе праходзіць у розных гарадах нашай краіны. Але ўсе ўдзельнікі разам пагадзіліся: менавіта ў Гродне найбольш поўна можна рэалізаваць ідэю праекта. Гэтаму спрыяе унікальнае асяроддзе і этнакультурная разнастайнасць горада. Сёлета ўпершыню адкрыццё ўрачыстых мерапрыемстваў адбудзецца на гарадскім стадыёне "Нёман". Галоўная тэма — 65-годдзе Вялікай Перамогі. Ёй будуць прысвечаны спецыяльны канцэрт, імпрэзы на нацыянальных падворках і Агонь Памяці, наладжаны ў Пышках, дзе пройдуць сустрэчы ветэранаў вайны.

Асноўны і самы трапяткі на фестывалі — другі яго дзень, калі пачынаюць працу падворкі. Сёлета іх будзе ажно 40, амаль удвая больш, чым на папярэднім. Упершыню выставяць свае падворкі дыяспары галандцаў, кітайцаў.

У рамках фестывалю пройдуць святы духавой музыкі, харэаграфічнага мастацтва і дзіцячае, свята кіно і свята народных рамёстваў. А на трэці дзень урачыстасцяў можна будзе ўдосталь насыціць свой апетыт духмянымі стравамі нацыянальнай кухні кожнага з падворкаў.

Што да літаратуры, то запланаваны прэзентацыі выданняў нацыянальных згуртаванняў, адбудзецца таксама свята паэзіі, у якім возьмуць удзел супольна беларускія пісьменнікі і творцы з дыяспар.

Ірына ТУЛУПАВА

## Кантакты

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі прымаў гасцей: тут пабывалі генеральны дырэктар Тбіліскага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі Давід Сакварэлідзе, а таксама прадстаўнікі Пасольства Грузіі ў нашай краіне.



# Будзем супрацоўнічаць!

Паводле інфармацыі, якую мы атрымалі з тэатра, для грузінскай дэлегацыі правялі экскурсію па аднаўленым будынку; таксама адбыліся перамовы кіраўніцтва НАВТ оперы і балета Беларусі з шаноўнымі гасцямі. Вынікам сталася падпісанне меморандума пра супрацоўніцтва паміж Тбіліскім тэатрам оперы і балета імя З. Паліяшвілі ды нашым Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам. Дасягнута дамоўленасць пра пачатак узаемавыгаднага супрацоўніцтва, культурны абмен у галіне музычнага мастацтва, тэатральна-пастановачнай дзейнасці, супольнай арганізацыі і правядзення міжнародных творчых акцый.

Дарэчы, беларуска-грузінскія стасункі ў галіне мастацтва маюць добрыя традыцыі. Мы можам прыгадаць мінскую версію оперы А. Тактакішвілі "Міндзія", поспех "Закона вечнасці" Н. Думбадзе на Купалаўскай сцэне, оперныя пастаноўкі народнага артыста БССР С. Штэйна ў Тбілісі, трыумф мужчынскага хору "Бараці" на міжнародным фестывалі "Магутны Божа" ў Магілёве, таленавітых дзетак ансамбля "Сададрыдзі", выстаўку работ Н. Пірасмані ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, канцэрты скрыпачкі Л. Ісакадзе, сёлетні візіт у Мінск выдатнага маэстра Г. Чычынадзе, "Лезгінку" З. Паліяшвілі, якая ўпрыгожвае рэпертуар беларускіх музыкантаў розных пакаленняў, ды многія іншыя прыклады нашых ранейшых і нядаўніх культурных кантактаў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: генеральны дырэктар Тбіліскага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі Давід Сакварэлідзе і генеральны дырэктар НАВТ оперы і балета Беларусі Уладзімір Грыдзюшка падчас падпісання мемарандума.

Фота з сайта тэатра

## Мінулае і сёння

Грунвальдская бітва — адна з самых значных падзей у беларускай гісторыі, якая змяніла лёс не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і іншых краін Еўропы. Мерапрыемствы, прысвечаныя 600-годдзю бітвы, будуць адбывацца ў розных установах краіны. Нацыянальны гістарычны музей таксама адгукнуўся на гэтую падзею. Тут адкрылася сумесная з Беларускім саюзам мастакоў выстаўка, прайшоў "круглы стол", на які, каб падзяліцца навуковымі здабыткамі, сабраліся вучоныя, выкладчыкі, супрацоўнікі музеяў.



# Грунвальд: terra incognita?

15 ліпеня 1410 года — дата, вядомая ўсім студэнтам і большасці школьнікаў. У той жа час існуе пытанне аб пашырэнні фактаў пра Грунвальдскую бітву на шырокае кола аўдыторыі, пра ўвасабленне гэтай падзеі як лёсавырашальнай у свядомасць беларусаў.

Юрый Бохан, доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, заўважыў, што для высвятлення гістарычнай праўды пра Грунвальдскую бітву не заўсёды можа лічыцца пошук кансенсусу паміж рознымі крыніцамі. Сёння многія з устойлівых міфаў могуць быць разбураны: пра слабасць вайсковай справы ВКЛ, пра перавагу крыжацкага ваеннага майстэрства, пра наяўнасць крыжацкіх воўчых ям на полі бітвы.

Звярталася ўвага на тое, што нам трэба вярнуць прысутнасць беларусаў на Грунвальдскім полі ў падручнікі Еўропы. І зрабіць гэта можна праз асобу мсціслаўскага князя Сямёна — Лінгвена (Лугвена), які падчас бітвы узначальваў левае крыло войска Вітаўта, зазначыў Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУКіМ.

Ігар Гарбуноў, дацэнт Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава, прадставіў набор дэкаратыўных шахмат "Грунвальд" — дыпломную працу Уладзіміра Градовіча. З-за недахопу часу і тэхнічных абмежаванняў атрымалася толькі палова з патрэбных 32-х фігур. Але вывы Ягайлы — караля, Вітаўта — ферзя, ратніка — пешкі, магістра ордэна, манахаў уражваюць дэталёвасцю адлюстравання.

Шмат увагі даследчыкі звяртаюць і на ваенны рыштунак воінаў ВКЛ. Сёння гэтая тэма ўжо не з'яўляецца terra incognita для навукоўцаў. Але найменш даследаванымі ўсё яшчэ застаюцца стэпавыя элементы. Татарскага ўплыву на рыштунак літоўскіх рыцараў не магло не быць. На гэтыя моманты звярнуў увагу Мікалай Плавінскі, загадчык навукова-фондавага аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

Марыя Бяспалая, загадчык кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства БДУКіМ, паведаміла пра асаблівасці выкладання тэмы Грунвальдскай бітвы. Студэнты лічаць, што наша гісторыя нецікавая, абмежаваная. І менавіта гэтая бітва, дыпламатычная падрыхтоўка да яе, вывучэнне стратэгіі і тактыкі вядзення бою, узроўню ваеннай падрыхтоўкі саюзнага войска, дзейнасці Вітаўта паказваюць цікавасць нашай мінуўшчыны.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Ігар Гарбуноў прадстаўляе шахматы "Грунвальд".

Фота аўтара
Калаж Віктара Калініна

## Прэзэнтацыі

# Творца дзвюх эпох

На філалагічным факультэце БДУ адбылася прэзентацыя першага тома Збору твораў Івана Шамякіна, які нядаўна выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". На сустрэчу са студэнтамі-філолагамі прыйшлі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, якія маюць непасрэднае дачыненне да выдання, тэкстолагі, а таксама літаратуразнаўцы, рэдактары часопісаў і выдавецтва.

Дачка пісьменніка, загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры прафесар Таццяна Шамякіна, прадстаўляючы студэнцкай аўдыторыі вядомых даследчыкаў творчасці бацькі, яго блізкіх і сяброў, адзначыла, што сучасны перыяд літаратурнага развіцця не адмаўляе лепшых мастацкіх дасягненняў папярэдніх гадоў, а ўзнімае літаратурнае жыццё на новую ступень арганічнага і заканамернага росту. Сведчаннем гэтаму і значная падзея ў жыцці культурнай грамадскасці рэспублікі — выданне Збору твораў І. Шамякіна.

Галоўны рэдактар выдання і аўтар прадмовы акадэмік Уладзімір Гніламёдаў у сваім выступленні падкрэсліў, што пісьменнік І. Шамякін належыць дзвюм эпохам — мінулай і сённяшняй, бо яго творы заўсёды адлюстроўвалі зрухі ў грамадстве і свядомасці людзей, служылі апорнымі пунктамі ў пошуках самых плённых літаратурных шляхоў.

Пра вялікую даследчую працу, якая вялася над укладаннем і выданнем першага тома Збору твораў І. Шамякіна, расказалі член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі, загадчык аддзела тэксталогіі Інстытута мовы і літаратуры Тэрэза Голуб, малодшая дачка пісьменніка, аўтар навуковых каментарыяў да першага тома Алеся Шамякіна.

Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі прыгадаў гады шчырага сяброўства з І. Шамякіным, час, калі адбылася катастрофа на Чарнобыльскай АЭС, сумесныя паездкі з пісьменнікам на радзіму, яго шчыры клопат і хваляванні пра людзей, якія засталіся на забруджанай тэрыторыі. Жыццё, нагадаў М. Мятліцкі, заўсёды ў мастацкія творы І. Шамякіна ў яго рэальным аблічы, асэнсоўвалася з пазіцый новага часу і само ўплывала на мастацкасць твораў пісьменніка.

Даследчык творчасці І. Шамякіна прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры Алесь Бельскі падкрэсліў значнасць выдання Збору твораў пісьменніка, запатрабаванасць яго спадчыны на сучасным этапе літаратурнага развіцця.

Таццяна БЕЛЬСКАЯ

Літ-абсягі

# …Мы сапраўды ніколі не забудзем!



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет унікальнае выданне вядомай калектыўнай кнігі "Ніколі не забудзем".

Сродкам ушанавання памяці і выключна высокамастацкім кнігавыдавецкім праектам можна лічыць новае выданне вядомай калектыўнай кнігі "Ніколі не забудзем" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 2010 год). Выпуск ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. Дызайн-канцэпцыя, мастацка-графічнае афармленне, камп'ютэрны арыгінал-макет належаць А. Пятрову і В. Рагалевічу. Адрукавана кніга на Мінскай фабрыцы каляровага друку.

Сталыя кніжнікі, бібліятэкары памятаюць многія выданні "Ніколі не забудзем". Кніга лаканічных, шчымліва-балючых успамінаў пра вайну, аўтарамі якіх з'яўляюцца дзеці — удзельнікі Вялікай Айчыннай, упершыню пабачыла свет у 1948 годзе. Тады яе выдрукавалі накладам 15 000 экзэмпляраў. "Расказы беларускіх дзяцей аб днях Вялікай Айчыннай вайны", як было пазначана ў падзагалоўку, убачылі свет пад рэдакцыяй Янкі Маўра. Праз год ленінградскі "Детгиз" у перакладзе Паўла Кабзарэўскага падараваў кнігу чытачам усёй савецкай краіны — ужо на рускай мове. З часам пераклад на рускую мову зрабілі яшчэ і Б. Бур'ян, і У. Жыжэнка. Другое беларускае выданне датавана 1951 годам. Наступныя — 1959, 1961, 1962, 1965, 1970, 1972, 1981, 1985, 1989… Толькі ў "Юнацтве" зборнік выходзіў тройчы. Апошні раз — тыражом у 200 000 (!) экзэмпляраў.

Новае выдавецкае і паліграфічнае прачытанне славутай, легендарнай кнігі не можа не ўражваць. У зборніку шматзначным падтэкстам прасякнута літаральна кожная старонка, пачынаючы ад фотаздымкаў дзяцей на вайне і дзяцей, якія з'яўляюцца нашымі сучаснікамі. Сапраўды, выданне сталася праявай вышэйшага мастацтва кнігі! Нельга не адзначыць рэдактарскую работу над выданнем. Лагічным дадаткам да саміх дзіцячых апавяданняў з'яўляецца факсімільная публікацыя газетных артыкулаў, архіўных матэрыялаў, звязаных з гісторыяй кнігі "Ніколі не забудзем". Як цікава даведацца, што ў пачатку зборы дзіцячых апавяданняў Янка Маўр, любімы беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі пісьменнік, даваў наступныя парады: "…Пішыце аб усім, не бойцеся, ніхто вас не асудзіць за няўмельства. А калі вырасцеце, пасівееце, то як цікава будзе вам узяць у рукі сваю кніжку і прачытаць, што вы перажывалі ў дзяцінстве". Беларускі народ сапраўды перажыў вялікую і трагічную часіну вайны, напоўніцу паспытаў пакут і бяды. Забыць гэта нельга!

Мікола БЕРЛЕЖ

Арт-лінія

# Сімвалы і пачуцці

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі.



Праграма канцэрта была вельмі насычаная і ўключала шмат прэм'ер. Адкрыла яе вакальна-харэаграфічная кампазіцыя "А зори здесь тихие", якая стала камертонам усяго канцэрта. Галоўнай мэтай было не толькі акцэнтаваць увагу на выпрабаваннях, што выпалі нашаму народу, але стварыць партрэт народа-пераможцы: мужнага — і памяркоўнага, сціплага — і гераічнага. Дзякуючы хору ажылі ў сэрцах гледачоў партызанская дарогі, лясы, дзе гучалі "Песні беларускіх партызан", прайшлі перад вачыма Настасся Купрыянава і яе чатыры сыны, ніводнага з якіх не дачакалася маці ("Балада пра маці"), ахапіў холадам душу жах лагераў смерці ("Трасцянец"). "Гэта нельга забыць!" — паўтарала адным дыханнем публіка ў зале, слухаючы аднайменную кампазіцыю. Кульмінацыяй канцэрта сталася выкананне твора У. Будніка "Победа" на вершы А. Алпеева ў апрацоўцы М. Дрынеўскага.

А другое аддзяленне нагадвала святочны салют яркімі фарбамі касцюмаў ("Масленіца"). Зазіхацелі колеры навакольля, бо сышла чорная навала вайны. Засталася прыгожая краіна і цудоўныя, працавітыя, таленавітыя людзі з трапяткою душою, якая ўмее адчуць харaство пачатку вясны ("Жавароначкі, пpыляціце"), купальскай ночы ("Ночка зорная, купальная"), летняга дня ("Хоць і лета красавала"), спеваў акарыны ("Ой, без дудкі, без дуды ногі ходзяць не туды").

"Праграма рыхтавалася доўга, — зазначыў мастацкі кіраўнік хору Міхась Дрынеўскі, — і будзе ўдасканальвацца. Зала была запоўненая — у хору шмат прыхільнікаў, апладзіравалі яны стоячы.

Часам даводзіцца чуць, што праз пятнаццаць-дваццаць гадоў памяць пра Вялікую Айчынную вайну страціць трагічныя і ўзнёслыя ноты і застанецца толькі ідэалагічным сімвалам. Бо скончыцца зямны шлях яе ўдзельнікаў, суровых сведкаў гісторыі. Будзе так ці не, адкажа час. Але, думаецца, лёс злітуецца над тымі, чыё дзяцінства атруціла вайна, і іх жыццё будзе доўгае. А значыць, яны паспеюць перадаць наступным пакаленням радасць вялікага свята Перамогі, якая жыве ў іх сэрцах.

Сёлета адзначаецца стагоддзе з дня нараджэння Генадзя Цітовіча — чалавека, адданага сваёй краіне, нястомнага збіральніка духоўнага скарбу беларусаў. Скажаце, імя-сімвал? Але ж на сцэне харам, які носіць славутае імя і выконваў народную песню ў апрацоўцы Г. Цітовіча, дырыжыраваў унук легендарнага маэстра — Генадзь Цітовіч, студэнт другога курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: артысты Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча.

Фота Віктара Кавалёва

Повязі

# Аляксей Каўка — рухавік і генератар беларускага асветніцтва ў Маскве




Месца і роля вучонага, гістарычнага пісьменніка Аляксея Каўкі ў сучасным беларускім асветніцтве Масквы даўно і акрэслена вызначаны. Доктар філалагічных навук, кандыдат гістарычных навук, напрыканцы 1980-х галоўны рэдактар часопіса "Советское славяноведение", аўтар многіх кніг, ён — з кагорты тых нашых суайчыннікаў за межамі Беларусі, для каго адраджэнне, нацыянальная свядомасць не з'яўляюцца пустымі гукамі. І невыпадкова ў полі зроку даследчыка — жыццё, творчасць, навуковая дзейнасць такіх далёкіх па часе адзін ад аднаго персанажаў гісторыі, як Ф. Скарына, Янка Купала, К. Езавітаў, І. Луцкевіч, В. Ластоўскі, М. Улашчык, М. Каспяровіч…

Адзін са шматгадовых клопатаў Аляксея Каўкі — літаратурна-навуковы гадавік "Скарыніч", які выходзіць з 1991 года. Асобныя яго выпускі пабачылі свет у Мінску, у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Увогуле, крыху адхіляючыся ад тэмы, зазначу і наступнае: 1980-я — першая палова 1990-х гадоў сцвердзілі ў айчынным кнігавыданні традыцыю перыядычных альманахаў, штогадовых зборнікаў, тым самым заявіўшы пра новы этап кніжнай культуры. Памятаеце: "Далягляды", "Братэрства", "Ветразь", "Вобраз", "Сучаснік", "Шляхам гадоў", "Свіцязь"… Шкада, што гэта ўсё знікла. "Скарынічу", чый здвоены, восьмы-дзевяты, выпуск пабачыў свет у Маскве ("Советский писатель", 2010), выпаў болей шчаслівы лёс. Хутка цікаўныя да беларускай гісторыі, культуры чытачы будуць мець магчымасць святкаваць 20-годдзе "Скарыніча" (першы выпуск выдадзены ў 1991 годзе). Канечне ж, такое "доўгажыхарства" магчыма толькі дзякуючы энергіі і грамадскай ініцыятыве укладальніка — Аляксея Каўкі.

Сёлетні "Скарыніч" (287 старонак, 400 асобнікаў) прысвечаны 1000-м угодкам летапіснае Літвы — Беларусі, "а таксама беларускай прысутнасці ў маскоўскай (расійскай) прасторы, малазнаным старонкам з гісторыі нацыянальнага адраджэння". Цікавым творчым праектам адкрываецца раздзел "Крыўя — Русь — Літва — Беларусь": змешчаны пераклады верша "Пагоня" Максіма Багдановіча на літоўскую, польскую, рускую, украінскую, англійскую, нямецкую і французскую мовы. Публікацыя нагадвае пра тое, што нядрэнна было б услед за купалавым "А хто там ідзе…" выдаць томік аднаго верша "Пагоня" на мовах свету. І мо парупіцца пра гэта хто-небудзь не толькі ў Маскве…

Прыцягвае ўвагу сваёй палемічнасцю, але разам з тым і грунтоўнасцю, публікацыя Здзіслава Сіцько "Адкуль Літва, ліцвіны?". Віталь Скалабан выступае з артыкулам "Незабыўнае дзесяцігоддзе" П. Панамарэнкі (1938 — 1948 гг.)". Цікавым падаецца доследд Генадзя Праневіча "Беларусы: праблемы нацыянальнай тоеснасці". Па традыцыі "Скарыніч" уважлівы да скарынінскай тэмы (публікацыі М. Доўнар-Запольскага "Доктор Франциск Скорина" і Г. Кісялёва "Брат"). Сярод постацяў айчыннай культуры, якія прадстаўлены ў новым выпуску літаратурна-навуковага гадавіка, — Адам Бабарэка, Васіль Мачульскі, Пётра Каравайчык, Мікола Каспяровіч…

Кастусь ЛАДУЦЬКА

З-пад пяра

Адбыўся VI з'езд Беларускага прафсаюза работнікаў культуры. Справаздачу трымаў старшыня ЦК Мікалай Шаўцоў. Падсумаванні насілі асаблівa важкі характар, бо з самага пачатку Мікалай Міхайлавіч абвясціў, што на форуме павінны выбраць новага старшыню ЦК. Свае паўнамоцтвы М. Шаўцоў перадаў аднагалосна абранай Наталлі Аўдзеевай. І першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка, і начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Уладзімір Карачэўскі, і іншыя выступоўцы адзначалі даўнія стасункі Н. Аўдзеевай з галіной культуры: яна працавала начальнікам аддзела культуры Магілёўскага гарвыканкама, дырэктарам і мастацкім кіраўніком Магілёўскага абласнога тэатра лялек, намеснікам старшыні Магілёўскага гарвыканкама, старшынёй Магілёўскага абласнога камітэта прафсаюзаў работнікаў культуры, на працягу двух скліканняў з'яўлялася дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, паралельна займала пасаду намесніка старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. У 2002 годзе ўказам кіраўніка дзяржавы была прызначаная старшынёй Спецыяльнага фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі і 7 гадоў выконвала гэтую місію. Пасля заканчэння дэпутацкіх паўнамоцтваў каля года працавала начальнікам Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры. І вось цяпер — новая пасада, новыя клопаты.

Алена НАЧАЛАВА

25 мая 1917 года ў далёкай Ялце адышоў у іншы свет класік нацыянальнай літаратуры Максім Багдановіч. 93-ю сумную гадавіну адзначылі супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча разам з прыхільнікамі таленту паэта. Традыцыйна ля помніка песняру ўсклалі кветкі, чыталі яго вершы, а пасля ў царкве Пятра і Паўла была адслужана паніхіда. Адметнасцю сёлетняга дня памяці стала тое, што ў галоўным будынку музея прайшло ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу прэзентацый сярод школьнікаў "Login: Максім". Лепшыя з прац былі адзначаны падзякамі, граматамі, дыпломамі, а іх аўтары ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі. Завяршыўся дзень памяці творцы вечарынай "У краіне светлай, дзе я ўміраю", на якой сярод запрошаных былі дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч, паэты Васіль Жуковіч, Зміцер Арцюх, Людміла Хейдарава, Людміла Рублеўская і іншыя.

Юлія МАЦУК

На факультэце гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы адбылася творчыя сустрэча з намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэтам Уладзімірам Мазго. Дэкан факультэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Эдмунд Ярмусік расказаў аб мерапрыемствах, прымеркаваных да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Сярод іх — Міжнародная навуковая канферэнцыя, якая адбудзецца 8 — 9 ліпеня на базе універсітэта і Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Многія супрацоўнікі і студэнты факультэта з'яўляюцца пастаяннымі чытачамі "Полымя". Уладзімір Мазго пазнаёміў прысутных з гісторыяй і днём сённяшнім старэйшага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага выдання. З цікавасцю слухала моладзь лірычныя і песенныя вершы земляка (ён з Гродзеншчыны). Тры творчыя сустрэчы прайшлі на факультэце. Усе яны аб'яднаны думкай, што сяброўства студэнтаў з "Полымем" будзе разгарацца.

Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ



Малюнак У. Караткевіча. 1960 год

Сёння, калі на рахунку Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ўжо пяцьдзесят гадоў руплівай працы, з гонарам можна сказаць: Беларусь мае найкаштоўнейшую скарбніцу рукапісных помнікаў і дакументальных крыніц па гісторыі нацыянальнай літаратуры і мастацтва. За гэты перыяд сабраны унікальныя памяткі па гісторыі беларускай літаратуры, тэатра, музыкі, кіно. У сотнях тысяч дакументаў адлюстраваны пачынальніцкія крокі XIX стагоддзя і вясна нашага нацыянальнага абуджэння, дзе "Наша доля" і "Наша Ніва", дзе першыя зборнікі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, дзе зачаткі прафесійнага тэатра і музычнай культуры, культурны росквіт 1920-х гадоў і трагедыі рэпрэсій, мужнасць ваенных гадоў і пасляваеннае станаўленне, і ўрэшце — уздымны, шматгалосы пачатак незалежнай Беларусі. На архіўныя фонды абапіраюцца і на іх грунтуюцца навуковыя даследаванні, зборы твораў пісьменнікаў, дакументальнае кіно, дакументальныя выставы і зборнікі.

# Скарбніца нацыянальнай літаратуры і мастацтва

Найбольш стратным для Беларусі ў сэнсе архіўных крыніц стала XIX стагоддзе. Мы да гэтай пары ў пошуках нашых скарбаў адпраўляемся ў Санкт-Пецярбург, Маскву, Кракаў, Варшаву, Вільню, Чарнігаў, Кіеў, каб выявіць рукапісы і дакументы Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Б. Эпімаха-Шыпілы, Я. Лучыны і інш. І не толькі архівісты, але і даследчыкі-літаратуразнаўцы. У многіх выпадках надараецца шанец атрымаць копію. Даследчыкі пакідаюць іх у сваіх асабістых зборах, архівісты ствараюць калекцыі. З такой калекцыяй можна пазнаёміцца і ў БДАМЛМ. Яе складаюць дакументы і рукапісы Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны і інш. Усе яны атрыманы з розных сховішчаў Расіі і Польшчы як непасрэдна архівам, так і праз навукоўцаў. Гісторыя літаратуры XIX стагоддзя адлюстравана таксама ў дакументах пісьменніка, мастака і грамадскага дзеяча К. Каганца, перададзеных у пачатку 1990-х гадоў яго дачкой Галінай, якая жыла ў Маскве, Ванды Дзяржынскай — роднай пляменніцы Я. Лучыны, перададзеных іх сваячкай Марыяй Неканда-Трэпка з Бяла-Падляскі, Адама Гурыновіча, атрыманыя ад яго пляменніцы Яніны Гурыновіч з польскага горада Торунь. Асобнае месца ў шэрагу архіўных фондаў XIX стагоддзя займае фонд археографа і мовазнаўца Івана Грыгаровіча, дакументы якога пашыраюць нашы ўяўленні пра гісторыю Беларусі і яе пісьмовыя крыніцы аж да XIII стагоддзя.

Вялікую ролю ў даследаваннях гісторыі беларускай літаратуры, культуры, мастацтва XIX — першай трэці XX стагоддзя адыгрывае фонд Беларускага музея імя І. Луцкевіча. На жаль, калекцыі некалі славутага на ўсю Еўропу музея параскіданы па многіх сховішчах розных краін свету і прыватных зборах. Але значная частка яго архіўнай спадчыны з 1960 г. захоўваецца ў БДАМЛМ (Фрагменты асабістых архіваў Цёткі (А. Пашкевіч), В. Ластоўскага, братоў І. і А. Луцкевічаў, Б. Тарашкевіча, асобныя творы і дакументы З. Бядулі, М. Васілька, Якуба Коласа, Ц. Гартнага, Г. Новік і інш., ананімныя творы і фальклорныя запісы XIX стагоддзя). Захоўвае гэты фонд і шматлікія матэрыялы беларускіх выдавецтваў, часопісаў і газет першай трэці XX стагоддзя: статуты, пратаколы, перапіску, мастацкія творы. Унікальнымі сярод іх з'яўляюцца дакументы выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", рэдакцый газет "Наша Ніва" і "Беларуская крыніца", беларускага выдавецкага таварыства "Мінчук", выдавецтва "Наша хата", рэдакцыі часопіса "Маланка", а таксама матэрыялы менш вядомых шырокаму колу грамадства рэдакцый газет "Беларускі звон", "Гоман", "Змаганне", "Новае жыццё", часопісаў "Беларускі летапіс", "Беларускі студэнт", "Крывіч", "Наша жыццё" і інш.

Выдатнай дакументальнай і рукапіснай спадчынай у архіве-музеі прадстаўлена гісторыя беларускай літаратуры міжваеннай пары. Фонды літаратурнага аб'яднання "Маладняк", паэтаў Я. Пушчы, У. Дубоўкі, П. Труса, М. Чарота, А. Александровіча, літаратуразнаўцаў А. Бабарэкі, І. Барашкі, Я. Барычэўскага, празаікаў М. Гарэцкага, С. Баранавых, Я. Дылы, Ц. Гартнага і многіх іншых раскажуць пра іх творчыя пошукі, пра час і абставіны стварэння многіх літаратурных суполак, іх узаемадачыненні, пра дзяржаўную літаратурную палітыку, трагічныя эпізоды 1930-х гадоў. На лёсе гэтых архіваў адбіўся трагічны лёс іх гаспадароў, рана памерлых, расстраляных, высланых. Кожны з названых тут фондаў мае сваю гісторыю паступлення ў БДАМЛМ, часам незвычайную і ў кожным выпадку непаўторную.



Г. Макарава ў ролі Лушкі, З. Стома ў ролі Лявона ў спектаклі Тэатра імя Янкі Купалы "Лявоніха на арбіце" па п'есе А. Макаёнка. 1961 год.

Цікавую старонку дакументальнай спадчыны БДАМЛМ утвараюць матэрыялы пісьменнікаў, што ў самым росквіце жыцця, на самым пачатку творчага шляху, выдаўшы толькі свае першыя кніжкі, загінулі ў полымі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта асабістыя архівы З. Астапенкі, І. Дзенісенкі, А. Жаўрука, А. Пруднікава, Б. Іофе, Г. Шведзіка, Л. Гаўрылава, А. Коршака, С. Ляльчука і інш. Архівы іх невялікія, многія нават не складаюць самастойных фондаў, але ў іх адлюстравалася ўся трагедыя вайны: у лістах з фронту, у блакнотах і запісных кніжках, у фотаздымках. Пра вайну апошняе слова ніколі не будзе сказана. БДАМЛМ ужо некалькі дзесяцігоддзяў вядзе працу па пошуку дакументаў, якія ствараліся ў ваенны час. Многія з такіх дакументаў перадаюцца з архівамі тых, хто сам прайшоў франтавымі і партызанскімі сцежкамі. Лісты з фронту, дзённікі, мастацкія творы належаць архіўным фондам В. Быкава, М. Лобана, А. Куляшова, М. Лынькова, А. Алешкі, Я. Маўра, А. Карпюка, А. Русака, Г. Шчарбатава, І. Мележа, В. Гарбука і многіх іншых, чыя творчасць мела выдатны працяг у пасляваенны час.

Тэатральнае мастацтва ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва прадстаўлена асабістымі фондамі артыстаў і рэжысёраў сталічных і абласных тэатраў. Гісторыя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адлюстравана ў дакументах бліскучай плеяды беларускіх артыстаў і рэжысёраў — С. Бірылы, У., Б. і А. Уладамірскіх, В. Галіны, Г. Грыгоніса, У. Дзядзюшкі, І. Ждановіч, П. Кармуніна, Р. Кашэльнікавай, Е. Міровіча, Г. Макаравай, П. Малчанава, Б. Платонава, В. Полы, К. Саннікава, С. Станюты і інш. Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа прадстаўлены імёнамі З. Канапелькі, І. Матусевіча, А. Мельдзюковай, А. Радзялоўскай, А. Труса і інш. Значную частку фондаў складаюць архівы прадстаўнікоў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага — Г. Абуховіч, Д. Арлова, В. Воінкава, А. Кістава, А. Клімавай, Г. Качаткова, І. Лісneўскага, Р. Янкоўскага і інш. Сярод вядомых майстроў опернага мастацтва — імёны Л. Александроўскай, А. Арсенкі, І. Балоціна, В. Валчанецкай, Л. Ганеставай, С. Друкер, Р. Млодак, І. Сарокіна і інш., артыстаў балета — Т. Узунавай, Ю. Хіраска. Змястоўна дапаўняюць фонды тэатральных дзеячаў матэрыялы саміх тэатраў, у якіх яны працавалі — гэта архівы тэатраў імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа, Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР і інш.



В. Тураў у час здымкаў мастацкага фільма "Людзі на балоце". 1981 — 1982 год.

Музычная культура Беларусі адлюстравана ў фондах кампазітараў С. Аксакава, А. Багатырова, Г. Вагнера, Я. Глебава, В. Залатарова, А. Клумава, Д. Лукаса, П. Падкавырава, С. Палонскага, Р. Пукста, Ю. Семянякі, Я. Цікоцкага, А. Туранкова, М. Чуркіна і інш., этнографа і кампазітара Я. Прохарава, музыказнаўцаў Д. Жураўлёва, Л. Мухарынскай, С. і І. Нісневічаў, а таксама ў дакументах фондаў Беларускага саюза кампазітараў, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы, Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, Белдзяржфілармоніі, Акадэміі музыкі і інш.

Гісторыя выяўленчага мастацтва знайшла адлюстраванне ў фондах мастакоў-жывапісцаў І. Ахрэмчыка, В. Волкава, П. Гаўрыленкі, Я. Красоўскага, М. Тарасікава, А. Шаўчэнкі, графікаў А. Кашкурэвіча, Л. Лейтмана, М. Лісоўскага, А. Паслядовіч, А. Тычыны, мастакоў тэатра Б. Малкіна, А. Марыкса, Я. Нікалаева, скульптараў С. Селіханава, А. Глебава, мастацтвазнаўцаў Г. Барышава, М. Кацара, Ф. Лейтман. Не пакінуць абыякавымі даследчыкаў гісторыі мастацтва фонды Беларускага саюза мастакоў, Дзяржаўнага мастацкага музея БССР і інш.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца комплекс дакументаў па гісторыі кінематаграфіі. Ён прадстаўлены фондам аднаго з заснавальнікаў беларускага кіно У. Корша-Сабліна, рэжысёраў В. Турава, В. Чацверыкова, а таксама дакументамі Беларускага саюза кінематаграфістаў і Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм".

У два апошнія дзесяцігоддзі фонды архіва-музея актыўна папаўняюцца дакументамі дзеячаў беларускай культуры замежжа. Сярод іх архівы А. Алехніка (Аўстралія), Н. Арсенневай, Я. Запрудніка, В. і З. Кіпеляў (ЗША), С. Яновіча, Б. Белаказовіча, В. Дзяржынскай, Ю. Туронка (Польшча), Я. Шведзюка (Вялікабрытанія) і інш. Працягваецца праца па камплектаванні асабістых архіваў з Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі. Сёння яго вынікам сталі фонды А. Бабарэкі, М. Гарэцкага і Л. Чарняўскай (Гарэцкай), А. Кавалюк, А. Каўкі, У. Кіркевіча, І. Ласкова, В. Целеша і многіх іншых.

Тэма архіваў была, ёсць і будзе актуальнай. Як даследчыка, так і чытача будзе заўсёды заварожваць аўтограф, здзіўляць гісторыя тэкстаў, выклікаць нечуваныя эмоцыі фотаздымкі. Так паўтараецца з пакалення ў пакаленне. Архівы ж закліканы быць як своеасаблівым правадніком у сваю эпоху, так і мастком паміж эпохамі. І ў гэтым іх вышэйшае прадвызначэнне.

Ганна ЗАПАРТЫКА,
дырэктар БДАМЛМ

Малюнак і фота з фондаў архіва-музея

Вытокі

# Даўно наспеўшае пытанне

У нашым друку неаднаразова ўзнімалася пытанне аб неабходнасці збірання і захоўвання літаратурных архіваў. Але па-ранейшаму ўсё застаецца без змен.

Між тым каштоўнейшыя літаратурныя матэрыялы, у тым ліку рукапісы, пісьмы, дзённікі многіх пісьменнікаў Беларусі, апынуліся ў розных архівах і музеях Масквы, Ленінграда, Кіева, Вільнюса і ў іншых месцах. Апрача таго, асобныя важныя гісторыка-літаратурныя матэрыялы трапілі ў прыватныя рукі і да іх ніякага доступу няма.

Рэдакцыі некаторых часопісаў і газет, выдавецтвы, у чыё распараджэнне трапляюць аўтографы або машынапісныя рукапісы пісьменнікаў, амаль заўсёды знішчаюць іх, пакідаючы ў сябе толькі рабочыя, перапрацаваныя экземпляры. Ды і гэтыя матэрыялы часам захоўваюцца абы-як.

Неабходнасць стварэння Беларускага дзяржаўнага літаратурнага архіва даўно наспела. Час, нарэшце, Саюзу пісьменнікаў БССР і Дзяржаўнаму архіўнаму ўпраўленню БССР усур'ёз заняцца гэтай справай.

Дзмітрый БАРОДЗІЧ

Ад рэдакцыі: гэты артыкул, датаваны лістападам 1957 года, захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у справе фонда Галоўнага архіўнага ўпраўлення (НАРБ, фонд 249, вопіс 5, справа 682, стар. 2).

# Каларыт эпохі — у аўтографах

Ад часу свайго заснавання архіў-музей разам з камплектаваннем архіўных фондаў ствараў і навуковую бібліятэку. На сённяшні дзень бібліятэка архіва налічвае каля 30000 кніг і 35000 часопісаў і газет. Сярод многіх унікальных кніг і выданняў бібліятэкі БДАМЛМ — газеты "Наша доля" і "Наша Ніва", "Вольная Беларусь", "Звон" і інш.; часопісы "Маладняк", "Узвышша", "Полымя рэвалюцыі", асобныя нумары часопісаў "Саха", "Калоссе", "Беларуская борць", першыя выданні зборнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа "Жалейка" і "Песні-жальбы", амаль усе выданні граматыкі Б. Тарашкевіча, восем выданняў (пачынаючы з 1898 г.) паэмы "Тарас на Парнасе", беларуская граматыка Р. Абіхта (1918), кнігі В. Ластоўскага, слоўнік І. Насовіча і многія іншыя.

Камплектаванне бібліятэкі БДАМЛМ ажыццяўляецца двума шляхамі. Першы, традыцыйны для большасці бібліятэк, — праз выдавецтвы і ўстановы кнігагандлю. Другі — і самы актыўны шлях камплектавання — асабістыя кніжныя зборы і калекцыі дзеячаў літаратуры і мастацтва. Менавіта яны складаюць асноўную частку навуковай бібліятэкі БДАМЛМ. На дзяржаўнае захоўванне ў складзе фондаў асабістага паходжання прымаюцца: выданні твораў фондаўтваральніка; зборнікі, часопісы, газеты, каталогі з публікацыямі твораў фондаўтваральніка (калі такія не паступалі ў бібліятэку па планавай падпісцы); выданні пра фондаўтваральніка; кнігі з дароўнымі надпісамі фондаўтваральніка; кнігі з паметамі фондаўтваральніка; тэматычныя кніжныя калекцыі, створаныя фондаўтваральнікам.

Кнігі фондаўтваральніка, падрыхтаваныя да перавыдання, з вялікай колькасцю правак і памет, пакідаюцца ў архіўным фондзе.

Асабістая бібліятэка здольна, як і іншыя гістарычныя крыніцы, рэканструяваць эпоху, у якой жыў яе ўладальнік, даць пэўнае ўяўленне пра асяроддзе яго існавання, сацыяльны стан, кола людзей, якія жылі і працавалі з ім у адзін час і якія маглі ўплываць на яго творчасць, пра яго навуковыя і творчыя інтарэсы, эстэтычныя і духоўныя прыярытэты, узаемаадносіны з сябрамі і калегамі.

Сярод многіх бібліятэк ці іх частак найбольш цікавымі з'яўляюцца асабістыя бібліятэкі пісьменнікаў М. Танка, М. Лобана, Я. Брыля, С. Грахоўскага, І. Шамякіна, А. Куляшова, А. Кучара, Н. Гілевіча, В. Віткі, М. Ермаловіча, Р. Бярозкіна, М. Лужаніна і многіх іншых; акцёраў М. Забэйды-Суміцкага, Л. Александроўскай, І. Сокаліна; мастакоў А. Тычыны, А. Марыкса, Я. Красоўскага.

Выдатным узорам бібліятэкі, якая паступіла з архіўным фондам, з'яўляецца бібліятэка народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Яна налічвае каля пяцісот выданняў, большую частку якіх складаюць кнігі з дароўнымі надпісамі. Сярод іх — надпісы на кнігах уласных твораў В. Адамчыка, М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна, Д. Бічэль-Загнетавай, Г. Бураўкіна, А. Вялюгіна, Н. Гілевіча, У. Дамашэвіча, В. Зуёнка, В. Іпатавай, А. Карпюка, Г. Кісялёва, І. Ласкова, А. Мальдзіса, І. Навуменкі, П. Панчанкі, Я. Сіпакова, М. Сяднёва, М. Танка.

Вялікай увагі заслугоўваюць асабістыя бібліятэкі Ф. Янкоўскага з яе унікальным падборам кніг па беларускім і сусветным мовазнаўстве, Н. Гілевіча з дароўнымі аўтографамі, В. Рагойшы, значную частку якой складаюць кнігі па гісторыі літаратурных узаемасувязей.



В. Ластоўскі. "Гісторыя Беларускай (крыўскай) кнігі" 1926 год.

Акрамя свайго вялікага і змястоўнага архіва, слынны спявак М. Забэйда-Суміцкі завяшчаў Беларусі і сваю бібліятэку, якая паступіла ў БДАМЛМ з Прагі ў 1985 годзе. Яна налічвае 476 выданняў. Значную частку бібліятэкі складаюць кнігі з дароўнымі надпісамі дзеячаў літаратуры і мастацтва Беларусі і іншых краін Еўропы. Сярод іх — аўтографы У. Караткевіча, І. Цішчанкі, Л. Салаўя, С. Панізніка, С. Грахоўскага, А. Русака, Н. Гілевіча, С. Александровіча, Г. Цітовіча, С. Новіка-Пяюна, Я. Шутовіча.

Аснову бібліятэкі мастака Яўгена Красоўскага складаюць выданні па мастацтвазнаўстве, як беларускім, так і сусветным, каталогі выставак, альбомы. Гэты раздзел бібліятэкі налічвае больш як 100 назваў. Другі раздзел бібліятэкі складаюць выданні з дароўнымі надпісамі, сярод якіх аўтографы мастакоў А. Бархаткова, В. Жолтак, М. Манасзона, М. Станюты, С. Гуткоўскага, А. Шыбнёва, Я. Ціхановіча, В. Руцая, П. Сергіевіча і інш., мастацтвазнаўцаў А. Аладавай, В. Шматава, У. Бойкі.

Значную частку кніжных збораў БДАМЛМ складаюць бібліятэкі рэдкіх кніг і выданняў, якія паступілі ад бібліяфілаў. Да такіх бібліятэк адносіцца бібліятэка М. Магільнага, У. Баравога, М. Талеркі, І. Тулейкі.

Гэты спіс можна было б дапоўніць узорамі яшчэ многіх бібліятэк літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, музыказнаўцаў і інш. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва і надалей будзе працягваць камплектаванне асабістымі бібліятэкамі выдатных дзеячаў культуры і навукі Беларусі.

Таццяна КЕКЕЛЕВА,
загадчык аддзела
інфармацыі, публікацыі
і навуковага выкарыстання
дакументаў БДАМЛМ

Мельхіёравая талерка, кававарка і скрынка для гарбаты, якія належалі сям'і М. Багдановіча.



Пасля рэарганізацыі ў 1976 г. Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР у архіў-музей пачалося стварэнне яго музейнага фонду. У сучасным Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца каля 600 рэчавых помнікаў, асноўную частку якіх складаюць мемарыяльныя рэчы дзеячаў літаратуры і мастацтва. Музейны фонд БДАМЛМ утвараюць калекцыі фалерыстыкі, тканін, выяўленчых крыніц, музычных інструментаў, гадзіннікаў, пісьмовых прылад, вырабаў з дрэва, посуду.



К. Каганец. Палічка з зімовым краявідам. Алей. 1907 год.

# Калекцыя рарытэтаў

Усё гэта падзелена згодна з класіфікацыяй прадметаў па тыпах крыніц і матэрыялаў. Адначасова пры падзеле прадметаў па калекцыях захоўваецца цэласнасць мемарыяльнай калекцыі і іх прыналежнасць да фонду таго дзеяча, разам з дакументамі якога яны паступілі.

Асноўную частку музейных прадметаў складае калекцыя фалерыстыкі. Гэта ўзнагароды беларускіх пісьменнікаў А. Астрэйкі, Я. Брыля, П. Валкадаева, Я. Васілёнка, В. Гарбука, М. Ткачова; акцёраў А. Асторынай, І. Балоціна, С. Бірылы, Г. Макаравай, І. Матусевіча, Ц. Сяргейчыка, Ю. Хіраскі; кампазітараў І. Кузняцова, П. Падкавырава, М. Шнейдэрмана; мастакоў А. Марыкса, А. Паслядовіч, скульптара А. Грубэ, вядомага дзеяча культуры Г. Прагіна. Найбольш часта сярод іх сустракаюцца ордэны: "Знак Пашаны", Працоўнага Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі і Дружбы народаў; медалі "Ветэран працы", "За доблесную працу", "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.", "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.", "За працоўныя заслугі", "Партызану Айчыннай вайны" і інш. Значнае месца займаюць юбілейныя і памятныя медалі і нагрудныя знакі: "40 гадоў вызвалення Беларусі", "100 гадоў М. Гарэцкаму", "Крэпасць-герой Брэст", "900 год з дня заснавання Брэста", "900 год з дня заснавання Мінска", "2000 год хрысціянству", "200 гадоў з дня нараджэння І. А. Крылова", "100 год з дня нараджэння Я. Гашэка" і інш.

У складзе музейнага фонду БДАМЛМ ёсць калекцыя тканін, якая прадстаўлена ў асноўным прадметамі народнай творчасці. Найбольш значная колькасць іх паступіла разам з сямейным фондам Гарэцкіх. Гэта розныя абрусы, ручнікі і сурвэткі з мастацкай вышыўкай, выкананай жонкай Максіма Гарэцкага пісьменніцай Л. Чарняўскай. У калекцыі тканін архіва-музея ёсць насоўка брата М. Багдановіча Л. Багдановіча з яго вензелем, аксамітны абрус і льняны ручнік, якія належалі К. Буйло, і інш. Цікавасць прадстаўляе таксама белы льняны абрус, якім засцілаўся стол падчас урачыстых сустрэч стваральнікаў літаратурнага аб'яднання "Узвышша".



Абрус "узвышаўцаў" і асабістыя рэчы А. Бабарэкі.

З жывапісу найбольшую цікавасць уяўляюць партрэт У. Дубоўкі, выкананы акварэллю, карціна В. Целеша "Замест персідскага ўзору..." ("М. Багдановіч у Вільні"), партрэт К. Буйло работы Я. Раманоўскага, "Пукса-возера" А. Бялецкага, партрэт М. Ермаловіча ў выкананні Я. Ціхановіча, карціна П. Зарэцкага "Домік Я. Янішчыц", партрэт маці вядомага музыказнаўцы Ю. Дрэйзіна і інш. Скульптуру прадстаўляюць работы А. Міронычыка, выкананыя па замове архіва-музея: бюсты М. Агінскага, Ф. Багушэвіча, С. Буднага, Я. Драздовіча, Я. Коласа, Я. Купалы, І. Луцкевіча, С. Манюшкі, Ф. Скарыны. З фотаздымкаў трэба ўзгадаць вялікія партрэты народнай артысткі Беларусі і СССР А. Клімавай у яе лепшых ролях, фотаздымкі У. Дубоўкі, Л. Багдановіча, А. Дуж-Душэўскай, К. Буйло і інш.

Сярод музычных інструментаў — цытра, якая належала вядомаму беларускаму кампазітару В. Яфімаву, дырыжорская палачка знакамітага дырыжора і кампазітара М. Шнейдэрмана, піяніна заслужанага артыста Беларусі В. Скорабагатава.

У калекцыю вырабаў з дрэва ўваходзяць шахматы і шкатулкі А. Бабарэкі, М. Гарэцкага, А. Багдановіча, К. Буйло, люлька А. Багдановіча і інш.

У калекцыі гадзіннікаў сустракаюцца такія цікавыя экземпляры, як насценны гадзіннік "Gustav Becker" канца XIX ст., насценны гадзіннік К. Буйло. Акрамя таго, ёсць кішэнныя гадзіннікі пісьменніка і літаратурнага крытыка А. Бабарэкі і вядомага дзеяча культуры Г. Прагіна.

Асноўную частку з калекцыі посуду складае набор сталовых прадметаў сям'і Багдановічаў, драўляныя лыжкі і талеркі з "хахламскім" роспісам з дому У. Дубоўкі і інш.

Да калекцыі пісьмовых прылад адносяцца два парцалянавыя чарнільныя прыборы і настольная лямпа К. Буйло, блакнот А. Бабарэкі, пёравыя ручкі М. Гарэцкага і В. Скорабагатава, розныя папкі для папер і г.д.

На аснове рэчавых прадметаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва рэгулярна арганізоўваюцца выставы, большая частка якіх носяць юбілейна-мемарыяльны характар.

Таццяна ШЫРОКАВА,
вядучы навуковы
супрацоўнік БДАМЛМ

Фота
Уладзіміра Кулажанкі

# Пра Мацея Бурачка

Нядаўна адзначалася 170-годдзе з дня нараджэння класіка нашай літаратуры Францішка Багушэвіча. Аднак, зразумела, мерапрыемствы з нагоды юбілею будуць адбывацца на працягу ўсяго 2010 года. Адной з нядаўніх падзей стала адкрыццё ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва мемарыяльнай выстаўкі, прысвечанай Ф. Багушэвічу.

Адкрываючы яе, дырэктар архіўнай установы Ганна Запартыка распавяла пра лёс спадчыны класіка і пра новыя адкрыцці ў даследаванні яго біяграфіі. Звязаўшыся з рускімі і ўкраінскімі архівамі, БДАМЛМ атрымаў копіі некаторых дакументаў, датычных асобы паэта. Ужо сёння вядома, што пошукі ў гэтым кірунку дадуць яшчэ больш плён.

Супрацоўнік архіва В. Жыбуль (які разам з Т. Кекелевай і стварыў мемарыяльную выстаўку) адзначыў, што ў Беларусі знаходзіцца, на жаль, вельмі нязначная частка арыгінальных рукапісаў класіка. Яго спадчына і матэрыялы да біяграфіі раскіданыя па сховішчах Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. Шмат што з рукапісаў было згублена.

Даследчык багушэвічаўскай спадчыны Уладзімір Содаль, які дапамагаў у стварэнні экспазіцыі, гаварыў пра неабходнасць больш шырокага святкавання юбілею Багушэвіча, папулярызацыі яго літаратурных твораў. Паэтэса і літаратуразнаўца Ірына Багдановіч падкрэсліла, што ў творчасці Багушэвіча важную ролю адыгрываюць рэлігійныя матывы. Паступова сустрэча набыла характар навуковай дыскусіі.

Пасля афіцыйнай часткі В. Жыбуль правёў экскурсію па мемарыяльнай выстаўцы. На ёй сабраныя як вядомыя, так і малавядомыя выявы паэта і яго сям'і, дакументы, звязаныя з гадамі юнацтва і сталасці пісьменніка. На выстаўцы можна ўбачыць копіі аўтографаў класіка, рэдкіх дакументаў, выданні яго твораў розных гадоў, манаграфіі даследчыкаў спадчыны Багушэвіча.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

№ 22 4 чэрвеня 2010 г. Літ

# Касмічныя гульні дзікіх кошак Барсума

Сярод распаўсюджаных сёння нараканняў у бок сучаснай беларускай літаратуры, бадай што, самым слушным можна назваць недахоп у ёй так званай "масавасці", арыентацыі на шматкольнага чытача шляхам апярыравання стандартнымі сюжэтамі, матывамі і вобразамі. Нягледзячы на своеасаблівую "сурагатнасць" такога мастацтва, яно, тым не менш, сведчыць пра дастатковае развіццё прыгожага пісьменства, трывалае замацаванне ў ім традыцыі.



Беларуская прыгодніцкая фантастыка дэманструе амбівалентны падыход да згаданай праблемы. З аднаго боку, у свет выходзіць вялікая колькасць тэкстаў, не абцяжараных глыбокім "мэсаджам" і ў першую чаргу арыентаваных на стварэнне займальнага і дынамічнага сюжэта (практыка, характэрная для большасці маладых пісьменнікаў). У іншым выпадку чытацкай аўдыторыі прадстаўляюцца творы, перапоўненыя рэфлексіямі і няспыннымі анталагічнымі пошукамі адказаў на пастаўленыя пытанні пра тыя ці іншыя праблемы сучаснасці. Апошні варыянт, на жаль, пры ўсім сваім імкненні да стварэння якаснай літаратуры даволі часта рэпрэзентуе неўраўнаважанае спалучэнне філасофскага і авантурнага пачаткаў (адзін з прыкладаў таму — "Чалавек з брыльянтавым сэрцам" Л. Дайнекі).

У дадзеным кантэксце парадаксальна недасягальную залатую сярэдзіну дэманструюць толькі некаторыя пісьменнікі. Сярод іх — Генадзь Аўласенка з яго раманам "Дзікія кошкі Барсума".

Змадэляваная беларускім аўтарам рэальнасць выразна сканцэнтравана вакол дзвюх асноўных праблем. Першая з іх — умоўная, накіраваная на разгортванне непрадказальнай і інтрыгуючай фабулы — звязана з раскрыццём галоўнымі героямі таямніцы планеты Аграполіс, на якой былі знойдзены рэшткі невядомай пазаземнай экспедыцыі. Якая мэта кіравала агентамі-даследчыкамі ў невялікай фермерскай краіне, адночасова нецікавай для ўсіх яе ўплывовых касмічных суседзяў, дзе знаходзіцца загадкавы Барсум, і ці насамрэч ён з'яўляецца прытулкам для магутных амазонак, у чым заключаецца сутнасць палітыкі Фірмы, гігантнай міжгалактычнай арганізацыі, здольнай уплываць на лёсы як асобных людзей, так і цэлых сонечных сістэм — гэтыя і некаторыя іншыя пытанні, безумоўна, здольныя да апошняй старонкі трымаць чытача ў найвышэйшым напружанні.

Аднак для самага заўзятага аматара жанру прыгодніцкай фантастыкі відавочным выступае наяўнасць у творы Г. Аўласенкі другога, не менш істотнага ў параўнанні з займальнасцю кампанента — спраектаванасці рамана на сучаснае пісьменніку грамадства, распрацоўка яго найбольш актуальных пытанняў. Маецца на ўвазе такая шматаспектная праблема сённяшняга дня, як спецыфіка сацыяльнай самаідэнтыфікацыі жанчыны, што ў тэксце рэалізуецца праз паказ жыцця дзвюх кардынальна адрозных адна ад другой планет — Барсума і Аграполіса.

Першая з іх паўстае для персанажаў твора надзвычай маладаследаванай. Кароткія напаўвесткі-напаўчуткі распавядаюць пра дзівосную краіну, дзе жывуць усемагутныя жанчыны-ваяры, своеасаблівыя касмічныя нашчадкі міфічных амазонак: яны дзейнічаюць пад кіраўніцтвам сваёй царыцы, не церпяць побач з сабою мужчын і толькі з мэтай працягу роду ўступаюць на кароткі тэрмін у сувязь з апошнімі. Народжаных у выніку такіх адносін хлопчыкаў чакае незайздросны лёс рабоў ці нават смерць, дзяўчынкі ж застаюцца ў гэтай незвычайнай ваеннай дзяржаве і выхоўваюцца як новыя валькірыі.

Кардынальна супрацьлеглыя радыкальнаму фемінізму Барсума парадкі пануюць на планеце Аграполіс. Слова "жонка" на ёй непадзельна існуе з вызначэннем "рабочая", што тлумачыцца спецыфічным статусам жанчыны ў дадзеным аграрным грамадстве. У першую чаргу яна з'яўляецца "прыладай" для працы, аб'ектам куплі-продажу, пазбаўленым правоў і любых праяў самастойнасці: "Рабочыя жонкі не разважаюць. Ніколі, ні пры якіх абставінах. Дакладней, яны як разумныя ў нейкай меры істоты могуць адказваць на пытанні, яны з паўслова разумеюць усе загады і распараджэнні свайго мужа і заўсёды стараюцца выканаць гэтыя загады хутка і дакладна". Пакорнасць "спадарожніц жыцця" забяспечваецца з боку Фірмы, якая ў ходзе разгортвання падзей аказваецца велізарнай трансгалактычнай карпарацыяй, спецыялізаванай на гандлі жанчынамі.

Акурат паміж молатам і кавадлам апынуліся галоўныя героі рамана, якія вымушаны вырашаць адвечнае пытанне ўзаемаадносін паміж жанчынай і мужчынам у надзвычай "палявых" умовах. Так, былы касмічны дэсантнік Свенсан і супрацоўнік Фірмы Холін спрабуюць зразумець, чаму чатыры "рабочыя жонкі" здолелі аднавіць свае ўспаміны пра мінулае жыццё і выйсці з-пад кантролю, дэманструючы нечалавечую сілу і небывалыя ваенныя здольнасці, а малады фермер Аграполіса Нікаля Сарджэн разрываецца паміж дзвюма жанчынамі — магутнай і бязлітаснай амазонкай Марганай і пяшчотнай і любячай жонкай Мэры, якімі па дзіўным збегу акалічнасцей з'яўляецца адзін і той жа чалавек.

Варта адзначыць, што ў Г. Аўласенкі пераканаўча індывідуалізаванымі атрымаліся як цэнтральныя, так і другарадныя персанажы. Дастаткова толькі ўзгадаць аднаго з жыхароў планеты земляробаў О'Ніла, вобраз якога рэпрэзентаваны ў эвалюцыі — праз шматлікія рэтраспекцыі-адсылкі да мінулага героя — ад здольнага да спагады і пэўных экзістэнцыйных памкненняў чалавека да бяздушнага і не абцяжаранага розумам нелюдзя, што адзіным сродкам вырашэння канфліктаў абраў фізічную сілу. Ці няўдалага лакальнага кіраўніка Фірмы Скрайфа, здольнага да самааналізу і рэфлексіі, але слабога воляй персанажа, перакананага ў бесчалавечнай прыродзе сваёй арганізацыі і пры гэтым няздольнага да змены існуючых парадкаў. Альбо ціхую і паслухмяную рабочую жонку Холіна, патаемна пазбаўленую рабскага ярма, але да апошняга моманту перапоўненую жадання знайсці ў сваім мужы прычыну застацца.

Нягледзячы на адносна шчаслівае завяршэнне асноўных сюжэтных калізій, фінал рамана далёкі ад характэрнага для прыгодніцкай фантастыкі "хэпі энду", што, безумоўна, пэўным чынам сведчыць пра немагчымасць канчатковага адэкватнага вырашэння феміністычнага пытання ў сучасным пісьменніку грамадстве.

І хаця раман Г. Аўласенкі "Дзікія кошкі Барсума" так і не даў чытачу панацэю ад спрадвечных ментальных "хвароб" чалавецтва і нават не прэзентаваў іх з кардынальна новага ракурсу, сам факт яго з'яўлення ў сучаснай беларускай літаратуры — відавочна становучая прыкмета далейшага якаснага развіцця айчыннай фантастыкі.

Марына АММОН

Здымак з Інтэрнэт-сайта

# «Сустракай мяне, родная хата»

Пэўна, трэба было нарадзіцца сапраўдным, удзячным сынам маленькай палескай вёсачкі, каб у някідкіх, звычных яе краявідах, у душах простых працавітых сялян убачыць столькі хараства і напісаць геніяльна-дасціпна, як гэта зрабіў мой зямляк, самабытны паэт, пісьменнік і публіцыст Іван Кірэйчык: "Тут песня дзядоў не забыта, // Шануюцца тут мазалі, // А мне ўсё здаецца, нібыта // На казачны востраў заплыў". Казачным востравам Івана Аляксандравіча, сялом, якое "падходзіць паволі" "да самага сіняга бору", была Гута.



Вёсачка, якая паменшала і пастарэла за апошнія дзесяцігоддзе, усё ж і сёння памятае свайго Янку (так пяшчотна, па-свойску дагэтуль называюць пісьменніка яго родныя, блізкія, аднавяскоўцы). І памяць гэтая пацвярджаецца не толькі названай раней у яго гонар вуліцай: нядаўна тут прайшлі літаратурныя чытанні "Я не магу без дома жыць", прысвечаныя 75-годдзю з дня нараджэння славутага земляка. Праграма мерапрыемства была надзвычай насычанай цікавымі сустрэчамі з тымі людзьмі, хто добра ведаў Івана Аляксандравіча пры жыцці, каго кранае і ўражвае па-народнаму глыбокае, спеўнае слова майстра пяра, а таксама яскравымі выставамі ў раённым краязнаўчым музеі і ў гарадскім Доме культуры.

Аднак самымі яркімі падзеямі сталі адкрыццё памятнага знака ў вёсцы Гута на месцы дома, дзе нарадзіўся І. Кірэйчык, і вечарына, якая праходзіла ў актавай зале ГДК. Ідэя адкрыцця памятнага знака І. Кірэйчыку належала яго малодшаму аднавяскоўцу былому дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Аляксандру Свірыду. Падказалі яе ўспаміны пра сустрэчы з Іванам Аляксандравічам ды яшчэ пранікнёныя радкі яго вершаў, якія не могуць нікога пакінуць раўнадушнымі: "Сустракай мяне, родная хата, // Самым цёплым святлом у акне". Сёння няма ўжо тае хаты, затое сцяжынка прыводзіць нас да вялізнага валуна, які нагадвае, што менавіта адсюль "вылецеў" у жыццё, у тым ліку і творчае, Іван Кірэйчык.

"У верасні мінулага года на гэтае месца была прывезена першая машына пяску, у студзені 2010-га — нацягнуты ланцуг, а ў сакавіку — пастаўлена кропка: прыладжаны да вялізнага валуна памятныя дошкі, — з хваляваннем расказваў А. Свірыд. — Вядома ж, адзін чалавек нічога не зробіць. Дапамагалі ўвасобіць ідэю ў жыццё старшыня СВК "Агра-Нач" Юрый Матвіенка, дырэктар Ганцавіцкага прадпрыемства меліярацыйных сістэм Аляксандр Шут, індывідуальны прадпрымальнік Анатоль Дубініч".

"Янак паклікаў ізноў на сваю радзіму. Смак яе яблык і пах груш я адчуваю і сёння, ніколі і нідзе болей не ела такіх!" — змахвала слязіну ўспамінаў з вачэй удава І. Кірэйчыка Вера Фёдараўна. У гэты дзень яна прывезла ў Гуту зямлю з Гомеля, дзе сям'я доўгі час жыла, змяшала яе з той, тутэйшай зямелькай, дзе нарадзіўся яе любы муж.

Не толькі пра Кірэйчыка-паэта, празаіка, публіцыста, але і пра Кірэйчыка-суседа, сябра, Чалавека распавядалі родныя, сябры, земляки, а таксама літаратары Віктар Гардзей, Іван Лагвіновіч, Аляксей Галаскок. І гэтаму спрыяла цёплая, утульная атмасфера, створаная ініцыятарамі літаратурных чытанняў і галоўнымі арганізатарамі сустрэчы работнікамі аддзела маркетынгу раённай бібліятэкі імя Васіля Праскурава.

Вялікае, прыгожае мерапрыемства скончылася. Аднак яшчэ доўга яго ўдзельнікі дзяліліся эмоцыямі і ўражаннямі, якія яно пакінула.

У маёй памяці раз-пораз успльвалі сказаныя сціплай вясковай жанчынай, сястрой знакамітага чалавека Алімпіядай Ціхан простыя, але такія кранальныя словы, якія адлюстравалі і гонар за свайго таленавітага брата, і шчырую падзяку людзям, што памятаюць яго: "Мой брат для харошых, відомых і граматных людзей быў таксама штосьці варты. Дзякуй жа ўсім вам, што ўсё так прыгожа зрабілі!"

Святлана ЛОКТЫШ

Фота аўтара

## Кніжная паліца



У выдавецтве "Брэсцкая друкарня" выйшла кніга выбраных і новых вершаў Лявона ВАЛАСЮКА "Знакі на валуне". Паэзія аўтара прысвечана найперш маляўнічым родным мясцінам, мінуўшчыне і сённяшняму бацькоўскага краю. Шмат якія творы закранаюць маральна-этычныя праблемы, звязаныя са стратай альбо забыццём спрадвечных духоўных каштоўнасцей народа, урбанізацыяй і незваротным навукова-тэхнічным прагрэсам. Большасць вершаў напісаны ў форме верлібра. Кніга адмыслова аформлена малюнкамі самога аўтара, вядомага як мастака. Прадмова Міколы Сянкевіча.



У Мінску выдадзена кніга Любові УЛАДЫКОЎСКАЙ "Як захаваць культурную самабытнасць?". На падставе міждысцыплінарнага навуковага аналізу культурнага развіцця ў сучасным свеце, а таксама практычнага матэрыялу асвятляецца надзвычай актуальная праблема — мэтазгоднасць і шляхі захавання культурнай самабытнасці беларусаў ва ўмовах глабалізацыі. Навуковыя рэцэнзенты — дактары філасофскіх навук У. Конан і М. Крукоўскі. Навуковы рэдактар — кандыдат гістарычных навук магістр тэалогіі У. Завальнюк.



У выдавецтве "Смэлтак" пабачыла свет кніга Алеся і Ірыны КЛЫШКАЎ "Мінская зямля", якую складаюць паэма Алеся, якая і дала назву ўсяму выданню, а таксама "знічкі ўспамінаў" Ірыны "Што табе сніцца, стары дом?". Агулам гэтая кніжка — гімн Мінску, мінскай зямлі і мінчанам, роздум пра сваю сям'ю і пра людзей, якія жылі побач з аўтарамі. У выданні выкарыстаны здымкі з сямейнага архіва Клышкаў, календароў і даведнікаў, мінскія паштоўкі. Уступнае слова вядомага слонімскага краязнаўцы Сяргей Чыгрына.



"РИВШ" у 2010 выдаў у Мінску кнігу літаратуразнаўцы і крытыка, прафесара Івана ШТЭЙНЕРА "Криница, из которой пил святой: философия поэзии Алеся Рязанова". Гэта суб'ектыўная спроба асэнсавання глыбокай сутнасці мастацкай паэтычнай творчасці выбітнага беларускага паэта Алеся Разанава. Рэцэнзент — кандыдат філалагічных навук У. Куліковіч. Пасляслоўе доктара філалагічных навук М. Тычыны.



У Магілёўскай абласной друкарні выйшла ў свет кніга "Прырода Краснапольскага раёна". Аўтары М. ЕЎДАКІМАЎ і А. МАРЗАЛЮК. Гэта дапаможнік, які абагульняе вядомыя і новыя звесткі па фізічнай геаграфіі Краснапольшчыны: геаграфічнае становішча, рэльеф, геалогія, гідраграфія, кліматычныя ўмовы, раслінны і жывёльны свет. Значная ўвага надаецца і краязнаўчаму аспекту ў вывучэнні краю. Рэкамендуецца ўсім, хто цікавіцца геаграфіяй і краязнаўствам Бацькаўшчыны.

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшла выдатная паэма геніяльнага арабскага пісьменніка Халіля Джэбрана "Прарок" у перакладзе на рускую мову Юрыя Сапажкова, аздобленая шыкоўнымі ілюстрацыямі Георгія Паплаўскага. Гэтая падзея — добрая нагода для гутаркі з перакладчыкам.**

# Птушка адкрытых прастораў

— Юрый Міхайлавіч, раскажыце, калі ласка, як вы прыйшлі да "Прарока" Халіля Джэбрана?

— Летам 2003 года я быў у ЗША. Аднойчы мы з маім новым сябрам паэтам Пені Пендэргрaфтам прагульваліся вечарам уздоўж Мексіканскага заліва. Ля аднаго з пірсаў я прачытаў Пені свой верш пра пірс, які адважыўся выйсці насустрач акіяну, але, "сделав несколько слепых шажков, // остановился в изумлении перед простором, перед глубиной". Ці не такое наша жыццё?

"Ты знаёмы з паэзіяй Халіля Джэбрана? — раптам спытаў мой суразмоўца. — Калі я чытаю яго "Прарока", у мяне адчуванне, як у цябе перад акіянам. Хочаш, падару гэтую кнігу?"

У той жа вечар я чытаў гэты выбітны твор. І там жа, у Амерыцы, пачаў яго перакладаць.

— Зазвычай Халіль Джэбран пісаў па-арабску, як вы думаеце, чаму гэты твор ён напісаў па-англійску?

— Не ведаю. Апошнія свае дваццаць гадоў ліванец Халіль Джэбран жыў у Нью-Йорку, быў адным з заснавальнікаў і аўтарам першай арабскай газеты "Al Magar". Англійскую, канечне, ведаў дасканала. Можа быць, ён абраў яе таму, што прадчуваў поспех сваёй паэмы і жадаў, каб прачытала яе як мага больш людзей: усё-такі на англійскай мове гаворыць паўсвету. І не памыліўся: ужо першы тыраж гэтай кнігі склаў 4 мільёны асобнікаў. А я перакладаў са 167 выдання! Сёння "Прарок" перакладзены на ўсе асноўныя мовы свету.

— Калі вы пачалі перакладаць гэтую рэч, ці былі ўжо іншыя пераклады на рускую мову?

— Ва ўсякім разе, на той час у Інтэрнеце такіх не знайшоў. Праз некалькі гадоў у сецівe ўжо былі падрадкоўнікі паэмы — суконнае пераказванне сюжэта, дзе ўвесь час спатыкаешся на несупадзенні тэкстаў, нават на скажэнні сэнсу. Але калі б і быў добры рускі пераклад, усё роўна прапанаваў бы свой варыянт. Рыльке, Шэкспіра, Гётэ працягваюць перакладаць.

Таму што, калі чыйсьці пераклад не закранае тваю душу, ён нагадвае кватаранта ў тваёй хаце. Ён жыве толькі на паліцы.

— Перш чым гаварыць пра некаторыя аспекты перакладу, раскажыце сцісла, калі ласка, змест "Прарока".

— Твор складаецца з 28 эсэ, аб'яднаных вельмі простай фабулай. Прарок Альмустафа, які дванаццаць гадоў пражыў на чужыне, у горадзе Арфалес, дачакаўся, нарэшце, карабля са сваёй радзімы. Гараджане просяць нявольніка, які даўно стаў ім за сына, застацца. Але туга па радзіме перамагае. Тады Альмустафу просяць на развітанне падзяліцца сваімі ўяўленнямі аб прыгажосці і непрывабным, каханні, нянавісці і справядлівасці, хлусні, пра адносіны бацькоў і дзяцей, пра сэнс жыцця і многае іншае.

Кожнае эсэ — свайго роду павучанне, пропаведзь, запавет. Але дыдактыка, такая небяспечная для паэзіі, у дадзеным выпадку не забівае яе, наадварот — узнімае на вышыні духу.

— Я думаю, што лепшы сродак расказаць пра гэты твор — зачытаць хаця б невялікі ўрывак з яго.

— Вось, скажам, маленькі раздзел "Аб шлюбе":

И вновь к нему
Альмитра обратилась:
«А что о браке
можешь ты сказать?»
Он отвечал
притихшему народу:
«Когда вы друг для друга
рождены —
то суждено и жить
вам неразлучно,
покуда смерти белое крыло
дни ваши не смахнет,
как пепел в урну.
И даже в памяти
безмолвной Бога
пребудете вы вместе,
а не врозь;
но опасайтесь
слитности своей,
ветрам небес
оставьте промежуток,
и пусть они танцуют
между вами.
Пут не вяжите
из своей любви:
пусть между берегами
ваших душ
она живет, свободная,
как море.
Друг другу чаши наполняйте,
но лишь из своей
пусть каждый пьет вино;
питайтесь хлебом общим,
но при том
пусть каждый будет
сыт своим куском.
Веселью отдавайтесь
всей душой,
но каждый пусть
останется собой.
Поет у лютни каждая струна,
а слышится мелодия одна.
Сердца свои друг другу
во владенье
не отдавайте —
можно уронить.
Они в руке у Жизни
на храненье,
и ей решать,
как с ними поступить.
Дружны, как поле хлебное
и рало,
друг друга слишком
не держитесь близ:
заметьте —
врозь стоят колонны храма,
и, мучаясь, расти
не могут прямо
в тени друг друга
дуб и кипарис.

Дарэчы, калі я быў у Амерыцы, я пачуў гэты ўрывак у царкве падчас шлюбу з вуснаў святара. Гавораць, так робяць там у многіх храмах. Гэтыя мудрыя словы хвалююць не толькі маладых, але і ўсіх прысутных.

— Уражвае. А чаму вы пераклалі гэты кавалак зменшаным пяцістопным ямбам, дзе белы суседнічае з рыфмаваным? Арыгінал увогуле напісаны "беспамерна"?

— Рыфма як бы сама сабою нараджалася там, дзе словы прарока праймалі да слёз, дзе хацелася спяваць.



Сугучча валодае магіяй, хутчэй знаходзіць водгук у душы, запамінаецца. А паэма ў арыгінале мае вольную, неўпарадкаваную рытміку. Можна было б назваць яе празаічнай, калі б не вялізная экспрэсія, што сама па сабеператварае прозу ў паэзію. Між іншым, адна з кніг Халіля Джэбрана называецца "Празаічныя паэмы". Такі стыль паэтычнай прамовы на Захадзе пасля "Прарока" сталі зваць джэбранізмам.

— Якая б ні была проза Джэбрана, вы вырашылі перакласці яе вершамі. На рускай мове гэта першы паэтычны пераклад. Але наколькі дапушчальнае такое свавольства? Ці не занадта гэта смела, і чаму ўсё-такі нельга было бліжэй да арыгінала?

— А чаму Гнедзіч пераклаў "Іліяду" вершам? Пачаў александрыйскім, кінуў, перайшоў на гекзаметр. Чаму Мінскі і Верасаеў адважыліся ізноў перакласці гэты твор Гамера, паэтычная тэхніка якога спецыялістамі характарызуецца як спалучэнне прымітывізму і развітога мастацтва апавядання? Чаму вершамі пераклалі "Слова пра паход Ігаравы" Янка Купала і Мікалай Забалоцкі? Навошта Тургенеў у адной з рэцэнзій хваліў казкі, перакладзеныя адным паэтам у рыфму? Чаму Пушкін, перакладаючы, "боролся с Ювеналом", а не добрасумленна яго капіраваў? Пэўна, гэта залежыць ад інтуіцыі перакладчыка — як перакласці на сваю мову той або іншы твор. Эпічны характар апавядання "Прарока" навёў мяне на белы пяцістопны ямб, якім, дарэчы, напісаныя некаторыя хронікі Шэкспіра. Пэўна, ён лепш за ўсё падыходзіць для такога роду паэтычнай прамовы.

— З якімі цяжкасцямі вы сутыкаліся пры перакладзе "Прарока"? У адным са сваіх выступленняў вы сказалі, што працавалі над ім пяць гадоў. Наколькі добрая ваша англійская мова?

— Мова паэмы настолькі метафарычная і асацыятыўная, што часам не адразу разумееш, як звязаць нібыта нязвязнае. Цяжкасці пачаліся ўжо з першай фразы. Падрадкоўнік яе выглядае так: "Альмустафа, абраны і любімы, які быў світаннем у яго ўласным дні, дванаццаць гадоў у горадзе Арфалес чакаў карабель...". Усё ясна, але што значыць толькі што працытаванае? Світанне можа ў англійскай мове выступаць і ў якасці зары. Але гэта мала што растлумачвае: як чалавек можа быць зарой уласнага дня? Што зашыфравана ў метафары? Я вырашыў перавесці так: "Альмустафа, пророк, избранник Божий, // Кто меж людьми зарею воссиял...". Далей па тэксце. Прыгожа, а значыць — небяспечна. Прыгожае часцей за ўсё — няпраўда, недакладнасць. Але нічога лепшага не знаходзілася. І вось аднойчы ўначы падкінула з пасцелі. Божа мой, як я не здагадаўся! Бо ўсё ж вельмі проста. Гаворка ідзе пра ўзрост Альмустафы. Пад днём падразумяваецца яго, прарока, жыццёвы век. І калі ён, як піша аўтар, быў світаннем у сваім веку, то гэта гаворыцца пра зусім яшчэ маладога чалавека. Але ўжо, як мы толькі што прачыталі, любімага ўсімі, выбранніка Божага. І я спыніўся на такім варыянце: "Альмустафа, пророк, избранник Божий, // звезда которого еще всходила...". Тут і пра ўзрост, і пра славу, якая толькі пачынаецца. Гэта адзін толькі прыклад. Такіх сотні. Некаторыя абмяркоўваў па электроннай пошце з амерыканцамі. Некаторыя месцы паэмы напісаныя на старой англійскай, на якой слова save, напрыклад, перакладаецца не як вядомае кожнаму школьніку ратаваць, ахоўваць, берагчы, эканоміць і г.д., а "за выключэннем". А што да маёй англійскай мовы... Яна набыта працай — усё жыццё хацеў прачытаць Шэкспіра ў арыгінале. Пасля універсітэта, дзе само сабою вучыў англійскую, тры гады зубрыў яе на курсах пры сталічным Доме афіцэраў. Потым, так ужо лёс вырашыў, больш як пяць гадоў гаварыў на ёй у Індыі.

— Вы шліфавалі паэму больш як год. Што прымушала вас бясконца правіць, здавалася б, ужо чысты тэкст?

— Перш за ўсё прымушаў сам Халіль Джэбран. Цэлых чатыры гады пасля напісання "Прарока" ён не аддаваў яго ў друк. Не год — чатыры! Шліфаваў, нешта мяняў, зноў прыдзіраўся да самога сябе. Зрабіў да яго некалькі ілюстрацый — ён быў да ўсяго і першакласным мастаком, вучнем і сябрам Агюста Радэна. Гэта ўрок. А потым і мая ўласная незадаволенасць некаторымі пасажамі, адчуванне, што можна сказаць ясней, афарыстычней.

— Як вы думаеце, які лёс чакае перакладзенага вамі "Прарока" Джэбрана?

— Мне здаецца, ён будзе шчаслівым. Бо гэтая рэч па інтэлектуальнай моцы і запалу стаіць нароўні з творамі Шэкспіра і Гётэ, Бальзака і Заля, Пушкіна і Цютчава. Уваходзіць у залаты фонд сусветнай культуры. "Прарок" быццам вядзе чалавека ў таемны свет яго душы, да ўтоеных сховішчаў яго свядомасці. Паэма — канцэнтраваны вынік разумовай дзейнасці чалавецтва. Творчы геній Халіля Джэбрана здолеў падагульніць яе і выказаць у слове, пераадолеўшы так званы супраціў невымоўнага. Паводле Джэбрана "думка — гэта птушка адкрытых прастораў". З кожнай старонкі кнігі "Прарок" гэтая птушка ўздымаецца і ляціць да чытача.

Гутарыла
Наталля КАПА

---

Калонка
Міхася ЮЖЫКА

# Каб не даць пераспець



"Спелы талент — так двума словамі можна акрэсліць асобу Кастуся Траўня, які сёння дае на суд чытача другую кніжку прозы". Гэта цытата з прадмовы да кнігі пісьменніка, пра якога я задумаў пагаварыць. А напісаў прадмову вядомы празаік, мэтр айчыннай літаратуры Уладзімір Дамашэвіч, у шчырасці якога асабіста мне сумнявацца не выпадае.

Але вось незадача. Таленавіты празаік Кастусь Травень не ўпісваецца ў беларускі літаратурны працэс. Пісьменніку пераваліла за шэсцьдзесят, і ён, не прыдбаўшы ў літаратурнай маладосці пэўнага статусу, знаходзіцца цяпер, калі так можна сказаць, ні там ні сям.

Іерархія літаратурнага працэсу будуецца па сваіх складаных і даволі жорсткіх законах. Ільвіная доля плошчы тоўстых часопісаў па традыцыі аддаецца вядомым сталым пісьменнікам; для маладзі, што напорыста рвецца ў літаратуру, адводзіцца даволі вузкая прастора (выключэнне — часопіс "Маладосць"). Аднак Кастусь Травень, які пачаў пісаць прозу блізу пяцідзесяцігадовага ўзросту, не можа быць залічаны ні да шэрагу славутых і знакамітых, ні да маладых і амбітных. А таму чалавек паважанага ўзросту і, бяру на сябе адказнасць, адметна таленавіты празаік вымушаны, нібы малодзён, абабіваць парогі рэдакцый, чакаючы, што яго заўважаць, палюбяць і надрукуюць.

І рэдактары, магчыма б, палюбілі яго, каб уважліва пачыталі не адзін, а некалькі твораў Кастуся Траўня. Таму што ў пісьменніка выключная манера пісьма, багатая мова і не па гадах моцная энергетыка. Да таго ж — і адчуванне сучаснасці, тут ён можа даць фору большасці маладых літаратараў.

Але ж працэй адвярнуцца, вымавіўшы дзяжурнае "Не падыходзіць", або "Не ўразіла", або "Схадзіце ў іншы часопіс". Бо з маладымі важдацца і правіць іх опусы, так бы мовіць, сам Бог загадаў. А старэ, які не заявіў пра сябе ў маладосці, найчасцей атрымлівае аўтаматычныя цэтлікі графамана і назойлівага хадака па рэдакцыях. Да таго ж, Кастусь Травень мае сваю пазіцыю і можа смела яе адстойваць, не лазячы па слова ў кішэню. Гэта мала каму падабаецца.

Трымаю ў руках дзве кнігі прозы Кастуся Траўня — "Маўчы і будзь хітрым" і "Гульня белымі фігурамі", выдадзеныя адпаведна ў 2007 і 2008 гадах. Некаторыя творы гэтых зборнікаў апавяданняў друкаваліся ў перыёдыцы, пачынаючы з канца дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Але большасць апавяданняў (і думаю — самых лепшых) не дайшлі да шырокага чытача. Таму што кніга накладам у 200 асобнікаў можа абсалютна незаўважна растварыцца ў нашым, хай і не такім неабсяжным, літаратурным працэсе.

А такіх літаратараў, што не знайшлі сабе сталага месца ў часопісах і тусоўках, у нас, спадары, нямала. Іх творчасць можа кануць у Лету без нашых спробаў яе прачытаць.

У творах Кастуся Траўня ёсць усё, што патрэбна сучаснасці. Яго проза па сваіх рытміцы, тэматыцы, энергетыцы чулліва перадае тое, чым жыве беларускі народ. Пісьменнік як бы асучаснівае класічную манеру пісьма, спалучае традыцыю і наватарства. Да таго ж, гнутка валодае роднай для яго як выхадца з вёскі натуральнай беларускай мовай. Кастусь Травень — сучасны гараджанін з вясковай базай, з трывалымі маральнымі прынцыпамі, якія ён усмактаў з малаком маці. Беларуская сціпласць у ім ужываецца з напорыстасцю, жвавасцю нашага "электроннага" веку.

Яго кнігі не мелі кваліфікаваных рэдактараў. Асабліва ў першай, дзе сабраны найлепшыя творы празаіка і дзе, на жаль, мноства тэхнічных агрэхаў. Гэта бяда не толькі Кастуся Траўня, а ўсіх тых, хто выдаецца саматугам. Творца, каб расці і развівацца, павінен не выпадаць з літаратурнага працэсу, сяброўскіх і калегіяльных тусовак ці нават ЖЖ-блогаў. Спадар Травень, адцісну ты на ўзбочыну літпрацэсу, не ўпісаны ні туды, ні сюды, тым не менш не адчайваецца. Выдае кнігі і прадае іх там, дзе збіраецца беларускамоўны люд, несучы такім чынам і сваё слова ў масы. "Графаман, якому няма чым заняць сваю старасць!" — прабурчыць нехта. А нехта ў захапленні назаве гэта нацыянальным літаратурным падзвіжніцтвам. Я бліжэй да апошняга вызначэння.



## Алесь ЖЫГУНОЎ

* * *

Жыву на вуліцы Садовай.
Вы уявіце: летні сад...
Тут водар яблыкаў мядовы,
І кожнай яблыні я рад.

І ўвечары, і на дасвецці
Прыходжу сцішаны сюды.
Малымі сонейкамі свецяць
Яго даспелыя плады.

Мой мілы сад.
Я тут над сумам,
Будзённасцю ўзлятаю над...
Я для сябе і вас прыдумаў
На вуліцы Садовай сад.

* * *

Бор парадзеў і пастарэў.
Зноў прывяла сюды дарога.
Каго шукаю сярод дрэў?
А можа быць, сябе самога,

Таго наіўнага зусім,
Які не знаў пра грэх,
пра сорам?
Ды столькі лет і столькі зім
Ужо пранеслася над борам

І нада мною — не пазнаць
Ні бору, ні сваёй усмешкі.
І буду доўга я блукаць
Між дрэў, дзе маладосці сцежкі.

* * *

Жанчына маіх гадоў
Ужо пра любоў забыла.
Таму ёй усё няміла,
Жанчыне маіх гадоў.

Ідзе па жыцці яна,
Нікога не заўважае.
І хоць яна мне чужая,
У тым і мая віна.

Букецік лірычных слоў
Я ёй падару прыгожы.
Яшчэ закахацца можа
Жанчына маіх гадоў.

На восеньскай, на мяжы
Каханне знайсці не проста.
О Госпадзі, памажы
Жанчыне майго узросту.

### Парадокс

Дзякуй лёсу, што не сум,
Дзякуй Богу — не гаркоту
У душы сваёй нясу,
А таемнасць і пяшчоту.

Лістапад і зоркапад
Ападаюць мне на плечы.
Толькі штось не кожны рад
Мной задуманай сустрэчы.

Хоць нясу святло надзей
Й суразмоўца адмысловы,
Хтосьці вочы адвядзе
На прыветлівыя словы.



## Аляксей БАГУШЭВІЧ

**Дэбют**

Аляксей Багушэвіч нарадзіўся ў 1988 годзе. Яго паэтычныя творы ўжо друкаваліся на старонках часопісаў "Маладосць" і "Дзеяслоў". Жыве ў Мінску. У штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" публікуецца ўпершыню.

* * *

леташняе лісце
не лепей за сёлетняе
дый прышласць
нічым не святлейшая
гэта таму, што мокры снег
ужо несапраўдны
гэта таму, што твой твар
больш не мае абрысаў

учора на голай зямлі
я заўважыў зялёныя пасмы

* * *

перакісла
перабрадзіла
з пенай у рота адышоў поўдзень
цяпер можна не напружвацца
цяпер любая ўсмешка —
залішняя
да гарачага лба прыкладзі вечар

* * *

Ад вільготнай сцяны
гастранома
Рэхам адляцеў
Спознены самалёт

* * *

Адолела смага
Нечаканы сабака сярод ночы
забрахаў застагнаў
Нязграбная восень
увалілася ў фортку



## Леў ПАРЭМСКІ

### Развітанне

Мой першы друг.
Мой друг бесценный!..

А. С. Пушкін

Прабіў гадзіннік тры разы,
Апошні раз спляліся рукі...
І зарыпелі палазы,
І ў сэрца ўдарыў боль разлукі.

Звініць званочак пад дугой,
Бадзёра мчаць, спачыўшы, коні...
Сам-насам з горыччу сваёй
Стаіць міхайлаўскі палоннік.

Стаіць са свечкай у руках,
На вуснах — словы развітання...
Прыехаў сябар на свой страх
І асвятліў яго выгнанне.

Дзень успамінаў і размоў
Пад гучны смех, пад звон бакалаў
Бы прамільгнуў, а не прайшоў.
І сумна зноў паэту стала.

Адзін бывае дзень такі.
Так слаўна ўсё было, дарэчы!..
І ў сэрцы ўспыхваюць радкі —
Гімн незабыўнай гэтай стрэчы.

* * *

Вясна аднойчы затуманіць,
Пачне паціху плавіць снег
І булькаўкі пасыпле ранне,
Ледзь сонца выгляне, са страх.

І громам загрыміць па рынах,
Людзей палохаючы, лёд...
І будзе радасцю няспыннай
Цяпла вясенняга прыход.

* * *

Ціха. Ранне. Ад туману
Бела ўсё кругом.
Куст над возерам заспаным
Не ўзмахне крылом.

І хвастом не ўдарыць рыба,
І маўчыць чарот...
І ляжыць туману глыба
На люстэрку вод.

І дуброва чорнай зданню
Бачыцца здаля...
І губляецца ў тумане
Марката мая.

* * *

Я плакаў. Здрадзілі сябры.
Рыдаў я доўга пад сасною...
Як пальцы
ў роспачы — ўгары
Сплялося голле нада мною.

Завісла хмарка на сасне,
Ды жар не збавіла малому…
Было ад здрады
горка мне
І ад таго,
што ўцёк я з дому.

Прамчаўся вецер угары —
І дрэва цяжка застагнала —
Адно яно ва ўсім бары
Як чалавек мне спагадала.

* * *

Сагнуўся б мо я ад самоты —
Планіда цяжкою была,
Але на каменных варотах
Рабіна вясной прарасла.

І стаў паднімаць я свой голаў
Хмурнела ўсё меней чало...
На камені змрочным і голым
Упэўнена дрэўца расло.

Дужэў адначасна з рабінай
Душою памалу і я...
Мацнелі штолета галіны,
Мацнела жывучасць мая.

Вось так
і дужэлі мы ўпотай
І верылі ў зоркі свае:
Яна — на каменных варотах,
Я — ў доме насупраць яе.

* * *

Сонца грэе ў плечы,
Цішыня наўкол.
Лісце па-старэчы
Падае на дол.

Цяжка, з прыдыханнем
Падае яно...
У душы спявання
Болей не чутно.

Наплывае млявасць,
Сэрца быццам спіць...
Дзе ты, дзе, удаласць?
Пагукаў — маўчыць.



Фота Марыны Весялухі

# Пецярбургскі нататнік

## Занатоўкі мастака



Адам ГЛОБУС

Дзень першы.
17 сакавіка, серада.

Дзеці і маразы

У аэрапорт мяне завезлі дзеці — Ядзя і Мікалай. Чакаючы рэгістрацыі на рэйс да Піцера, Ядзя паглядзела на тэлефоне праз нэт прагнозы надвор'я. На Неўскім мяне чакаюць снег і маразы. Уночы абяцаецца мінус дваццаць. Халаднавата, як для мяне. Добра, што ўзяў тэрмабялізну. Рэгістрацыю я прайшоў самы першы, каб не трымаць у аэрапорце сваіх зусім дарослых дзяцей.

Няпэўнасць

Чым радзей лётаю, тым раней прыязджаю ў аэрапорт. Раней ледзь паспяваў, спазняўся, мітусіўся. Цяпер сяджу і чакаю, але пачуццё няпэўнасці ўсё яшчэ застаецца. Вандроўнік з мяне кепскаваты.

Поўнач

Узняўся над аблокамі
і трапіў на Поўнач.

Сцюардэса і цукеркі

Са спода з цукеркамі я ўзяў адну, пачакаў імгненне і папрасіў яшчэ адну: "Можна, я вазьму не адну, а дзве цукеркі?" — "Бярыце-бярыце! Цукерак шмат!" Сцюардэса ўзяла цэлую жменю, мо з дзесяць цукерак у серабрыстых абгортках, і насыпала мне ў рукі. Калі везла столік з напоямі, яна была падобная да анёла. Сцюардэсы, збольшага, падобныя да анёлаў… Пасля трох цукерак і простая вада пілася як нябесны нектар.

Дзень другі.
18 сакавіка, чацвер.

Новыя дамавікі
і Сяргей Харэўскі

У Пецярбургу процьма новых дамавікоў. Яны чымсьці падобныя да нашага беларускага шэдэўраапісвальніка Сяргея Харэўскага. Новыя дамавікі сівабародыя, апранаюцца бедна, але з густам. Ад доўгага хаджэння па вуліцах піцерскія Новыя дамавікі пакульгваюць, хто на правую, а хто і на левую нагу. Новыя дамавікі занятыя абаронаю старых дамкоў. Гэты не так пафарбавалі, авуй-авуй! Той не так дабудавалі, мансарду завысокую зрабілі, аяйаяй! Ну, а гэты дом зносяць, гвалт-гвалт! Новыя дамавікі выступаюць асобным жанрам у медыйнай прасторы. Яны галосяць, вувуйкаюць, плачуць па незваротна страчаных каштоўнасцях. Плачуць па мінулым часе. Яны смерць, натуральную смерць архітэктуры, прадаюць за гвалт і забойства. Новыя дамавікі не любяць нічога новага ў будоўлі. І за гэта я іх трошачкі люблю. Яны, як і ўсе мы, не могуць спыніць абнаўляльны час, але прыпыніць яго крыху могуць, а гэта важна… Так мне падумалася ў "Літаратурнай кавярні" на Неўскім. У чыстай і новай кавярні на старым Неўскім праспекце, дзе і Гогаль, і Гранін, і Глобус праляцелі, прайшлі, прамінулі…

Сасулі і Неўскі праспект

З дахаў на людзей сыплецца, падае, ляціць лёд. Раніцай ішоў снег. Ціхі і лірычны снег засыпаў Неўскі праспект, калі я на яго выйшаў з вуліцы Марата. Не паспеў дайсці да Анічкавага моста, як снег скончыўся, як заблішчэла сонца, як пачалі падаць смактулькі… На Неўскім яны не так часта падалі, як на іншых вуліцах, таму і гуляў па праспекце, бо толькі я збочыў... А збочыў, бо хацеў прайсці на вуліцу, дзе некалі жыў у Жукавых. У дзяцінстве і юнацтве я ездзіў у Ленінград і спыняўся ў знаёмых Жукавых. З Мішай і Тосяй Жукавымі гуляў у карты штовечар, а штораніцы хадзіў у "Булачную", каб бабе Вользе Жукавай купіць свежы бублік за пяць капеек. Гэтым разам я вырашыў падысці да той "Булачнай". Вырашыў пастаяць на вуліцы, дзе ёсць кінатэатр, дражджавы завод і трамвайная лінія. Вырашыў схадзіць і пастаяць у сваім мінулым. Не атрымалася, бо мне на галаву ўпала, як цяпер кажуць піцерцы, сасуля. Я нават не спалохаўся. Сасуля ўпала мне на галаву, саслізнула на правае плячо, з яго на спіну — і на зямлю. Канечне, я чалавек вясёлы, але не да такой ступені, каб загінуць ад удару піцерскай сасуляй па галаве. Давялося мне адмовіцца ад сентыментальнага падарожжа і вярнуцца на сонечны Неўскі.

Звон, пазвоньванне,
пабразгванне манет…

У мінскім метро знайшоў украінскую капейку. Адна маленькая капейка выклікала ў мяне вялікую зайздрасць. Пра тую вялікую зайздрасць я згадаў у Піцеры. Куды ні пойдзеш, паўсюль манеты звіняць. Ну кепскі я чалавек, ну люблю манетны перазвон, ну не хапае мне манетнага звону ў Беларусі. І яшчэ мне не хапае знойдзеных на вуліцы манетак. У Піцеры я, канечне, пазнаходзіў і панападбіраў і капеек, і рублёў, але мая душа патрыёта зайшлася ў зайздрасці. У іх ёсць, а ў нас… Будуць!

Дзень трэці.
19 сакавіка, пятніца.

Страмянная і "Глобус"

Жыву я на Страмяннай. Ціхі цэнтр, так пра яе кажуць. Да Неўскага ісці дзве хвіліны. Можна выйсці і пастаяць на праспекце ў тапках, але снегу многавата. Таму на Неўскі выходжу ў чаравіках. На Страмяннай некалі было выдавецтва "Глобус", у якім выдалі свае першыя кнігі Самуіл Маршак і Агнія Барто. У доме, дзе знаходзіцца мой гатэль, быў цэнтр вывучэння яўрэйскай культуры. У суседнім доме — бібліятэка імя Лермантава. Гатэль, дзе жыву, толькі-толькі адчынілі. Усё новенькае, чыстае, як з крамы, і ў англійскім стылі.

Гранін і алігархі

За банкетным сталом дзевяностагадовы пісьменнік Данііл Гранін сказаў, што чытае і вывучае спісы рускіх алігархаў… З гэтага ён пачаў сваё слова лаўрэата. Чаму я не чытаю спісы алігархаў? Задумаўся і прапусціў усе астатнія словы Данііла Граніна.

Крусанаў і Носаў

Калі ты ў Піцеры, ты проста абавязаны сустрэцца з Носам ці хоць бы з Носавым. На банкеце я сядзеў побач з Носавым і Крусанавым. Я распавёў ім пра бублікі за пятак савецкі, пра дражджавы завод і пра кінатэатр "Масква". Носаў і Крусанаў успомнілі назву вуліцы, на якой стаяў кінатэатр "Масква", дзе я крадком паглядзеў кіно для дарослых "Пышка". Прастытутка па мянушцы Пышка мне не спадабалася. Вуліца з кінатэатрам "Масква" была раней праспектам Газа, цяпер гэта Стара-Петергофскі праспект. Вуліца, на якой я жыў у Жукавых, і раней, і цяпер называецца Курляндскай. Пасля банкета і атрымання прэміяльных трыццаці тысяч расійскіх рублёў я паехаў на Курляндскую, паехаў як звычайны чалавек на метро. Ад метро да Курляндскай дабіраўся пехатою і дайшоў, гадзіну блукаў, але дабраўся. Пад'езд, дзе я жыў, быў, канечне ж, зачынены. Але мне на радасць, з яго выйшлі дзяўчынкі-блізняты. Мішу Жукава яны не бачылі ніколі і не чулі пра яго. Я зайшоў у пад'езд. Ліфт зачыняўся на ключ. Падняўся пехам на чацвёрты паверх, пастаяў перад шырокімі жалезнымі дзвярыма і не пазваніў, і не пастукаў, і не зайшоў. Там няма ні Мішы, ні цёткі Тосі, ні бабы Волі, якой я купляў гарачыя бублікі за савецкі пятак. Іх ужо нідзе няма… Пэўна. Я не зайшоў за дзверы… Хай яны для мяне, толькі для мяне аднаго, там усё яшчэ пажывуць і пап'юць гарбаты салодкай ды з бублікам.

Горад для жыцця

На Піцер я ніколі не глядзеў як на горад для свайго жыцця. Ніколі…

Дзень чацвёрты.
20 сакавіка, субота.

Хармс і галалёд

Уночы ішоў снег, а раніцай пайшоў дождж. Выходзіць з гатэля не хацелася, але я выйшаў і пайшоў на вуліцу Маякоўскага, дзе некалі жыў Хармс. Вуліца была ў ледзяных горках і брудных лужынах. Вуліца была створана, каб на ёй людзі ламалі ногі. Каб не зламаць нагу, трэба стаць Хармсам. Усім вядома, што Хармс быў анёлам. Анёлы ногі не ламаюць. Я зрабіўся Хармсам і паляцеў па-над лёдам. Праляцеў каля Інстытута нейрахірургіі імя Паленава і вярнуўся на Неўскі, дзе зноў стаў чалавекам пад дажджом.

Малевіч
і савецкае мастацтва

Зайшоў у Рускі музей і даведаўся, што ў Рускім няма савецкага мастацтва, зусім няма. Ні Маісеенкі, ні Мыльнікава, ні Нізскага… Хоць бы які Самахвалаў ці Лебедзеў… Нікога! Я папытаўся ў глядзельніцы, тая сказала шэптам, што шмат хто пытаецца, дзе дзелася савецкае мастацтва, але яна не ведае і не ведае, што казаць. Рускі дарэвалюцыйны авангард ёсць. Зальчык з Філонавым, некалькі палотнаў Родчанкі і "Чырвоны квадрат" Казіміра Малевіча. Я пастаяў каля крывога рэвалюцыйна-чырвонага квадрата і пачуў: "Глядзіце, глядзіце, дзяўчаты, у яго і чырвоны квадрат ёсць, а я думала – толькі чорны!!!" Калі ты думаеш, што я пашкадую савецкае мастацтва, ты памылішся. Не пашкадую я Мыльнікава і Коржава. Памёр СССР і памёр. А чырвоны квадрат на белым палатне жывейшы за ўсіх жывых.

Што да канцэпцыі з адсутнасцю савецкага ў Рускім, дык я яе зразумеў наступным чынам: у Рускім музеі паказана мастацтва вялікай імперыі, створанае і сабранае ў сталіцы, што стаяла на Няве; пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў правінцыйным горадзе на Няве нічога істотнага ніхто не стварыў. Такая канцэпцыя мае права на існаванне.

Дзяўчына і тытунь

П'ю каву, а яна за суседнім сталом курыць "Мальбара". Мне захацелася закурыць. Я ўсё яшчэ не навучыўся садзіцца на месцы для тых, хто кінуў курыць. Ну няма ж у нас у рэстарацыях месцаў для тых, хто кінуў піць. "Ты курыш, а я кінуў і пакутую…" Дзяўчына падсунула да мяне пачак "Мальбара". "Не, не… Ты куры! Ты пі! Ты рабі ўсё, што можаш, а я пайду. Пайду на Анічкаў мост і пастаю пад дажджом, каб перапрацаваць сваё жаданне закурыць…" Пайшоў на мост, а з яго на канал Грыбаедава, дзе наш Грынявіцкі кінуў у рускага цара бомбу. Чаму я сюды прыходжу? Чаму стаю над каналам пад дажджом? Каб перапрацаваць? Каб перапрацаваць! Што перапрацаваць? Ды ўсё кепскае, увесь боль, усю нянавісць да несправядлівага і брыдкага, як сакавіцкі дарожны лёд, свету…

Хармс і эфір

Данііл Хармс жыў у Ленінградзе і нюхаў эфір. Каб я жыў у Ленінградзе, таксама нюхаў бы эфір, бо ні гарэлка, ні спірт не дапамаглі б стаць чалавекам. Я б нюхаў, каб мой мозг зменшаўся да памераў грэцкага арэха, каб у вачніцах былі каменьчыкі, а ў жылах цякла электрычнасць.

Скураныя вокладкі
і прадавачка

Зайшоў у "Рэдкую кнігу на Неўскім". Тамы за тысячы еўра, за дзесяткі тысяч расійскіх рублёў. Пацікавіўся, ці ёсць "Японская лірыка". "Была, прадалі! Добра прадаецца…" Кніга з маімі малюнкамі і перакладамі майго брата Міраслава добра прадаецца і на Неўскім. Кнігу запакоўваюць у скуру, запакоўваюць у шкляную шафу ў краме на Неўскім і прадаюць. Прадавачка, дарэчы, мае выгляд дарагой запакоўшчыцы. А я ўсё яшчэ люблю танныя старыя кнігі на газетнай паперы.

Выбары ў метро

"Усе на выбары новай адзежы!" — заклікае цябе дзяўчына з рэкламнага шчытка ў піцерскім метро. "Усе на выбары новай адзежы! — паўтараеш ты за дзяўчынай і дадаеш: — Новай адзежы караля!"

Святло ў канцы

Пра святло, якое можна ўбачыць у канцы даўжэзнага тунэля, пэўна, нехта прыдумаў, едучы на эскалатары ленінградскага, тады яшчэ ленінградскага, метро.

Клетка для курцоў

У аэрапорце "Пулкава" назіраў за шкляной клеткаю для курцоў. Курэц цалкам добраахвотна заходзіць у клетку, зачыняецца і курыць. Усе бачаць, як ён паліць у клетцы. Негуманна гэта ўсё. Чалавек не жывёла, з ім нельга так жорстка абыходзіцца, яго нельга заганяць у клетку. Здавалася б, мог бы пазлараднічаць: маўляў, мне ў клетку не трэба. Але чаму я павінен глядзець на чалавека ў клетцы? Пасіўны назіральнік — саўдзельнік у злачынстве. Карацей, я супраць таго, каб людзі палілі ў клетках, трэба інакш вырашаць гэтую праблему, ці хоць бы памяшканне для курцоў рабіць з непразрыстымі сценамі. Ну робім жа мы непразрастыя прыбіральні.

Шарамецьева
і праблемы

Масква — горад з праблемамі. Прыляцеў з Піцера і атрымаў. Выйшаў з самалёта, сеў у аўтобус, дзверы зачыніліся — і ўсё. І стаіць аўтобус. Пяць хвілін стаіць. Дзесяць хвілін стаіць. І ніхто нічога не кажа. Пазваніў брату. Кажу: спазняюся! Тут прыехала "хуткая", некага вывалаклі з самалёта і загрузілі ў машыну. Усё разумею! Чалавек памёр. Я сам, калі самалёт ідзе на пасадку, думаю пра смерць. Вось памру ў самалёце, і сцюардэса са сцюардам грошы мае ўкрадуць. Я так і думаў, але паглядзеў, як нябожчыка грузілі ў "хуткую", і зразумеў: не паспеюць грошы ўкрасці, не хопіць у іх спрыту. Гэта мяне крыху суцешыла, мой уяўны труп з прэміяльнымі грашыма ў кішэнях выглядаў крыху лепей за мой уяўны абрабаваны труп. Аўтобус прастаяў на полі хвілін з дваццаць, і я пачаў спазняцца на рэйс Масква-Мінск. А тут высветлілася, што прыляцеў у тэрмінал D, а вылет з тэрмінала B, а туды ехаць хвілін дваццаць, а то і ўсе паўгадзіны. Вёз мяне былы бандыт. "Я і паваяваў, і бандытам пабыў, цяпер таксую…" Аповеды пра сумленных таксістаў мяне не ўразілі, ды й я слухаў праз слова, бо думаў: галоўнае не спазніцца. Паспеў! Зарэгістраваўся! Лячу! Бывай, праблемная Расія!

## Музыка абавязвае

Наўрад ці трэба разважаць пра тое, чаму сучасныя музычныя тэатры робяць стаўку на класіку і чым яна прыцягвае сённяшнюю публіку. Класіка — гэта музыка на ўсе часы, вартасць якой праверана ўжо некалькімі пакаленнямі, і класіка заўсёды — навіна. Яна ніколі не надакучвае, бо мае невычэрпны патэнцыял для духоўных, інтэлектуальных, вобразных, эстэтычных адкрыццяў і творчых эксперыментаў, для развіцця прафесійнага майстэрства выканаўцаў і культуры публікі.



# Ставіць на класіку!

Чатыры месяцы таму ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры змянілася кіраўніцтва. Факт нашым чытачам вядомы і пра яго не варта было б нагадваць, але... Але відавочныя змены пачалі адбывацца і ў творчым абліччы гэтага папулярнага сталічнага калектыву. Так, напрыклад, адзін з нядаўніх майскіх вечароў парадаваў публіку прэм'ерай гала-канцэрта, складзенага з хітоў сусветнай аперэты, прычым гучалі не толькі агульнавядомыя сёння класічныя фрагменты, але і незаслужана забытыя ў нас, дый за мяжой, старонкі прыгожай музыкі. У мінулую суботу тэатр прэзентаваў "Музычны калейдаскоп" — новую праграму, якая ўвабрала ў сябе адметны гукасвет беларускіх кампазітараў. Наступная сустрэча з класікай будзе таксама незвычайнай у кантэксце нядаўніх жанравых прыярытэтаў гэтага тэатра.

Як вядома, свае першыя тры дзесяткі гадоў ён існаваў пад шыльдай Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. З 2000-га перайменаваны ў Беларускі дзяржаўны музычны тэатр. Гэта не проста змена назвы, а іншы статус, падмацаваны ў мінулым сезоне яшчэ і званнем "акадэмічны". Творчы калектыў адчувае цяпер асаблівую адказнасць перад Музыкай. І новае кіраўніцтва, актывізуючы разам з ініцыятыўнымі музыкантамі, артыстамі працэс пашырэння жанравых межаў тэатра, шукае для гэтага перспектыўныя магчымасці.

Яркі прыклад — "Музычныя вечары з Аляксандрам Анісімавым", доўгатэрміновы канцэртны праект, які БДАМТ распачынае 9 чэрвеня. Пра новую старонку, што адкрываецца ў творчым жыцці тэатра, распавялі яго дырэктар Аляксандр Пятровіч ды мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Аляксандр Анісімаў.

"Вечары класічнай музыкі адпавядаюць той спецыфіцы працы тэатра, што вызначаецца яго цяперашнім статусам, — мяркуе А. Пятровіч. — Музыка такога жанру прывабіць у нашу залу аматараў класікі, якія атрымаюць дадатковыя магчымасці для наведвання "жывых" канцэртаў. А галоўнае — дасць магчымасць раскрыць патэнцыял музыкантаў тэатра. Нам пашанцавала, што Аляксандр Анісімаў, чыё імя мае вагу не толькі на беларускім абсягу, прапагандыст класічнай музыкі, зацікаўлены ў далучэнні да яе слухача маладога, адкрыты да стасункаў з публікай, — што такі дырыжор з прыемнасцю прыняў запрашэнне да супрацоўніцтва".

"Тое, што сёння адбываецца ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры, яшчэ раз пацвярджае: старонкі яго творчага жыцця пішуць і перагортваюць канкрэтныя людзі, — перакананы маэстра А. Анісімаў. — Аналагічныя прыклады ёсць у гісторыі расійскіх тэатраў. Скажам, у Растове 70 гадоў быў вядомы тэатр аперэты. А калі ён стаў музычным тэатрам, у яго структуры побач з аперэтай пачалі развівацца балет і опера. Аляксандру Яўгенавічу раней давялося працаваць у розных установах культуры, прынамсі — у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, у НАВТ оперы і балета. Думаю, у яго было прыхавана нейкае "маршальскае жазло", і вось на новай пасадзе пачалі спраўджвацца амбіцыі гэтага чалавека, які задумаў тут калі не альтэрнатыўны філармоніі ці оперы, дык не менш важкі музычны асяродак. Гэта заслугоўвае падтрымкі. Нягледзячы на маю занятасць у Акадэмічным сімфанічным аркестры Беларусі, на працу запрошанага галоўнага дырыжора ў Пермскім тэатры оперы і балета, іншыя замежныя праекты, я пагадзіўся супрацоўнічаць, бо паверыў у прафесіяналізм арганізатара і яго калег, адказнасць партнёра перад планамі. Калі мы зможам спецыфічныя прыхільнасці публікі гэтага тэатра павярнуць да класікі, будзе цікава. І зусім не насуперак аперэце. Спалучэнне ў межах адной сцэны розных музычных жанраў нагадае пра традыцыі Еўропы, у сталіцах якой існуюць разнапланавыя тэатры, з рознымі падыходамі нават да ўвасаблення опернай класікі: элітарным ці больш спрошчаным... Адзін з першых канцэртаў, арганізаваных сп. Пятровічам, — "Казкі Венскага лесу" пры ўдзеле запрошаных оперных дырыжора і салістаў, прысвячаўся класічным узорам аперэты. І гэта была радасць для ўсіх: для выканаўцаў, для публікі".



Такім чынам, днямі прагучыць "уверцюра" ўжо новага праекта, у межах якога на сезон 2010 — 2011 гадоў запланавана пяць канцэртаў аркестра і хору тэатра з маэстра А. Анісімавым. Праграму 9 чэрвеня распачне ўзор італьянскага барока — "Паравіны года", знакаміты цыкл канцэртаў А.Вівальдзі, саліраваць у якім будзе скрыпачка Юлія Стэфановіч, канцэртмайстар Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Пасля антракта залу апануе стыхія французскага рамантызму: сімфанічнае скерца П.Дзюка "Вучань чарадзея", сюіта "Мая Кармэн" (складзеная А. Анісімавым з фрагментаў папулярнай оперы Ж. Бізэ і яго музыкі да драмы "Арлезіянка"), нумары з "Вальпургіевай ночы" ("Фаўст" Ш. Гуно), "Вакханалія" з оперы К. Сен-Санса "Самсон і Даліла".

У задумах маэстра — праграма з хорам і салістамі тэатра; "сямейны" вечар з выкананнем кампазіцыі паводле музыкі балета Я. Глебава "Маленькі прынц" і аднайменнай аповесці А. дэ Сент-Экзюпеdo; прадстаўленне сімфанічнай музыкі для драматычнага тэатра пры ўдзеле акцёраў; прэм'ера музычна-драматычнага твора (назва пакуль — сакрэт), на пастаноўку якога пагадзіліся рэжысёр М. Пінігін ды расійскі сцэнограф В.Окунеў... Словам, праз нейкі час традыцыйны рэпертуарны пласт аперэт, мюзіклаў і музычнах камедый дапоўняць нестандартныя пастаноўкі ў іншых жанрах, у тым ліку музычна-драматычныя і харэаграфічныя кампазіцыі, імпрэзы, складзеныя з харавых, аркестравых, вакальна-сімфанічных шэдэўраў.

## Свой пачэсны пасад

"Ёсць у нашай сталіцы тэатр вельмі папулярнага жанру. Назва гэтага вядомага калектыву пачынаецца са слова "Беларускі", і пішацца яно, вядома ж, з вялікай літары, а яшчэ там ёсць слова "дзяржаўны", да якога нядаўна дадалося — "акадэмічны". Але ўжо даўно гэты мінскі тэатр жыве нібы з падсечанымі каранямі: са сцэны не гучыць роднае беларускае слова, не падтрымліваюцца тут колішнія плённыя традыцыі творчага супрацоўніцтва з беларускімі аўтарамі, нават сцэнографаў "выпісваюць" з блізкага замежжа. І няма тут ні душэўнага болю за беларускі рэпертуар, ні прафесійнай адказнасці за сённяшнюю нацыянальную безаблічнасць тэатра, у якім працуе столькі таленавітых і яркіх беларускіх артыстаў, музыкантаў... Вядома ж, можна па-абывацельску радавацца, калі афішу папаўняюць савецкія творы мінулага стагоддзя, чамусьці не надта запатрабаваныя там, дзе жывуць іх аўтары; можна задаволіцца тым, што для дзяцей ставяцца "кавер-версіі" савецкіх фільмаў, мульцікаў і пры гэтым ігнаруюцца, скажам, самабытныя беларускія казкі, набыткі айчыннай дзіцячай літаратуры, творчы патэнцыял нашых сучасных аўтараў... Аднак жа ці адпавядае такая афіша назве тэатра?" — гэта цытата з "ЛіМа" ("Тэатр сілкуецца любоўю", 13.11.2009 г.). Такі крытычны закід у бок БДАМТ я дазволіла сабе тады, разважаючы пра мінскія гастролі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа і яго яркую рэпертуарную знаходку — музычную камедыю "Ветрагоны" паводле беларускага класіка У.Галубка з музыкай У. Кур'яна. Сёння ж відавочна, што пафас маёй самацытаты страціў колішнюю актуальнасць. Новае кіраўніцтва БДАМТ скарэктавала акцэнты ў рэпертуарнай палітыцы, і ёсць надзея, што беларускі рэпертуар зойме свой пачэсны пасад між венскай класікай ды сусветным мюзіклам — як гэта, зрэшты, і было ў першыя дзесяцігоддзі творчай дзейнасці калектыву.

Значным і прынцыповым набыткам тэатра сталася нядаўняя прэм'ера "Музычны калейдаскоп", ажыццёўленая па ініцыятыве маладых дырыжораў Мікалая Макарэвіча ды Юрыя Галяса пры падтрымцы дырэктара. Вынік іх самастойнага, сталага і перспектыўнага мыслення, іх дзейснай увагі да роднай культуры — унікальная праграма ў 2-х аддзяленнях з твораў беларускіх кампазітараў. Сучасная айчынная сімфанічная музыка была прадстаўлена творамі В. Кузняцова (паэма для аркестра "Мая Беларусь"), Д. Лыбіна (тры часткі "Сюіты для горада Нясвіжа"), У. Каральчука (аркестравая фантазія "Мора"), М. Літвіна (сімфанічны эскіз "Горкі вырай"), П. Шведава ("Бітва на Нямізе" з цыкла "Старонкі беларускай гісторыі"), Я. Шымановіча (фантазія для кларнета з аркестрам "Па кім б'е звон", у якой сам аўтар, кларнетыст-віртуоз, выканаў сольную партыю). Другое аддзяленне канцэрта складалася з музыкі сучаснікаў старэйшага пакалення ды нашых класікаў. Тут гучалі, у прыватнасці, лепшыя вакальныя ды сімфанічныя фрагменты з музычна-сцэнічных твораў С. Манюшкі, Я.Глебава, Ю. Семянякі, У. Солтана, Д.Смольскага, Р. Суруса, У.Кандрусевіча. У "Музычным калейдаскопе", які разгарнуўся пад кіраўніцтвам М. Макарэвіча ды Ю. Галяса, публіка пачула натхнёныя спевы салістаў Маргарыты Александровіч, Наталлі Гайды, Ірыны і Антона Заянчкоўскіх, Лідзіі Кузьміцкай, Людмілы Станевіч, Яўгена Ермакова, а таксама хор тэатра ды квартэт драўляных духавых інструментаў "Рыв'ера".

26 чэрвеня адбудзецца прэм'ера адноўленага балета У.Кандрусевіча "Мефіста". Што далей? Кіраўніцтва БДАМТ сустракалася з беларускімі кампазітарамі, зацікаўленымі ў супрацоўніцтве, і ўжо абмяркоўваюцца магчымыя тэмы новых твораў для музычнай сцэны.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр; дырэктар тэатра Аляксандр Пятровіч і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Аляксандр Анісімаў.

Фота Віктара Кавалёва

## Радуемся разам



Ілья Сільчукоў, малады барытон, вядучы саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, нядаўна вярнуўся з XII Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя І. Гольдзіна (Врабле, Славакія). Беларускі спявак бліскуча перамог у гэтым творчым спаборніцтве, стаў лаўрэатам 1-й прэміі ды яшчэ атрымаў і спецыяльны прыз, заснаваны Славацкай нацыянальнай операй для абсалютнага пераможцы конкурсу — Залаты медаль імя прафесара Андрэя Кухарскага.

Пра легенду Купалаўскай сцэны, народную артыстку БССР і СССР Стэфанію Станюту гаварылі ўдзельнікі імпрэзы, якая адбылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі і прымяркоўвалася да 105-й гадавіны з дня нараджэння гэтай незабыўнай актрысы. На вечарыну былі запрошаныя яе родныя і (таксама ж родныя!) артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Наведвальнікаў музея асабліва зацікавілі арыгіналы прыватнага ліставання С. Станюты, а таксама новая кніга яе сына — вядомага літаратуразнаўцы, пісьменніка, педагога Аляксандра Станюты "Гарадскія сны". Гэта шмат у чым аўтабіяграфічны раман, у аснове якога — неадпраўленыя лісты артысткі да мужчын, у яе закаханых, а таксама звесткі з біяграфіі С.Станюты перыяду 1930-40-х гадоў. Вобраз актрысы пазнаецца ў гераіні рамана — Леакадзіі Забэлы.

У Нью-Йорку і ў Парыжы выступіў Маладзёжны сімфанічны аркестр СНД, сярод музыкантаў якога ёсць прадстаўнікі Беларусі. Першае выступленне прайшло ў зале Генеральнай Асамблеі ААН. Парыжскі гала-канцэрт (ім дырыжыраваў маэстра Уладзімір Співакоў) адбыўся ў штаб-кватэры ЮНЕСКА і прысвячаўся 65-годдзю Вялікай Перамогі ды гэткай жа знамянальнай даце ў гісторыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, заснаванай ў 1945 г. Аркестр, створаны тры гады таму па ініцыятыве Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельнікаў СНД, — гэта 93 выканаўцы з 11 краін Садружнасці, з іх 6 — маладыя артысты Сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Цяпер Маладзёжны сімфанічны аркестр СНД рыхтуецца да восеньскага турнэ па некаторых сталіцах краін Садружнасці: Астане, Ашгабадзе, Баку, Ерэване, Кіеве, Маскве. А мінская публіка мела магчымасць наведаць яго канцэрт яшчэ на пачатку гэтага філарманічнага сезона: калектыў выступіў пад кіраўніцтвам знанага дырыжора Марка Гарэнштэйна і з маладым перспектыўным салістам — расійскім піяністам Міраславам Култышавым. Побач з музыкай П.Чайкоўскага, Дж. Бізэ ды Дж. Гершвіна тады прагучаў і "Канцэрт для аркестра" беларускага кампазітара-класіка Я. Глебава.



Лана ІВАНОВА

На здымках: лаўрэат міжнародных конкурсаў Ілья Сільчукоў; маэстра Марк Гарэнштэйн і піяніст Міраслаў Култышаў падчас візіту ў Мінск.

Фота аўтара і з сайта НАВТ оперы і балета Беларусі




У чарадзе разнастайных фестываляў — рэгіянальных і міжнародных, масавых і элітарных, шыкоўных і малабюджэтных — не знойдзеш аналагаў мастацкім святам, якія 15 гадоў запар ладзіць Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі. Гэта сапраўды унікальная традыцыя. Яе пачаткам стаўся першы фэст, наладжаны майскімі днямі 1995-га ва ўтульным і прыгожым Нясвіжы, які называюць нашай некаранаванай старажытнай сталіцай. А працягам — актыўны музычна-асветніцкі рух у невялікіх гарадах і мястэчках, які за мінулыя паўтара дзесяцігоддзя ўлучыў у сваё фестывальнае кола Заслаўе, Мір, Мсціслаў, Тураў, Чачэрск, Іванава, Пінск... 15-годдзю гэтага руху і самага першага фэсту, зладжаванага па ініцыятыве маэстра Міхаіла Фінберга, натхнёнага ідэяй папулярызацыі беларускай музычнай даўніны ў кантэксце нацыянальна-культурнага адраджэння і з вялікім энтузіязмам падтрыманага тагачасным старшынёй Нясвіжскага райвыканкама Уладзімірам Дражыным, прысвячалася сёлетняе свята "Музы Нясвіжа".



# Нясвіжскі гукасвет

**Ад народнай песні — да харавой імшы, ад Агінскага — да Туранкова, ад Шапэна — да Падкавырава...**

За час існавання гэтага фэсту яго арганізатары (мастацкі кіраўнік М. Фінберг, навуковы кіраўнік і вядучая музычных праграм В.Дадзіёмава) пазнаёмілі аўдыторыю з музыкай кампазітараў, спрычыненых да беларускай зямлі або радаводнымі каранямі, або творчай працай; адкрылі малавядомыя або незаслужана забытыя старонкі нашага гукасвету, сфарміравана на скрыжаваннях еўрапейскіх шляхоў і гістарычных эпох, — унікальнага гукасвету, у якім з крэўным голасам роднага краю зліліся інтанацыі розных народаў, розных культур. Праз новыя адмысловыя аранжыроўкі ды інструментальныя транскрыпцыі, у выкананні камерных калектываў, што працуюць у структуры "малой філармоніі" — Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, у музычны досвед чулай і дапытлівай нясвіжскай публікі ўваходзілі Вацлаў з Шамотул і Цыпрыян Базылік, Васіль Цітоў і Восіп Казлоўскі, Міхал Казімір і Міхал Клеафас Агінскія, Ян Голанд і Мацей Радзівіл, Ян Дусік і Эрнст Ванжура, Каміла Марцінкевіч і Міхал Ельскі, Напалеон Орда і Станіслаў Манюшка, Антон Абрамовіч і Мечыслаў Карловіч, ананімныя аўтары старажытных псальмаў, "Нясвіжскай імшы", "Полацкага сшытка"... Беларускія класікі XX стагоддзя Мікалай Чуркін, Мікалай Аладаў, Анатоль Багатыроў, Яўген Глебаў, Леў Абеліёвіч, Генрых Вагнер... Нашы сучаснікі Дзмітрый Смольскі, Галіна Гарэлава, Аляксандр Літвіноўскі, Уладзімір Кур'ян, Дзмітрый Лыбін... Неабдымная непаўторнасць!

Здавалася б, падсумоўваючы плён сваёй дзейнасці, складальнікі сёлетняй двухдзённай праграмы "Муз Нясвіжа" маглі б абмежавацца рэтраканцэртамі — прапанаваць выбраныя старонкі колішніх фестываляў. Аднак і гэтая сустрэча здзівіла і парадавала публіку непаўторнасцю: свежасцю эстэтычных уражанняў, новай пазнавальнай інфармацыяй.

Камерныя калектывы вялікага аркестра выступілі ў гарадской ратушы з разнастайнай праграмай, прымеркаванай да 100-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай музыкі XX стагоддзя Пятра Падкавырава. Ураджэнец Расіі, які следам за сваім настаўнікам Васілём Залатаровым (вучнем М. Рымскага-Корсакава), запрашаным у Мінск выкладаць кампазіцыю, П. Падкавыраў прыехаў у Беларусь, якая стала для яго другой радзімай... На жаль, імя гэтага кампазітара і педагога, яго творчасць выпалі з сённяшняга культурнага кантэксту. Бадай, толькі ў Нацыянальным канцэртным аркестры адзначылі 100-гадовы юбілей П. Падкавырава, успомнілі лепшыя старонкі яго самабытнай музыкі.

Кульмінацыйнай падзеяй стаўся вялікі фестывальны вечар, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння непараўнальнага кампазітара і піяніста Фрыдэрыка Шапэна. Яго называюць паэтам фартэпіяна, і гэта слушна. Аднак у Год Шапэна, які сёлета адзначае ўвесь культурны свет, музыканты імкнуцца нібы пераасэнсаваць яго творчасць у розных жанрах: пішуць п'есы з выкарыстаннем шапэнаўскіх тэм, робяць джазавыя апрацоўкі вядомых рамантычных мелодый. А вось у Нясвіжы свет вобразаў Шапэна (дарэчы, злучанага з нашай зямлёю праз балады, натхнёныя паэзіяй яго сябра Адама Міцкевіча, праз фартэпіянныя "спаборніцтвы" з Напалеонам Ордам у Парыжы, праз асветніцкую дзейнасць Станіслава Манюшкі, Мечыслава Карловіча) раскрыўся ў выкананні камернага аркестра! Шыкоўныя пералажэнні яго вальсаў, паланезаў, прэлюдый зрабілі знаныя аранжыроўшчыкі Андрэй Шпянёў і Уладзімір Ткачэнка. Увесь вечар гэтую цудоўную музыку граў Струнны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі. І толькі дзве мазуркі Фрыдэрыка Шапэна прагучалі ў арыгінале: іх выканала, крануўшы некаторых слухачоў да слёз, выдатная піяністка Даша Мароз.

Запомняцца "Музы Нясвіжа" яшчэ адной яркай падзеяй: чацвёрты год запар у гарадской ратушы праводзілася музычная асамблея. Першыя тры прысвячаліся, адпаведна, выканальніцтву на медных, драўляных духавых і струнных інструментах. Сёлетняя асамблея праходзіла пад знакам харавога мастацтва. Экскурс у гісторыю яго развіцця на беларускіх землях зрабілі доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага камернага хору Беларусі Наталля Міхайлава. І пад кіраўніцтвам гэтага вядомага хормайстра гучалі як апрацоўкі беларускіх народных песень, так і арыгінальныя творы нашых кампазітараў: Рыгора Пукста, Міколы Равенскага, Аляксея Туранкова... А спяваў вакальны ансамбль, які аднosна нядаўна, дзякуючы ініцыятыве М. Фінберга, створаны ў структуры вялікага аркестра.

Прысутны на фестывалі першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка так пракаменціраваў гэтую падзею: "Адбылася досыць буйная акцыя ў кантэксце значнай міжнароднай падзеі: свет адзначае 200-годдзе Шапэна. Гэты геній выпакутаваў гісторыю і ўсяго чалавецтва, і свайго народа. Як вядома з гісторыі, і Шапэн, і нашы суайчыннікі жылі калісьці ў адной вялікай дзяржаве. І яго музыка вельмі блізкая нам. Гэта і наша музыка. Вялікі дзякуй удзельнікам фестывалю. Дзякуючы маэстра Фінбергу, Нясвіж становіцца прыцягальным духоўным і культурным цэнтрам, на які трэба раўняцца. У "Муз Нясвіжа" багата равеснікаў і спадарожнікаў: гэта найперш тыя слухачы, што ўзгадаваліся і духоўна пасталелі на фестывальных канцэртах. Няхай жыве гэты фестываль, радуе нас, каб новыя пакаленні прыводзілі сюды сваіх дзяцей і былі ўпэўненыя ў іх шчаслівай будучыні".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





На здымках: народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка і начальнік упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Анатоль Акушэвіч; Струнны аркестр пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Валерыя Сарокі; вакальны ансамбль Нацыянальнага канцэртнага аркестра (кіраўнік Наталля Міхайлава).

Фота Віктара Кавалёва

# Мастацтва не абслугоўвае...

## Допіс неабыякавага тэатрала

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі — з'ява унікальная як у нашай краіне, так і ва ўсім свеце. Створаны ў 1990-м, ён вось ужо 20 гадоў мэтанакіравана займаецца развіццём нацыянальнай драматургіі. Аналагічныя трупы існуюць толькі ў лонданскім "Роял-Корт" і Школе сучаснай п'есы ў Маскве.**

Афіша РТБД на 75 працэнтаў складаецца з твораў нацыянальнай беларускай драматургіі. Сённяшняй візітоўкай тэатра стаў спектакль паводле рамана Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". У сярэдзіне красавіка адбылася чарговая прэм'ера — "Яго апошняе каханне" паводле Анатоля Дзялендзіка. Ідзе падрыхтоўка спектакля "Сонечка" паводле рамана "Злачынства і пакаранне" Ф.Дастаеўскага, а ў планах — пастаноўка "Дзядзькі Вані" А.Чэхава.

Выпрабаваць свае сілы могуць тут, як вядома, і маладыя драматургі. У рэпертуары РТБД, напрыклад, — "Калі сконччыца вайна" Паўла Пражко, "Раман + Юлія" Дзіяны Балыкі, "Жанчыны Бергмана" Мікалая Рудкоўскага. У тэатры многа маладых акцёраў. Скажам, Максім Панімачанка і Дзяніс Паршын добра вядомыя гледачам па выдатным спектаклі "Сталіца Эраўнд". Дзяніс, трэба заўважыць, не толькі таленавіты акцёр, але і аўтар музыкі ды тэкстаў. У 2008 годзе ў РТБД адбыўся яго сольны канцэрт "Між намі кажучы", а ў 2009-м Дзяніс Паршын паўторна выйшаў на сцэну ў якасці спевака з праграмай "Ізноў між намі кажучы". Водгукі гледачоў на яго творчыя эксперыменты былі найлепшыя. Дык ці не для таго быў створаны тэатр беларускай драматургіі, каб спрабаваць нешта новае, развівацца ва ўсіх кірунках!

Здавалася б, усё тут добра: і цікавы рэпертуар ёсць, і гледачы на спектаклі ходзяць, і на міжнародных фэстах тэатр атрымлівае ўзнагароды, але ў гэтай "бочцы мёду" ёсць лыжка горычы.

"На жаль, існуе распаўсюджанае меркаванне, што тэатр — мастацтва, якое не мае патрэбы ў адмысловых затратах і капіталаўкладаннях, — разважае мастацкі кіраўнік РТБД народны артыст Беларусі, прафесар Валерый Анісенка, з якім давялося мне пагутарыць. — Ва ўсе часы каралі, мецэнаты, багатыя людзі падтрымлівалі тэатр. Сёння палітыка нашай дзяржавы таксама на гэта накіраваная. Прыкладна 80 працэнтаў фінансаў выдаткоўвае нам дзяржава, а 15—20 працэнтаў тэатр зарабляе сам. Але самастойна існаваць ён ніяк не можа. Шкада, але апошнім часам паварот зроблены ў іншы бок, і нам трэба займацца самазабеспячэннем; бо з'явілася думка, што тэатр павінен быць самаакупным. Але яна не стасуецца з рэчаіснасцю. Тэатр жа гледача не абслугоўвае, не падладжваецца пад яго густы. Ён выхоўвае чалавека, нясе да яго культуру. Мастацтва — гэта тое, чым адметная кожная нацыя, гэта паказчык яе самавітасці. І тэатр як універсальны сродак развіцця асобы не павінен быць у грамадстве на апошнім месцы".

Чаму змянілася стаўленне людзей да тэатра? "Гэта тэндэнцыя апошняга дзесяцігоддзя, — мяркуе Валерый Анісенка. — Тое, што хлынула на нас са сродкаў масавай інфармацыі, асабліва з тэлебачання, перакульвае многія класічныя паняцці. Хіба ўсё, што дазволена, павінна быць? У нашым грамадстве вельмі пагоршылася становішча з пісьменнасцю, адукаванасцю, з моваю. Нават культура абвестак у грамадскім транспарце: часта вадзіцелі ўключаюць іх так гучна, што б'е па перапонках, — дробязь, здавалася б, але дробязяў, як вядома, не бывае".

І ўсё ж такі, пакуль ёсць тэатр, класічная культура не загіне і будзе належным чынам падтрымлівацца. Яна патрэбная кожнаму чалавеку, бо пераўтварае абыякавае існаванне ў сапраўднае жыццё.

"У свеце ёсць дзве супрацьлеглыя філасофіі, — кажа Валерый Анісенка. — Вызначыць, як ставіцеся да жыцця вы, вельмі проста. Наліце ў шклянку столькі вады, каб атрымалася роўна палова аб'ёму. І вось тое, што вы ўбачыце, будзе паказчыкам вашай жыццёвай філасофіі. Шклянка або напалову пустая, або напалову поўная. Мая — заўсёды поўная".

І гэта надае аптымізму...

Кірыла ПУЧЫК

# Паяднаныя Беларуссю

**Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж 20 мая можна было параўнаць з супрацьлегласцю Вавілонскай вежы. У ім сабраліся людзі розных краін, нацыянальнасцей і менталітэтаў. Але такая дзіўная рэч: усе яны знаходзілі агульную мову — беларускую. Швейцарка размаўляе з англічанінам, полька з немцам — наша мова гэтымі днямі гучала з разнастайнымі акцэнтамі. І можна было звяртацца да любога замежнага госця — калі нават не ўсе маглі адказаць па-беларуску, то, прынамсі, абавязкова разумелі. Калі б хто распавёў такое — відаць, не паверыла б. Але гэта рэальнасць. Гэта V Міжнародны кангрэс беларусістаў, што адбыўся нядаўна ў Мінску.**

"Беларусісты — гэта пераважна не беларусы, прадстаўнікі іншых народаў, яны фактычна прапагандуюць беларускую культуру ў свеце, ствараюць імідж нашай дзяржаве. Многія з іх чытаюць курсы па беларускай мове і літаратуры, займаюцца вывучэннем нашай гісторыі, гэта іх хлеб надзённы", — распавёў ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. Кангрэс, які адбываецца раз на пяць гадоў, сёлета сабраў больш як 170 удзельнікаў, сярод якіх каля 80 — замежныя госці з 12 краін свету: Польшчы, Германіі, Украіны, Літвы, Швейцарыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Венгрыі, Чэхіі, Расіі, ЗША, Нарвегіі.



Томас Бэрд — славіст з ЗША. Вывучае гісторыю газеты "Наша Ніва" і яе ролю ў беларускай літаратуры.

"У арганізацыі гэтага кангрэса вялікую дапамогу нам аказалі міністэрствы культуры і замежных спраў Беларусі, а таксама Нацыянальная акадэмія навук, у якой фактычна і пачыналася дзейнасць Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Але, на мой пагляд, неабходна, каб асацыяцыя існавала пры нейкай дзяржаўнай установе. Росквіт арганізацыі быў, калі яна мела юрыдычны адрас пры Скарынаўскім цэнтры. Тады мы стварылі музей "Беларусы ў свеце", выдалі шмат важных кніг", — адзначыў Адам Мальдзіс. Ён таксама дадаў: "На адной канферэнцыі была выказана думка, што трэба пры Міністэрстве культуры стварыць беларускі інстытут, які б вёў працу па папулярызацыі нашай культуры за мяжой. У некаторых краінах ужо ёсць цэнтры беларускай культуры — скажам, ва Украіне і ў Польшчы. Але трэба пашыраць гэтую дзейнасць. Ёсць таксама вельмі моцная суполка беларусістаў у Венгрыі — больш як 30 чалавек, у літоўскім універсітэце існуе кафедра беларускай культуры, вельмі добрыя сувязі мы маем з беларусістамі Пецярбурга і Масквы, цікавае згуртаванне знаходзіцца ў Японіі, там выходзіў японска-беларускі слоўнік, "Граматыка беларускай мовы" для японцаў — гэта вялікі поспех. У Індыі таксама выходзілі дзве анталогіі беларускай літаратуры. Словам, людзі, што цікавяцца нашай культурай, ёсць у розных краінах свету, і неабходна іх падтрымліваць на дзяржаўным узроўні."

На V Міжнародны кангрэс беларусістаў прыехала шмат знакамітых даследчыкаў, многія з якіх з'яўляюцца ў нашай краіне частымі гасцямі. Сярод іх — Мікалай Нікалаеў, наш зямляк, які, працуючы загадчыкам аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, дапамагае беларусам вяртаць нацыянальную спадчыну ў выглядзе факсімільных выданняў. Альбо Юрый Мыцык — прафесар кафедры гісторыі Кіева-Магілянскай акадэміі, у якога зусім нядаўна выйшла кніга "Альбарутэніка. Студыі з гісторыі Беларусі", ці Зінаіда Гімпелевіч з Канады, якая з'яўляецца аўтаркай даследаванняў творчасці Васіля Быкава і кнігі "Беларускія пісьменнікі яўрэйскага паходжання", і канечне ж, Арнольд Макмілін, прафесар Лонданскага універсітэта — аўтар самай вялікай манаграфіі пра беларускую літаратуру (1136 старонак), што нядаўна выйшла ў Англіі і ўжо перакладаецца на беларускую мову, ды многія іншыя навукоўцы з розных краін.

Адным з самых чаканых і значных гасцей мерапрыемства стаў вядомы даследчык усходнееўрапейскай гісторыі, прафесар Йельскага універсітэта ў ЗША Цімаці Снайдэр. Падчас кангрэса ён прэзентаваў пераклад на беларускую мову сваёй вядомай кнігі "Рэканструкцыя нацый. Польшча, Украіна, Літва, Беларусь (1569 — 1999)", што выйшаў сёлета ў выдавецтве "Медысонт". Яшчэ англамоўную версію гэтай працы ў Беларусі паспелі ахрысціць "навуковым бестселерам". У гэтай кнізе аўтар прасачыў станаўленне нацый, народаў Рэчы Паспалітай, якія складаліся ў досыць цяжкіх, часам драматычных умовах, падаў нейтральны, вонкавы погляд на гэтыя падзеі. "Беларусь з'яўляецца найбольш цікавым з навуковага пункта гледжання прыкладам, таму што ідэі беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнасці прайшлі вельмі доўгі і цяжкі шлях, але пры гэтым выжылі. Гэта вельмі складанае пытанне: чаму цяпер існуюць менавіта тыя нацыі, якія ёсць, а не іншыя", — падкрэсліў даследчык.

Прафесар Снайдэр распавёў, што цяпер заканчвае новую кнігу: "Гэта абсалютна іншы праект, прысвечаны нямецкім і савецкім масавым забойствам, і зноў Беларусь па розных прычынах з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам...

Для яшчэ аднаго навукоўца з ЗША — вядомага славіста Томаса Бэрда з Гарадскога універсітэта Нью-Йорка кангрэс стаў нагодай наведаць Беларусь упершыню за апошнія восем год. Яго ная тэма — газета "Наша Ніва" і яе роля ў беларускай літаратуры. Даследчык распавёў: "Цікавасць да беларусістыкі калісьці запаліў ува мне мой выкладчык Уладзімір Сядура, пад кіраўніцтвам якога я пісаў дыпломную працу. Пасля ў Нью-Йорку сустрэў вядомага пісьменніка беларускай эміграцыі Антона Адамовіча, а таксама доктара гісторыі, паэта, крытыка Янку Запрудніка, і яны проста ўжывілі ў мяне зацікаўленасць беларускай літаратурай і гісторыяй. Таму я пачаў вывучаць беларускія праблемы ва універсітэце пад кіраўніцтвам Алеся Баршчэўскага, працуючы над тэмай "Нашай Нівы".

На пытанне пра колькасць беларусістаў у ЗША, Томас Бэрд адзначыў: "Думаю, іх некалькі дзесяткаў. Але беларусістыка вельмі моцна развіваецца, асабліва апошнія 20 год. Такія універсітэты, як Гарвардскі, Нью-Йоркскі гарадскі універсітэт, Рочэстэрскі універсітэт, Дзяржаўны універсітэт Нью-Джэрсі робяць сур'ёзныя даследаванні, асабліва ў гісторыі і, часам, у літаратуры Беларусі. Гэты напрамак адназначна пашыраецца, у нас ёсць Нацыянальная асацыяцыя акадэмічных навукоўцаў, якая аб'ядноўвае тых, хто працуе ў галіне беларусістыкі. Кожны год Беларускі інстытут навукі і мастацтва публікуе працы па беларусістыцы ў часопісе "Запісы", рэдактарам якога я з'яўляюся".

Самымі шматлікімі на кангрэсе, вядома ж, былі дэлегацыі краін-суседак. Толькі з Польшчы сюды прыехала каля 30 чалавек. Вядомая славістка і беларусістка прафесар Эльжбета Смулкова, былы пасол Польшчы ў Беларусі, займаецца даследаваннем беларускага памежжа. "Гэтай тэрыторыяй я зацікавілася шмат гадоў таму пад уплывам прафесара Тур-



Вікінтас Вайткявічус — гісторык з Літвы. На кангрэсе выступіў з дакладам пра сваю навуковую экспедыцыю па рацэ Вілія — Нярыс.

скай, якая займалася беларуска-літоўскімі гаворкамі Віленшчыны. Для падрыхтоўкі магістарскай працы я шмат кантактавала з беларусамі Усходняй Беласточчыны, ад іх і вывучыла беларускую мову. У 1952 годзе ў Варшаўскім універсітэце адкрылі кафедру беларускай філалогіі, дзе я стала працаваць (цяпер яна называецца "кафедра беларусістыкі" і мае больш шырокі культурны профіль). Потым былі палявыя даследаванні для "Атласа усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны", шмат іншых прац, стажыроўкі ў БДУ і Акадэміі навук. З тых часоў мяне звязваюць моцныя сувязі з беларускімі даследчыкамі, і не толькі ў навуковым жыцці".

Таксама памежжа, толькі ўжо беларуска-украінскае, цікавіць прафесара, дырэктара Навучальна-навуковага інстытута філалогіі і журналістыкі Жытомірскага дзяржаўнага універсітэта імя І. Франка Віктара Майсіенку. Напрамак яго даследаванняў — мова Палесся часоў ВКЛ XV — XVI стагоддзяў. Лагічным працягам вывучэння гэтай тэмы, па словах навукоўца, стала пытанне: якія помнікі пісьменства абраць для адлюстравання украінскай моўнай сістэмы, а якія — для беларускай. "Чым больш паглыбляўся ў творы, намагаўся як-небудзь іх размежаваць, тым часцей сутыкаўся з грандыёзнай праблемай, якой сёння надаецца шмат увагі ў даследчым асяродку. Але ўсё-ткі існуе навуковы, наколькі магчыма, незаангажаваны падыход, які дазваляе вызначыць рысы, што, бясспрэчна, складаюць для перыяду XV — XVI стагоддзя украінскі моўны комплекс, і тыя, што характэрныя для беларускага. Украінцы і беларусы ў гэтым складаным пытанні дахodзяць да пэўнай згоды, хаця, я думаю, што канцавую кропку, мабыць, ніколі не паставяць, патрэбны нейтральны погляд замежнага навукоўца. Вельмі цікава, як гэтую праблему ацэньваюць палякі, немцы, аўстрыйцы. Спадзяюся, гэты кангрэс дапаможа зняць некаторыя пытанні, датычныя беларуска-украінскай моўнай мяжы, а не паставіць новыя".

Яго калега Аляксандр Скапненка, украініст і беларусіст, які працуе ў Інстытуце мовазнаўства імя А. А. Патабні НАН Украіны, распавёў пра развіццё беларуска-украінскіх культурных стасункаў: "Вельмі дрэнна, што за савецкім часам беларусістыка ў нас была ў такім, мякка кажучы, не вельмі добрым стане. І толькі за апошнія 10 — 12 гадоў мы можам назіраць, як у нашай краіне адбываецца адраджэнне беларусістыкі як асобнай галіны філалагічнай навукі. Напрыклад, у Кіеве ў НАН Украіны я і акадэмік Рыгор Піўтарак зрабілі беларуска-украінскі слоўнік, які ў 2006 годзе ўбачыў свет. Летась ён быў адзначаны прэміяй Аляксандра Патабні НАН Украіны.



Штэфан Родэвальд — швейцарскі гісторык, прадстаўляў на кангрэсе Пасаўскі універсітэт (Германія). Даследуе гісторыю Полацка.

Таксама Рыгор Піўтарак у канцы 1990-х напісаў падручнік "Беларуская мова". Таму Цэнтр беларускай мовы і культуры, які пачаў дзейнічаць у мінулым годзе ў кіеўскім Нацыянальным універсітэце імя Шаўчэнкі, узнік не на "глебе з ёлкамі", для гэтага былі перадумовы. Ужо з верасня гэтага года, як разлічваюць супрацоўнікі Інстытута філалогіі Нацыянальнага універсітэта імя Шаўчэнкі, адбудзецца набор студэнтаў-беларусістаў. Увогуле ва Украіне заўсёды цёплыя адносіны да Беларусі, а для таго, каб развіваліся даследаванні ў розных навуковых галінах, вядома ж, патрэбныя сродкі. Вельмі шкада, што сувязі паміж навуковымі ўстановамі нашых краін нейкія спарадычныя, несістэмныя".

Літоўскі археолаг Вікінтас Вайткявічус таксама знайшоў для сябе тэму на мяжы блізкіх культур. "У маіх апошніх даследаваннях вінаватая рака Вілія, якую вывучаю ўжо 6 гадоў, — зазначае навуковец. — У 2007 годзе мы за 31 дзень праплылі яе ўсю, паўтарыўшы падарожжа знакамітага Канстанціна Тышкевіча. Гэта рака — правы прыток Нёмана — 510 кіламетраў у даўжыню, па маштабах Беларусі яна не вельмі вялікая. Але яе феномен у тым, што яна злучае дзве сучасныя краіны з агульным мінулым. Тут сыходзяцца славяне і балты, праваслаўе і каталіцтва, тут мяняюцца дыялекты, глеба, архітэктура і г.д. Розныя і аднолькавыя рысы па абодва бакі гэтай сучаснай мяжы выклікаюць вялікую цікавасць".

Малады швейцарскі гісторык Штэфан Родэвальд прадстаўляў на канферэнцыі Пасаўскі універсітэт (Германія). Штэфана цікавіць гісторыя гарадоў. У 1995 годзе, беручы ўдзел у семінары прафесара Цюрыхскага універсітэта Карстэна Гёрке, дзе параўноўваліся нямецкія і ўсходнееўрапейскія гарады, ён напісаў працу пра Львоў, Кіеў і Магілёў. Для магістрацкага даследавання Штэфан абраў Полацк, бо гэта адзін з самых важных, на яго погляд, гарадоў Старажытнай Русі. У 1997 годзе ён абараніў працу па тэме "Аб Полацкай Венецыі, або Пра полацкую вольнасць", яна была апублікаваная ў 2005-м.

"Апошні раз я быў у Беларусі год таму, калі гісторык Томас Бон напісаў кнігу пра Мінск, пра тое, як пасля вайны будаваўся сацыялістычны горад. І ён склікаў замежных даследчыкаў, якія займаюцца беларускімі гарадамі, мы сустрэліся ў Мінску з беларускімі навукоўцамі. Цяпер, спадзяюся, выйдзе зборнік артыкулаў. Можна казаць, што ўтвараецца такая навуковая сетка беларусістаў", — распавёў гісторык.

Моніка Банькоўскі-Цюліг са Швейцарыі вядзе даклады падлік: гэты прыезд у Беларусь для яе 27-мы. Яна працуе рэферэнтам па славістыцы ў Цэнтральнай бібліятэцы Цюрыха. Беларускай культурай захапілася ў студэнцтве, натрапіўшы ва універсітэцкай бібліятэцы на невялікі беларускі кнігазбор. Да гэтага, прызнаецца, і не ведала пра існаванне Беларусі. Спадарыня Моніка самастойна вывучыла мову. Цяпер, працуючы бібліятэкарам, яна заўсёды дбае пра тое, каб фонды папаўняліся беларускімі кнігамі. Апошнім часам Моніка Банькоўскі-Цюліг даследуе падарожныя нататкі заходніх дыпламатаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, якія ў розныя часы вандравалі праз Беларусь. "Ёсць жаданне калісьці выдаць такую кнігу, прычым, я думаю, рабіць гэта трэба ў Беларусі, бо мне сказалі, што гэтая тэма тут мала распрацавана і, магчыма, беларусам будзе цікава даведацца, як яны ўспрымаліся іншаземцамі", — рапавядае даследчыца.

Саша ДОРСКАЯ

Фота аўтара

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Плач васільковы

Ой, васількі, васількі!
Праўду мне толькі скажыце:
Што ж вас так мала ў жыце,
Ой, васількі, васількі?!.
О, васілёк сіратлівы!
Мікола Шабовіч

Ой, аграномы, дзядзькі-спрытнякі!
Пытаю ў вас, як на духу скажыце:
За што прагналі з поля васількі?
Вярніце мне былую сінь у жыце.

Падаў бы я гаротнікам руку,
Ды ці знайду ў жытнёвай пазалоце?
Няма жыцця на ніве васільку,
І я без васількоў жыву ў самоце.

Адно што ў радасць —
родны мой куток.
Стаю ў Бадзенях
ля бацькоўскай пуні.
Было б з чаго,
дык сплёў бы сам вянок

І начапіў чарговай прыгажуні.
Прымроілася: недзе праз вякі
Знік з поля васілёк
апошні кволы.
І ўжо за кросны селі землякі,
Каб ткаць партрэт
Шабовіча Міколы.



## Знайшлі і работу

(жартуюць пенсіянеры)

Змітрок уладзіўся ў гартоп,
На холадзе не стыне.

Мястэчка цёплае Пракоп
Знайшоў сабе ў саўміне.

Пашанцавала, мусіць, ім —
Пасады неблагія.
А сутнасць той работы ў чым? —
Пытаюцца другія.

Расхвальвае Змітрок гартоп:
— Рабочы дзень без нормы.
Штодня па гораду туп-топ,
Ваўка, брат, ногі кормяць.

Пракоп з чыноўніцкіх вышынь
Падвёў пад жартам рыску:
— Вось і мяне ўзялі ў саўмін,
Каб соваўся па Мінску.

Анатоль ЗЭКАЎ

## Венікам па пісьменніках

Маргарыта ПРОХАР

Хоць часу і ў абрэз нібыта,
На двух франтах ваюе шчыра,
Бо і празаік Маргарыта,
І майстар радыёэфіра.

Георгій ЮРЧАНКА

Літшлях ягоны ад усіх адметны:
Што б ні пісаў, заўжды скакаў пры гэтым
Ад слоўнікаў мсціслаўскіх дыялектаў
Да зборнікаў пародый на паэтаў.






Шаржы Алега Карповіча

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

Эпіграмы

### Дзяды і ўнукі

Калі з тэлеэкранаў, як геройству,
Малыя ўнукі вучацца забойству,
То потым не прыходзіцца здзіўляцца,
Што за сваё жыццё дзяды баяцца…

### Ананім

Ліхі паклёпнік-ананім
Мяняе часта псеўданім,
Але ваўка ў авечай скуры
Пазнаць няцяжка па натуры…

### Сіла ў слабасці

Ні адзін прамудры Саламон
Пападаў жанчынам у палон,
Ні адзін магутны Геркулес
Ад наскокаў жонкі бег у лес…

### Каралю і голаму добра

Кароль на троне можа без бяды
Сядзець і голым,
толькі смеху варты,
Калі ў падданых голыя зады,
Тады гэта няшчасце,
а не жарты…

### Спадзяванне на лепшае

Калі, будучы адпетым,
у лепшы свет трапляеш,
Значыць ты на свеце гэтым
Толькі час губляеш…

Васіль НАЙДЗІН

# Поўная гармонія

Рэжце мяне на кавалкі, сёе-тое — на пятакі, а я сцвярджаў і сцвярджаю: радасць сама па сабе да чалавека не прыйдзе. Не прыплыве. Не паселіцца ў душы без якога-небудзь штуршка звонку. Вось тады і асалода. У сэнсе цудоўнага настрою і смеху. На шляху да поўнай гармоніі.

Але адкінем убок высокія матэрыі і глыбокія разважанні.

Дзесьці я чуў ці нават чытаў, што радасць — гэта калі карова ў суседа здохла. Ці ў Хвёдара якога пуня згарэла. Адкуль вылазілі куры-гусі і таптали суседскія грады.

Жыццё!.. Як кажуць вучоныя — з усімі яго перыпетыямі і нюансамі. А калі перайсці на нармальную гаворку, пасля такіх «штуршкоў звонку» сапраўды камусьці лягчэй дыхаецца. На душы ў яго святлее. І — нават на небе. Праз цёмныя хмары відаць тады зоркі.

Суседскі конь для гэтай справы падыходзіць. На крайні выпадак — сабака.

Але гэта старыя норавы. З багны мінулых гадоў і нават стагоддзяў.

Зараз паменела ў насельніцтва кароў. І коней — таксама. Пра коз, курэй-гусей і гамонкі няма. Хоць прыватная ўласнасць, здаецца, узнята ў нас на належную вышыню.

Але не тая вёска, што раней была. Ой, не тая... Дзесьці парушана гармонія. Паменела мясцовага смеху і рогату.

У горадзе крыху іншая справа. Не такая ўжо сумная і здранцвелая. Што сабак прытулілі ў сваіх утульных кватэрах — гэта дробязь. Не будзем краталь курэй-гусей. Жывых, з пер’ямі, іх тут мала хто ўжо і бачыў. На паліцах магазінаў і супермаркетаў голыя ляжаць. Альбо круцяцца загарэлыя ў грыль-барах на каруселях.

Любуйцеся на іх!

Але ёсць у горадзе і іншыя радасці. Без удзелу кароў і коней.

Вось грымнула з даху дзевяціпавярховага дома глыба са снегу і лёду на шыкоўны «мерседэс» — усім жыхарам дома радасць. Не паркуй, гадзюка з сямейства алігархаў, сваю тачку пад самымі вокнамі-форткамі! Не псуй нам паветра. Не загароджвай людзям выхад з пад’езда на волю...

І песня на гэту тэму яшчэ не ўся.

Калі які-небудзь “лексус” ці джып рэдкай канструкцыі з дрэвам ці са слупом не размінуўся — таксама не ўсе спачуваюць. Калі без смяротнага зыходу — усё нармальна! Менш матораў — больш прасторы. Даішнікам работа ёсць. Эвакуатаршчыкі, бляхары-кляпальшчыкі ў настроі. Усе пры справах. Зялёнымі пахне. Яны ўжо амаль у іх кішэнях.

Гармонія! Хоць яшчэ і не поўная. Бо не ўсе на колах. Вунь, чэшуць многія пехадралам. Па вуліцах, перавулках і рознах завулках. Туды-сюды, сюды-туды... Увесь час азіраючыся і з дрыжыкамі ў нагах. Кожны баіцца, каб які МАЗ ці трактар не падмяў, не сплюшчыў. Альбо легкавік не зламаў дзвеТры рабрыны. У лепшым выпадку.

Адначасова трэба ўніз і ўверх глядзець. Кантраляваць усю вакол прастору і ацэньваць сітуацыю.

Каб не паслізнуцца.

Каб у люк які не нырнуць.

Каб лядзяш з даху па галаве не бразнуў.

Каб кашалёк з грашыма з кішэні не выцягнулі. Тым больш — партманет з дакументамі.

Праўду кажуць: гора з радасцю наперагонкі скачуць. Барацьба супрацьлегласцей... Забыліся ранейшую навуку — філасофію? Экзамен па якой з цяжкасцю здавалі. А потым да столі падскоквалі. Ад радасці. Што залік ці траяк атрымалі.

А ўвогуле да малых і вялікіх радасцей чалавек заўсёды цягнуўся і сёння цягнецца. Да асалоды і поўнай гармоніі.

І дырэктар нашай задрыпанай канторы, якая чамусьці зараз называецца фірмай, не выключэнне. Часцяком запрашае ў свой кабінет менеджэра Леначку. А мы вушы натапырым і чакаем, пакуль замок у дзвярах не шчоўкне. Пасля чаго ў нашай канторы-фірме — цішыня і парадак. Леначка не крычыць. Жывая, значыць. Начальнік за намі не сочыць — усім перадых. Радуемся. Хто храпака дае, хто крыжаванкі разгадвае. Маўчым. Бо адзін аднаго без слоў разумеем. Поўная ў калектыве гармонія. Так на ўсіх нарадах і сходах і шэф наш падкрэсліваў.

Не жыццё было — маліна. Пакуль не высачыла і не застукала нашага начальніка ў кабінеце з Леначкай яго родная жонка. Было шуму-трэску. Кроў з носа шыкоўным гальштукам, прывезеным з Японіі, выціраў Яўген Іванавіч. Паменела валасоў на галаве і ў Леначкі.

У жыцці рознае здараецца, бурчым самі сабе пад нос такую музыку. Гэта — дзеля канспірацыі.

А ў душы радуемся.

Бо часам звер зверам жа быў начальнік. Еў усіх поедам. Прадукт нашага дзікага капіталізму! Толькі пра сваю кішэню дбаў. Заграбаў дык заграбаў. Мы ведаем... А яшчэ хацеў мяне на пенсію выгурыць. Таму я ўдвайне радуюся.

Кожным вечарам у гэтыя дні заходжу пасля работы да свайго сябра-суседа Пятра. Каб расказаць чарговую навіну. Па келіху, безумоўна, бяром. Пра жыццё-быццё нашанскае гутарым.

А ўчора, калі мы ўжо абмеркавалі ўсе праблемы, дзе трэба парадаваліся, пасля трэцяга ці чацвёртага келіха я ў яго шчыра пытаюся:

— Пятрок! А ў цябе з гэтай справай як?..

— Ты наконт чаго?

— Ну, з жонкай. Ёсць гармонія? У ложку...

— О-о-о, — усміхаецца Пятрок. — Тут у нас поўная гармонія. З каптуром.

— Як гэта? — Не веру я.

— Ды так... Я да яе хінуся, а жонка — ад мяне. Тварам да сценкі. Маўляў, галава баліць... А я і рады. Бо мне ўжо даўно нічога не трэба. Таму гармонія — поўная! Адчуваю — да самага скону.

Разумеючы суседа на сто, а то і больш працэнтаў, я таксама поўнасцю задаволены. І вы зараз, адчуваю, у цудоўным настроі, усміхаецеся. А гэта для мяне — самая вялікая радасць.

Сяргей ТКАЧОЎ

Жаданне прадэманстраваць пазіцыю паставіла яго ў позу.

Лепш верыць, што ўсё добра, чым ведаць, як яно на самай справе.

Нас, добрых, вельмі мала. Аднак тых, хто гэтак жа думае пра нас, — яшчэ менш.

Канешне, прастоі — дрэнна, але пролежні — яшчэ горш.

Не рвіце сэрца — рвіце адносіны.

Не спрачайся з дурнем, інакш вас будзе двое.

Служыць бы рад, ды войска скарацілі.

Лепшы выхад часцей падказвае безвыходнасць.

Ёсці з нажа дрэнна, асабліва калі прывык карміцца з рук.

Нават пасаджанае ў зямлю, не заўсёды ўзыходзіць, а якіх жа вынікаў мы чакаем ад турмаў?

Марыў кінуць жонку, але не змог яе… нават прыпадняць.



## Гусіным пяром



Анатоль СТАНКЕВІЧ. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага раёна. Скончыў сямігодку і Слонімскае рамеснае вучылішча чырванадрэўшчыкаў (1955). Працаваў у Архангельскай вобласці, служыў у войску. З 1959 года жыў і працаваў у Баранавічах. Тут скончыў вячэрнюю СШ і універсітэт рабселькараў пры гарадской газеце. Спачатку пісаў вершы на рускай мове. Узначальваў літаратурны аб'яднанні "Плынь" (1972 — 1980) і "Ліра" (1989 — 1993). З 1994 года працаваў сталяром на Баранавіцкім станкабудаўнічым заводзе "Атлант" і стварыў літаб'яднанне "Жнівень". Выдаваў вершаваныя кніжкі ў калектыўных зборніках "Добрыми глазами" і "Годы как реки". У 1996 годзе пабачыла свет яго ўласная паэтычная кніга "На крыльях страдающей совести". З часоў незалежнасці Беларусі пісаў на роднай мове. Трагічна загінуў ў 1999 годзе. Пахаваны ў вёсцы Жарабковічы. Зборнік беларускамоўных вершаў "СКРЫЖАЛІ ДАБРЫНІ" выдадзены ў Баранавічах грамадскай арганізацыяй "Творчае аб'яднанне "Святліца" ў 2010 годзе. Прадмова А. Бакача. Рэдактар І. Лагвіновіч.

# «Калі твой боль загаворыць вершамі»

Калі пішаш пра чалавека, які пакінуў гэты свет, то спадзяешся, што хоць бы часова вяртаеш яго да цяперашняга жыцця з усім яго перажытым… Тым больш, калі гэты чалавек — творца, паэт, а да таго ж знаёмы табе.

Я ведаў Анатоля Станкевіча з сярэдзіны васьмідзесятых. Ён пісаў мне яшчэ ў вёску, не зважаючы на тое, што мы былі разнамоўнымі ў сваёй літаратурнай дзейнасці. Хоць і адчувалася, што роднай мовай яго была беларуская, але язык паэта быў пакрыты такім густым налётам простанароднага рускамоўя, што літаратурна-стылістычнаму ачышчэнню падлягала ўся яго чалавечая істота. І тое здарылася з прыходам суверэнітэту. Не раней, на жаль. А гэта значыць, што ўсё ж не духоўна-ўнутраныя, а знешнія (палітычна-грамадскія) абставіны змусілі яго вярнуцца да матчынай мовы. У звязку з гэтым сам паэт шчыра прызнаваўся: "Вось яны, родныя словы! // Позна прыйшоў я да мовы. // Брыдка – ну хоць ты плач. // Матчына мова, прабач! // Родны гаротны Краю! // Дзякуй, што мову маю!.." А між іншым, яго вершы на рускай мове, на мой погляд, не горшыя, чым на беларускай. Хоць, шчыра кажучы, ні адной, ні другой мовай ён не валодаў настолькі дасканала, каб тое не праглядвалася ў вершаваных тэкстах і гаворцы. Як ні круці, а мова, асабліва для творцы, усё ж павінна быць запатрабаванай пастаянна (быць натуральнай і адзінадумнай), каб на ёй пісалася лёгка і абсалютна нязмушана… Нават візуальна адчуваецца, што многія свае раннія вершы аўтар перакладаў з рускай мовы, а не пісаў па-беларуску, не кажучы ўжо пра інтымны і індывідуальны працэс іх стварэння. Вось цудоўны верш А. Станкевіча, напісаны па руску:

Сюда приехал неспроста —
Жито! Жито колосится!
Здесь такая красота —
Есть где Богу помолиться.

А гэта ўжо штучны клон таго ж чатырохрадкоўя ў аўтарскім беларускамоўным перакладзе:

Зацвілі рамонкі ўжо,
Жыта ў полі каласіцца…
Тут такая прыгажосць:
Ёсць дзе Богу памаліцца!

Мастацкая розніца відавочная і вычувальная. З воддалі маёй памяці А. Станкевіч быў змрачнавата-зацятым і трошкі адстароненым чалавекам, аднак ён раскоўваўся і адмякаў, калі справа даходзіла да "калегіяльнасці, сардэчнасці і душэўнасці". Уявіце сабе кавальскага целаскладу мужчыну, які прэзентуе сваю выставу тонкіх вобразных вырабаў-выяў з галінак і каранёў дрэва, сабраных у парку ці ў лесе. Вершы яго таксама глыбакавобразныя, але як бы трохі шорхлыя (неапрацаваныя да тонкасці). Ды ўжо тое, што чалавек імкнуўся быць творцам (сам чырванадрэўшчык па прафесіі) і нярэдка дасягаў творчага пад'ёму, узнёсласці і натхнення, абавязвае ставіцца да яго літаратурнай спадчыны




вельмі даткліва і па магчымасці аб'ектыўна. Доля яго не песціла. Нават рана памерлая маці не паспела аддаць належнай ласкі. Ды ўсё ж яе хапіла, каб сын напісаў адзін з лепшых сваіх вершаў:

Я ўжо стары:
Хутка на тым свеце
Сустрэнуся з табою, мама…
Ці пазнаеш такога?
Ты ж пакінула мяне
Двухгадовым хлопчыкам.

Адчуваецца, што па характары і ўсёй сваёй натуральнай грунтоўнасці яму ўсё ж не хапала дыхання, слоў і творчага агню на сюжэтна-змястоўныя вершы. На кароткае імгненне ён яшчэ выцягваў высокую ноту. Удых і выдых. Учынак і суд. Маланка і гром. Дзея і вынова. І такія радкі па-сапраўднаму ўражвалі нават самага прымхлівага і патрабавальнага чытача:

Каршун каменем
упаў на жаўрука.
Сам не спявае,
а песню забіў…

З цяперашняга часу гэты верш для абазначанага чытача асацыіруецца з трагедыйнай гібеллю самога паэта, нешта папераджальна-прарочае ў ім сёння прачытваецца. (Вырак вёў яго такім шляхам, што ён не мог размінуцца са сваёй горкай зямной доляй. У красавіку 1999 года А. Станкевіч стаў сябрам пісьменніцкай суполкі, а ўжо 21 кастрычніка таго ж года па дарозе на працу яго збіла таксоўка).

Пры жыцці ён любіў творчых людзей. Намагаўся быць завадатарам мясцовага культурнага жыцця. Прагнуў дзяліцца сваім літаратурным і жыццёвым вопытам з маладзейшымі, не павучаў, а падказваў. А распавесці было пра што: лёс змушаў яго блукаць і вузкімі пакручастымі сцежкамі, і выбівацца на шырокія пуцявіны, і ўпарта рушыць і прабівацца да свайго шляху. Гэтак было і з кароткім лірычным жанрам, і з мовай, і сяброўствам у пісьменніцкай арганізацыі... Урэшце, здавалася, што асноўныя перашкоды ў жыцці пераадолены, пройдзены самыя непраходныя перавалы, каб вызначыцца з асноўнай мэтай — напісаннем кнігі, якая сталася б помным знакам яго паэтычнай творчасці. Тым больш, што напісаў ён няшмат. І тое нядзіўна, бо там, дзе іншы гнаў "кубатуру", ён задавольваўся адзінкавасцю паэтычнага дзіва. Не буду казаць, што такое здаралася часта, але менавіта падобныя ўдачы, як марскія маякі сярод вялікай вады, высвечвалі і вызначалі яго літаратурную адметнасць і мастацкую сапраўднасць.

Прачытаў аб'яву
"Прадаецца сабака" —
і здзівіўся:
які прыгожы почырк
у гэтага чалавека!
Як ён старанна выводзіў
кожную літару здрады!..

Тут трэба сказаць не столькі пра лаканічнасць і "аскезу" яго вершаў, але і пра іх афарыстычнасць. Афарызм з метафарычнай падаплёкай і складаюць у пераважнай большасці яго тэкстаў фундамент і вянец твора. Нават у самых цёплых, здавалася б, яго вершах мы натыкаемся на холад яго глыбока заземленай думкі.

Дзіўна!
Ён нават не ведае,
Што такое сумленне…
Яму лёгка, бо ён — пусты…

Не так шмат у яго лірычных вершаў "чыстай красы". Затое калі здараюцца, то яны душэўна-ўражлівыя, як зорныя знічкі. Часам нават не верыцца, што іх пісаў "каменячос" А. Станкевіч. Ну вось гэты, да прыкладу:

Між бярозак
і асін крывенькіх,
Дзе зайцоў пужалі пугачы,
Стомлена цыбатыя апенькі
Адпачыць прыселі на карчы…

Альбо яшчэ адзін яркі прыклад прыгажосці:

У даліне дзьмухаўцоў жыву.
Тут, па просьбе
птушак-весялушак,
Сонейка ўпрыгожыла траву
Залацістым россыпам вяснушак.

Хоць больш блізкім да агульнавызначальнай вобразнасці паэтыкі А. Станкевіча ўласна мне падаецца вось гэтае чатырохрадкоўе, напісанае на шырокім дыханні, шэрхла-шарахаватым слове і самаааддана-спагадлівым роздуху:

Засекі зернем залатым
напоўніла,
Усё дарэшты
раздаўшы людзям.
О, мудрае, шчодрае,
добрае поле,
Сабе ж шэрай
пожняй прыкрыла грудзі…

Мне заўжды імпанавала баранавіцкая культурная і літаратурная суполка. Генератар іх ідэйнай заклапочанасці і творчай дзейнасці, безумоўна ж, Алесь Бакач. А калі ўлічыць, што даволі ініцыятыўна і актыўна праяўляюць сябе ў справах беларушчыны і іншыя (М. Маліноўскі, І. Лагвіновіч, А. Белы, А. Корнеў), то можна сказаць адназначна, што беларускае, нацыянальна-культурнае, там можа памерці толькі пасля іх, бо і пасля гібелі свайго таварыша яны не даваляюць смерці абрынуць яго імя ў Лету. Усё гэта гаворыць пра чалавечнасць і высакароднасць людзей, якія час ад часу збіраюцца да гурту ў сваёй душэўнай "Святліцы". Зборнік А. Станкевіча выдадзены менавіта дзякуючы іх намаганням. Але ці не лепш было б выдаць зборнік выбраных вершаў А. Станкевіча, уключыўшы туды ўсё лепшае з напісанага ім па-руску і па-беларуску? Не будзем у гэтым выпадку станавіцца ў позу нацыянал-патрыётаў і рабіць выгляд, што не адрозніваем паэзію ад версіфікацыі. Такое выданне было б на карысць усім — чытачам і паэту, нягледзячы на яго зямную адсутнасць. Бо ж, насамрэч, не ўражвае, а расчароўвае чытача такая празаічная дыдактыка, "напісаная ў слупок":

Калі табе невыносна
Цяжка — дапамажы
Знямогламу,
і ты… пераможаш…

Альбо навошта выносіць на публіку такое (непаказное-альбомнае):

Я не мала сабраў
паэтычнага збожжа.
Дык няўжо яму ў цёмных
закутках ляжаць?..
Памажы мне,
магутны і праведны Божа,
Пры жыцці мае вершы
народу аддаць…

Такіх самадыфірамбаў цяпер у нас, здаецца, нават народныя і дзяржлаўрэаты не пішуць. Па недаглядзе складальніка і рэдактара (а хутчэй з прычыны іх спагадлівасці да спадчыны адышоўшага паэта) атрымалася непажаданая самапародыя. Добра, што такіх шараговых тэкстаў не так шмат у зборніку, хоць, паўтаруся, магло б і ўвогуле не быць. Бо ж для самога аўтара своеасаблівым запаветам былі наступныя яго радкі:

Калі твая радасць
загаворыць вершамі,
Калі твой боль
загаворыць вершамі,
Калі тваё сумленне
загаворыць вершамі, —
Вось тады і назавуць

цябе Паэтам...

Аднак добра, што ў наш сённяшні прагматычны і маскультурны час людзі пакідаюць у спадчыну не толькі густа спісаныя ашчадныя кніжкі сваім дзецям, але шчырую і нешматслоўную паэзію сваім беларускім нашчадкам.

ЛеГАЛ



## Андрэй Вазнясенскі

Памёр вядомы рускі паэт Андрэй Вазнясенскі. Яго імя было своеасаблівым сімвалам эпохі шасцідзесятнікаў. Арыгінальны, выбітны талент прынёс яму шырокую літаратурную славу ў свеце. Яго кнігі выдаваліся стотысячнымі накладамі, а паслухаць вершы паэта збіраліся цэлыя стадыёны. Яго настаўнікам быў Барыс Пастэрнак. І ў самога Вазнясенскага было шмат вучняў і паслядоўнікаў. Прыхільнікам паэзіі вядомыя знакавыя кнігі паэта: "Взгляд", "Тень звука", "Витражных дел мастер". Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, прэміі братоў Ганкур і Еўрапейскай акадэміі паэзіі, узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, а таксама "За заслугі перад Айчынай" III і II ступені…

Але ж, вядома, не гэтым знакаміты Паэт, а сваімі помнымі вершамі. Паэзіяй.

Поглядишь, как несметно
разрастается зло —
слава Богу, мы смертны,
не увидим всего.

А. Вазнясенскі вельмі любіў Беларусь, з пашанай ставіўся да нашай нацыі, мовы і культуры, пісаў пра М. Шагала, Р. Барадуліна, У. Бядулю, меў тут шмат сяброў і пакінуў сярод нас добрую памяць па сабе.

Няхай жа ў вечнасці яму сніцца і нашая Беларусь.

Супрацоўнікі РВУ
"Літаратура і Мастацтва"

### Андрэю Вазнясенскаму

Беларусь захлынула й цябе,
Як замова,
Вяснова й зімова.
Слухай жа:
У крынічнай журбе
Журыцца
Беларуская мова!
Слоў сузор'і
Ласкавыя карані —
Не пачуеш папроку, пярэкі.
Мове роднай маёй карані
Вымывалі
Славяншчыны рэкі.
Быццам дыхае глыбіня,
Толькі ўслухайся: пушча, пашча,
Пошапт шчэбету — шпачаня.
Не бывае
Мовы прапашчай!
Я, Андрэй, прыкінуў:
Калі б,
Ці па-руску кажучы, если
Не варочаў ты слоўных глыб,
Ты абраў бы пасаду цеслі.
Воку востраму —
Востры склюд!
Прасмалілі б жывіцай трэскі.
Праступаюць вякі
Праз хлуд:
Чысціня нашых моў,
Як фрэскі.
…А лаўжоўе звязуць вазакі,
Толькі б полымя
Добра шугала!
Ты ж пісаў:
Віцебскія васількі
Захлынулі сінечай Шагала.
Іншаму апяваць зару б,
Іншы любіць
Жарству гравеек.
Ад разваг
Белавежы зруб,
Як у Мураме,
Муравее.
Не зглушыла свирели
Дрэль.
Антысвет
На прыгоды прыгодны.
Добры дзень,
Антыскептык Андрэй —
Рускай мовы вялікі прыгонны!.

Рыгор БАРАДУЛІН

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне вядучаму навуковаму супрацоўніку музея Вашчыла Паліне Паўлаўне з прычыны вялікага гора — заўчаснай смерці БАЦЬКІ.

"Кароль Ротэр" — нямецкая эпічная паэма прыкладна другой паловы XII ст. Твор атрымаў назву паводле імя галоўнага героя — караля Ротэра. Магчыма, ім быў кароль Нармандыі Рогер II, які ў сярэдзіне XII ст. безвынікова сватаў свайго сына да візантыйскай прынцэсы. Галоўны герой паэмы — кароль Ротэр, носьбіт хрысціянскіх каштоўнасцей, барацьбіт за распаўсюджванне хрысціянства і вынішчэнне язычніцтва. Яго антыподам у паэме з'яўляецца кароль Канстанцін. Урывак з твора перакладзены паводле нямецкамоўнага арыгінала і ўпершыню друкуецца на беларускай мове.

# Кароль Ротэр

(урывак)

Магутны Канстанцін / сядзеў у раскошы / за святочным сталом / у пышнай зале. //

Там быў чутны святочны гоман / магутных каралёў / з Вавілона, што ў пустыні. / Ротэр асцярожна прабраўся / да стала Канстанціна. / Побач з ім сядзеў кароль на імя Базылістыум, / сын караля Імялота. / А з ім сядзела жонка Ротэра / і страшна пакутавала. //

Тады Канстанцін сказаў: / "Маўчы цяпер, мая дачка! / Сёння ноччу бачыў я сон, / ты павінна мне паверыць — / што прыляцеў сокал / з Рыма / і забраў цябе назад за мора". / У той час Ротэр і яго дружына / забраліся пад стол, / так, што за імі ніхто не сачыў. / Там ён меў магчымасць падслухоўваць усё, / аб чым вялі гаворку Канстанцін і яго госці. / Каралі-язычнікі былі ў гуморы / і спадзяваліся на сваю вайсковую моц. //

Яны казалі, што калі б прыйшоў Ротэр, / то яго ці загубілі б у моры, / ці ён знайшоў бы ганебную смерць у іншым месцы. / Гэта люта зрабіў бы волат Вітальд! / Каралева ім у адказ: / "Ах, хай жа Бог прывядзе яго сюды. / З вамі, каторыя лічаць сябе вышэй за ўсіх, / ён пазабаўляўся б так, / што вы яшчэ праз тыдзень / адчувалі б страшэнны боль!"//

Ротэр наблізіўся, / узяў залаты пярсцёнак / і палажыў яго маладой каралеве ў руку. / На ім было імя магутнага караля. / Калі каралева прачытала яго і даведалася, / што Ротэр у зале, / яна засмяялася / і сказала маці, / што да іх з Бары / прыехаў кароль. / Гэты смех пачуў Канстанцін. //

Вы цяпер можаце пачуць, што ён адказаў: / "Слава табе, мая любая дачка, / твой добры настрой цешыць твайго бацьку!". / Тады знатная дама адказала яму: / "Я так шкадую, / што я злавалася на цябе, мой бацька, / я больш ніколі так не зраблю!". / Тады Імялот вымавіў: / "Мая гаспадыня, ты хлусіш, / а гэта не так ужо і добра! / Мне здаецца, што твой смех / рыхтуе нам толькі смутак / і прывядзе да бою, / але кожнаму бою будзе канец. / Мы заўсёды напагатове! / У гэтай зале затаіліся / некаторыя з нядобрых пасланцоў / караля з Бары! / Калі мне хто не верыць, / галаву даю адсячы!"//

Сын караля Імялота, / кароль Базылістыум сказаў: / "Я бачыў тут каштоўны пярсцёнак, / які твая дачка, Канстанцін, / перадавала маці сваёй. / Сам Ротэр зараз у гэтай зале, / рымскі кароль, / ты можаш нават не сумнявацца ў тым, / што ён трапіў сюды". / Тады кароль Канстанцін прамовіў: / "Я пашлю дванаццаць сваіх чалавек / заняць месца каля дзвярэй залы, / каб яны праверылі, / хто тут знаходзіцца. / Калі Ротэр і сапраўды тут, / мы адшукаем яго! / Зразумела, што ён палічыў бы за лепшае выйсці сам, / гэта б адпавядала яго паходжанню, / і нам бы не даводзілася / такога знатнага караля ганебна высочваць, / як злодзея на ўцёках! / Гэта таксама не адпавядае яго высокаму стану, / што ён будзе нейкім чынам адмаўляцца, / калі яго прысутнасць будзе раскрыта"[. . .]//

Волаты выйшлі з-пад стала, / Ротэр зрабіў крок наперад: / "Безумоўна я тут, / хто хоча паглядзець на мяне, той можа гэта зрабіць!" / Магутныя каралі пагражалі Ротэру смерцю, / чым самі пазней і паплаціліся! / Тады сын Імялота, / кароль Базылістыум сказаў: / "Я паклапачуся аб тым, Ротэр, / Каб цябе патапілі ў моры! / Ты ўзяў у палон майго бацьку, / і гэта будзе каштаваць табе жыцця! / Смерці ты не пазбегнеш, / але выбраць яе ты можаш сам!"//

"Мой верны сябар, — сказаў Канстанцін, — / ён павінен ганебна загінуць!" / Тады вялікі кароль адказаў наўмысна: / "Калі б я цяпер нават і пазбегнуў смерці, / то ўсё роўна не было б сэнсу жыць далей. / Бачыш там узгоркі / перад цудоўным лесам? / Там я жадаю быць павешаным! / Загадай жа сваім людзям, / каб яны дапамаглі табе пры гэтым, / бо ты павінен асабіста пазбавіць мяне жыцця! / Тут ёсць цэлы гурт людзей, / трыццаць каралёў: / усе яны пойдуць з табой / і пакараюць мяне смерцю праз павешанне / згодна з рашэннем грамады, / гэта будзе адпавядаць твайму высокаму стану, / бо ты адпомсціш мне належным чынам!"//

Сказаў ён гэта наўмысна: / паблізу таго месца, дзе ён павінен быў быць павешаны, / размяшчалася яго войска. / Ён дакладна назваў месца, / дзе з нецярпеннем чакаў волат Аспрыян. / Імялот даў загад каралям / з Вавілона, што ў пустыні, / схапіць Ротэра, / каб асабіста яго пакараць.

Прадмова і пераклад
Наталлі МІЛЕНКЕВІЧ

***Да барока ў нямецкай літаратуры адносяць эпоху ў адно стагоддзе — XVII. Гэта быў складаны час для Свяшчэннай Рымскай імперыі. Справа ў тым, што ў гэтым стагоддзі працягвалася міжканфесійная вайна паміж католікамі і пратэстантамі, якая потым закранула амаль усе еўрапейскія краіны, у першую чаргу Францыю, Галандыю, Швецыю, Данію, Чэхію. Трыццацігадовая вайна (1618 — 1648 гг.) прынесла на нямецкія землі разбурэнне, занепад гаспадаркі, духоўную адзічэласць. Вось у гэты час і тварылі паэты Марцін Опіц, Пауль Флемінг, Сіман Дах, Андрэас Грыфіус, Пауль Герхарт, Крысціян Гофман фон Гофмансвальдаў. У 1669 годзе з'явіўся цудоўны раман Ганса Якаба Крыстофэля Грымельсгаўзена "Прыгоды Сімпліцысімуса". Можа, нялішне ўпамянуць, што на той час жанчынам друкавацца не пасавала. Тым больш хочацца назваць адно імя як выключэнне — Сібіла Урсула фон Браўншвайг-Люнэбург.***

***Для пачатку нямецкія паэты імкнуліся параўняцца з літаратурнымі творамі больш развітых у гэтых адносінах суседніх краін (Англія, Францыя). Яны іх шмат перакладалі для ўзору. Паэзія была ў асноўным лірычнай (любоўнай, бытавой, пейзажнай, духоўнай). Некаторыя царкоўныя песні Пауля Герхарта жывуць да гэтага часу. Андрэас Грыфіус пісаў п'есы пра пакутнікаў. Вялікая ўвага надавалася ўдасканаленню літаратурнай нямецкай мовы. Ствараліся Таварыствы мовы ("Sprachgesellschaften"), якія клапаціліся пра яе чысціню.***

***Марцін Опіц у 1624 годзе выдаў "Кнігу пра нямецкую паэтыку", дзе ўводзіў нормы вершаскладання на грунце чаргавання націскных і ненаціскных складоў (харэй, ямб). Сёння я прапаную некалькі вершаў Марціна Опіца ў сваім перакладзе з нямецкай мовы.***



# Марцін Опіц

(1597 — 1639)

## Каханая, спяшаем

Каханая, спяшаем,
Прыйшоў наш час.
Запозненасць адчаем
Аддзячыць нас.

Карункі прыгажосці
Сплывуць пад схіл.
І скарбы маладосці
Сатруцца ў пыл.

Твой тварык пабляднее,
Ссівее скронь,
Пагляд адпалымнее,
Згарыць агонь.

Каралавы твой роцік
Пабеліць снег.
Здранцвеюць рукі ў слоце.
Які наш век?

Дык сёння хай шалее
Пал малады,
Перш чым нас у завею
Знясуць гады.

Любі сябе самую,
Любі мяне.
Што нам мілосць даруе,
Ўміг прамільгне.

## Carpe diem
(Лаві імгненне)

Жах душою адчуваю,
Што сядзеў, Платон, вось так,
І чытаў цябе, дзівак.
Але час прыйшоў, я знаю,
Выйсці ў свет і ля крыніцы
Водар траў духмяных піць,
Лёгка на мурог ступіць,
Да рыбацтва прычыніцца.

Ну а што ад той навукі?
Можна й розум засушыць!
А жыццё само бяжыць
Без усякае прынукі
Ад пачатку да канчатку,
Хто з нас думае аб тым,
Што канец будзе пустым,
Згіне ў нетрах без астатку.

Гэй, хлапец, мкні да шынкаркі,
Дзе найлепшае віно,
Каб іскрылася яно!
Утаплю я скаргі, сваркі
Ды будзённыя навалы,
Перш чым лёс мяне сагне,
У віне на самым дне
Поўнага свайго бакала.

Да віна купі мне дыняў
І ласункаў для душы,
Не скупіся на грашы!
Дык няхай той скнара гіне,
Хто хаця багацці мае,
Ды шкадуе для яды
І з нуды такі худы;
А я сёння загуляю!
Эх, браты, пакуль мы можам,
Будзем піць, гуляць, спяваць!
Што лепш можа пасаваць,
Чым віно, да песні гожай!
Без набыткаў, ды не ў скрусе,
Я віно ўсё роўна п'ю,
І сябрам руку даю...
Прыйдзе смерць — сам разбяруся.

## Аб Воўчай крыніцы
## каля Хайдэльберга

Крынічка не шуміць, а цішынёй люляе,
Замкнутая між гор,
бы крэпасць між муроў,
Прынцэса ўсіх крыніц,
з вадой жывой, як кроў,
На выгляд — малако, глынеш —
аж захмяляе.

Курфюрст гэтай зямлі сюды не раз трапляе,
Дзе з Німфаю сваёй, уцёкшы ад сяброў,
Пачуе птахаў гімн у пошуме дуброў,
Дзе жарсць бязгрэшную прырода распаляе.

Напэўна, ў гэтую даліну недарма
Замуравана ты, дзе гор і скал — гурма:
Прыроды прыгажосць цябе тут абдымае,

Каб паміж траў і дрэў
з нас кожны разумеў,
Што патрабуюць сілы прыгажосць і спеў,
Што гожага без намаганняў не бывае.

## Скарга дзевы
## на надыход старасці (санет X)

Як мне вярнуць той час,
а з ім і добры звычай
Мой воблік з ружай вогненнай раўняць?
Як ні круці —
сівую старасць не прагнаць.
Пакуль прамень-задзіра ружу паказыча,

Прыгасіць цёмнай ночы змрок яе аблічча,
Адна раса завянуць кветцы не дае.
Так акрапляюць твар мой слёзанькі мае,
Таму што ўсё ўва мне назад юнацтва кліча.

Прыходзіць раніца, каб ружам чырванець,
Я старасці саромлюся і чырванею ледзь.
Але я суцяшаюся, што прыйдзе вечар,

Што з адыходам дня і ружа абляціць,
І я чакаю з вечарам сустрэчы,
Бо адысці мне ўжо самой карціць.

## Дарында

Дарында, сцішы парыванні
І не ўцякай, спачні на тым.
Нянавісць змешваеш з каханнем,
І ў ім не пал цяпер, а дым.

Хістацца той не мае права,
Хто пакахаў — і назаўжды,
Хто ўсе пачуцці, думкі, справы
Грунтуе стала, на гады.

Дарма сябе ўвесь час трывожыш,
Пакінь пустое выдумляць.
Што ад мяне забраць ты можаш?
Я ж не магу нічога даць.

Мы нараджаемся для свету,
Калі ты ёсць, табой жыву,
Адсутнасць — знешняя прыкмета,
А я расстання не заву.

Хадзем ка мне, будзем кахацца,
Прыгожая, каханню вер.
Хадзем! Калі змагла застацца,
То бегчы позна ўжо цяпер.

## Калі ляжу
## ў тваіх абдымках

Калі ляжу ў тваіх абдымках я, шчаслівы,
То што патрэбна мне, і што яшчэ жадаць?
Ты асалода, ты святло, цябе пазнаць
Мне даражэй гадзін пустых і мітуслівых.
Я думаю: вайна — для ваяўніча-хцівых,
Для тых, хто Марсам трызняць —
спяць і бойку сняць,
Ім варта толькі зброю ўзяць
і ворага дагнаць,
Загінуць ці перамагчы —
закон непалахлівых.
Я не такі, Дарында, пэўна ж, не герой,
Не дабівай мяне правіннасцю старой,
Ад гэтага ані я лепшым не зраблюся.
Твая мілосць важней —
што хочаш заплачу,
Быць Цэзарам ці Аляксандрам не хачу,
Ты мне ўвесь свет, я на цябе малюся.

## Яна звяртаецца да вачэй
## свайго каханага,
## якія яе палоняць (Санет XXII)

О вочы, вочанькі, калі ваш бляск я бачу,
Тады душой і целам быццам аджыла,
Зарадуюся ўраз, а сумная ж была,
Хоць і не ведаю, а што для вас я значу.
І я лічу той момант часта за няўдачу,
Калі зірнеце на мяне без іскрынкі цяпла,
Тады жахліва мне, нібы бяда прыйшла,
Я веру толькі вам, але чамусьці плачу.
Вы зоркі на зямлі, смяротныя планеты,
Свяцілы, што мяне зжыць можаце са свету.
Без вас і радасць для мяне — міраж пусты.
І не дзівіцеся, што я да вас імкнуся,
Бо ад стралы,
што смерць пашле, абаранюся
Я толькі вамі:
вы мой верны шчыт заўжды.

## Рашэнне (Элегія)

Каханне пачуццё — салодкая атрута —
Гняло мяне даўно, але яно прайшло:
Я быў, нібы дзіця, спакусай моцна скуты,
Цяпер жа, дзякуй Богу, як і не было.
У новай старане шукай цяпер паэтаў;
Венера, іншыя задачы у мяне;
Мне не цікава сёння, як ты, дзе ты,
Пустая слава хай мяне міне.
Што слабая мая рука раней пісала,
Якой вадзіла ты, павінна маладосць;
Цяпер мая душа "не!" гэтаму сказала,
Чаго не любіш ты, мне часта мёдам ёсць.
Калі кіруюся разважлівасцю сціплай,
Як ты мне юную дурыла галаву,
То бачу, што твой сын
да жартачкаў нязвыклы,
Цябе ж, Венера, я гандляркай назаву.
Ты сімвал рынку, дзе душой гандлююць,
Ты той гнілы куток, дзе горкі сум жыве,
Вар'яцкі дом, дзе жыхары яго балююць,
Ты човен, у якім сумленне ў вір плыве.
Навошта прыгажосць,
калі ўсё раптам згіне,
І чырвань вуснаў, і мармур цела — дзе?
І бляск вачэй — двух сонцаў, што астыне,
І бель грудзей, калі ўсё гэта прападзе?
Яны загінуць, нам не мінуць магілы
Зямная наша мітусня — нікчэмнасць, тло,
Раскоша, чын, дабро, на што мы трацім сілы,
Развее вецер, час разатрэ, як не было.
Пакіну ўсё гэта, юнацтва праляцела,
Каханне жарсць сваю забуду назаўжды.
Я буду ўдасканальвацца смела,
Хай не паспею і памру, ну і такой бяды.

## Песня жарсці

Ляжалі ў ліхаманцы,
Пёк закаханых жар.
І ён казаў каханцы:
"За твой бясцэнны дар
Пакуты я трываць гатовы,
Памерці нават, вер на слова".

Гарэў агнём пякельным,
Нічога болей не пытаў.
У пале іх суцэльным
Пульс збіўся і прыстаў.
Ён, да яе нібы прыкуты,
Шчаслівы быў трываць пакуты.

Яна заплюшчылася ціха,
Ён быццам паміраў.
Уздрыгнуў целам, цяжка дыхаў.
Бо ўжо перагараў.
Змаглося сэрца, кроў бурліла,
Душу, здаецца, жарсць спаліла.

Яна: „Жыццё маё, каханне,
Я ад цябе уся плыву. . .".
"А я, — сказаў ён, — без дыхання,
Здаецца, болей не жыву".
Нарэшце скончыўся ва ўлонні,
На фінішы сваёй пагоні.

Прадмова і пераклад з нямецкай мовы
Уладзіміра ПАПКОВІЧА



# Магілёўскі пакроў

**Жыхаркі Магілёва, Таццяна Пятрэнка і яе сяброўкі, пашылі вялізнае пано "Вясёлка Перамогі", якое складаецца з лапікаў памерам 45х45 см. На гэтую незвычайную задумку жанчын натхнілі полацкія майстрыхі, якія зрабілі падарунак да 1145-годдзя роднага горада. Тады, два гады таму, Таццяна прыняла ўдзел у стварэнні "Полацкага абярэга". Яна, як і многія жанчыны Беларусі, а таксама блізкага і далёкага замежжа, даслала сваю працу — неабходнага памеру блок, сшыты з лапікаў. Пасля таго як Таццяна ўбачыла ўжо гатовае полацкае пано на свае вочы, яе захапіла ідэя зрабіць свайму гораду падобны па тэхніцы выканання падарунак.**

З Таццянай мы ішлі па вуліцах Магілёва, яна распавядала пра горад. Жыве майстрыха ў прыватным старэнькім драўляным доме. Звонку ён выглядае як вясковы — невялікі, прысадзісты. Але як толькі пераступаеш парог, перад госцем паўстае сапраўдная краіна цудаў, прыдуманая і ўвасобленая дбайнымі гаспадарамі. Пляцень з чыгункамі, побач — кветкі і невялікая лава, на якой будуць сядзець лялькі. Можна ладзіць экскурсіі нават па гэтым доме. Жанчына шые, вышывае не толькі ніткамі, але і бісерам, аздабляе велікодныя яйкі, займаецца рэстаўрацыяй лялек. Але ўсе гэтыя заняткі з'яўляюцца другараднымі, бо найперш жанчына працуе над стварэннем магілёўскага пакрова, работа над якім пачалася не адразу, трэба было знайсці аднадумцаў, якія б дапамаглі ў нялёгкай працы.

— На запрашэнне адгукнуліся толькі тры чалавекі. Большасць жа цікавіў матэрыяльны бок: паўставала пытанне грашовай узнагароды. Зразумела, ніхто за нашу працу не плаціць. Але мне хацелася аб'яднаць людзей роднага горада, якіх бы захапляла агульная праца. Тое, што мы робім — для асабістага задавальнення, прыгажосці.

Так цягам часу з'явіўся жаночы клуб "Яселка". Ён знайшоў прытулак у сценах дома яго арганізатаркі — Таццяны Пятрэнкі. Цяжка нават уявіць, як ладзіцца тэхнічны працэс, таму што пакой, у якім працуюць майстрыхі, невялікі. Гаспадыня тлумачыць, што падчас працы над пано ўсё вольнае месца ў пакоі займаюць лапікі.

— Мы працуем учацвярых, — тлумачыць Таццяна. — І мы не прафесійныя швачкі. Навыкі ёсць толькі ў Людмілы Манёнак, яна працуе швачкай у магілёўскім ПТВ-138. Галіна Жарыкава — вядучы інжынер прадпрыемства "Магілёўэнерга", а Наталля Пералта Карэя — фасоўшчыца ў прадуктовым магазіне. Нам давялося прачытаць шмат вучэбнай літаратуры, напачатку нават вялі перапіску з полацкімі майстрыхамі, — расказвае Таццяна Маркаўна. — І толькі праз тры месяцы плённай працы з'явілася сяміметровае пано. Пасля далі аб'яву ў мясцовую газету з прапановай усім жадаючым прыняць удзел у нашай акцыі. Першай адгукнулася Людміла Мытнікава, жыхарка Калінкавіч, яна даслала вышыўку з бісеру. Крыху пазней атрымалі сшытыя з лапікаў блокі ад полацкіх майстрых, удзельніц клуба "Рошва". Парадавалі сваёй арыгінальнай працай і гімназісткі расійскага горада Таржок.

Сапраўды, работа адметная сваёй задумкай. На лапікі яны прыклеілі ўласныя фотаздымкі. Атрымалася аплікацыя з дзявочымі ўсмешкамі. Дарэчы, гэтая ідэя настолькі спадабалася Таццяне, што яна зрабіла насеннае пано з фотаздымкамі найлепшых сяброўак, якія прымаюць удзел у працы.

— Ці звярталіся па дапамогу да якіх-небудзь арганізацый?

— Так. На пачатку нашай працы вельмі дапамог Юрый Валабуеў, кіраўнік грамадскага аб'яднання "Рускі дом", што знаходзіцца ў Магілёве. Ён разаслаў лісты ў розныя пасольствы з прапановай прыняць удзел у нашай працы, таму што ідэя па стварэнні пано трымаецца на традыцыі аб'яднання не толькі беларусаў, якіх лёс раскідаў па розных краінах свету, але і тых людзей, для каго Беларусь стала родным домам. Але, на жаль, ніхто з далёкага замежжа на прапанову не адгукнуўся. Аказалі дапамогу беларускія прадпрыемствы "Світанак", "Ольса", "Вяснянка", "Лента". У іх мы куплялі абрэзкі тканіны за невялікія грошы.




Дапамагае ў працы над пано і муж Таццяны Генадзь. Ён стварае фоталетапіс, нават слайды зрабіў. Умоўна магілёўскі пакроў складаецца з трох частак. І, не паверыце, ні ў адной з іх няма сюжэта, які б паўтараўся. Настолькі бязмежная фантазія!

— Адкуль бераце ідэі для сюжэтаў? — цікаўлюся ў майстрыхі.

— Многае прыдумваем самі, але, папраўдзе, падглядваем і ў спецыялізаваных часопісах. Але ў нас усё роўна не так атрымліваецца, бо ўсё залежыць ад якасці тканіны. Наша праца больш простая.

Пано выканана рознымі тэхнікамі. Тут і бісерапляценне, і вышыўка, і элементы аплікацыі. А галоўная частка пано змяшчае верш магілёўскай паэтэсы Раісы Смаляковай. Ён прысвечаны перамозе савецкіх войск у Вялікай Айчыннай вайне. Побач — аплікацыя з выявай архітэктурных помнікаў Магілёва. Нездарма пано называецца "Вясёлка Перамогі". Пакуль даўжыня пано складае 7,25 м, а шырыня — 2,25 м. Але да 9 мая Магілёўскі пакроў вырас. Менавіта ў Дзень Перамогі майстрыхі зрабілі Магілёву адмысловы падарунак. Вось толькі Таццяна дакладна не ведае, дзе будзе захоўвацца іх пакроў: ці ў ратушы, ці ў этнаграфічным музеі — час падкажа.

Да размовы далучыліся сяброўкі і памочніцы Таццяны: Галіна Жарыкава і Наталля Пералта Карэя.

— У Танінай кватэры, як у музеі, часта змяняюцца экспазіцыі. Сёння вышыўка на чорнай канве, а цягам часу на сценах з'явяцца іншыя карціны, — дзеліцца ўражаннямі Галіна.

— А чаму вы назвалі свой клуб "Яселка"?

— Назву падказала дырэктар этнаграфічнага музея Святлана Рыбакова. Яселкай раней называлі скрыначку для захоўвання рэчаў, неабходных для шыцця.

І сапраўды, пакроў з'яўляецца своеасаблівай маленькай скарбонкай, якая захоўвае фантазію майстрых, рэалізаваную ў непаўторных сюжэтах з тканіны.

Марына ЯЎСЕЙЧЫК,
студэнтка 3 курса Інстытута журналістыкі БДУ

На здымках: майстрыха Таццяна Пятрэнка дэманструе частку пано "Вясёлка Перамогі"; герб Магілёва — у цэнтры народнага шэдэўра.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Сёлета раманы «Уліс з Прускі» і «Расія» вядомага навукоўца і пісьменніка Уладзіміра Гніламёдава вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.
Гэта мастацкія міфы-экскурсы ў гісторыю палескай вёскі ды расповеды пра бежанства беларусаў падчас Першай сусветнай вайны, пра іх цяжкае жыццё ў далёкім Паволжы, а таксама іх удзел у ваенных баталіях пры паралельным адлюстраванні падзей рэвалюцыйнага 1917 года… У наступным нумары чытачы змогуць пазнаёміцца з артыкулам крытыка і літаратуразнаўцы Міколы Мішчанчука, які аналізуе гэтыя творы і дае ім высокую і дастаткова аб'ектыўную ацэнку.

З глыбінкі

## Радкі, напісаныя лёсам

Шмат паважаных людзей жыве на Уздзеншчыне. Сярод іх — палкоўнік у адстаўцы, былы партызан, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Анатоль Рагалевіч. Яго пяру належаць аўтабіяграфічныя кнігі "У родного порога. Друзья и годы", "Невыдуманные истории", "Двадцать семь лет вне строя", "Тридцать семь лет в строю".

Супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса падрыхтавалі і правялі прэзентацыю кнігі Анатоля Іосіфавіча "Тридцать семь лет в строю". На мерапрыемства ва ўтульнай актавай зале сабраліся вучні і настаўнікі санаторнай школы-інтэрната. Пад гукі "Майскага вальса", звон медалёў і апладысменты яны віталі ветэрана. Ва ўрачыстай абстаноўцы вядучыя прапанавалі госцю свята запаліць агонь Памяці.

Шмат чаго прыйшлося перажыць Анатолю Рагалевічу за свой век. Вялікая Айчынная вайна не дала юнаку скончыць школу, у семнаццацігадовым узросце ў пачатку 1943 года трапіў у партызанскі атрад імя Р. Катоўскага, дзе быў сувязным, потым змагаўся ў атрадзе імя Д. Фурманава брыгады імя К. Ракасоўскага, ваяваў кулямётчыкам, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Усходняй Прусіі. Быў удзельнікам парада партызан у горадзе Мінску. Доўгачаканую Перамогу сустрэў у Кёнігсбергу. За ўдзел у фарсіраванні ракі Нарэў і баях па пашырэнні наступальнага плацдарма прадстаўлены да ўзнагароды медалём "За адвагу". Атрымаў два раненні, была і кантузія.

Хлопчыкі і дзяўчынкі падрыхтавалі розныя пытанні, з адказаў на якія даведаліся, што пасля вайны праслужыў Анатоль Іосіфавіч у арміі трыццаць сем гадоў, знаходзіўся на пасадзе памочніка старшага Групы савецкіх ваенных спецыялістаў у Гвінейскай рэспубліцы, атрымаў медаль "Ветэран Узброеных сіл СССР", а баявую эстафету перадаў свайму сыну Аляксандру, у той час курсанту Ташкенцкага вышэйшага каманднага ваеннага вучылішча.

У падарунак для Анатоля Іосіфавіча і ўсіх прысутных прагучалі лепшыя нумары мастацкай самадзейнасці ў выкананні школьнікаў — пераможцаў конкурсу ваеннай песні. На памяць пра святочную сустрэчу ветэран атрымаў кветкі і сувеніры, а ў сваю чаргу падарыў школьнай бібліятэцы кнігу "Невыдуманные истории".

Аксана ДРАЧАН

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2998
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 3.06.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2651
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4666